

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 4(111) Ліпень 2003 July Год выд. 11.


# Ушануем нашы гістарычныя сімвалы

Даўно цікаўлюся даведачнай літаратурай, асабліва той, якая выходзіць у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі".

Па магчымасці, гэтую літаратуру набываю для сямейнай бібліятэкі. З вялікім жаданнем я набыў два першыя тамы доўгачаканай "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі".

Калі я ў кнігарні ўзяў у рукі трэці том ЭБГ, сваім вачам не паверыў: ці тое выданне трымаю ў руках? А справа ў тым, што на вокладцы першых двух тамоў змешчана выява "Пагоні" – старажытнага беларускага герба, а пачынаючы з трэцяга тома рэдакцыйная калегія палічыла чамусьці "Пагоню" не друкаваць. Мяне гэта вельмі здзівіла, чаму нават у гістарычным даведніку няма месца сапраўднаму гістарычнаму факту. А з'явіўся ў друку трэці і наступныя тамы ЭГБ пасля травеньскага (1995 г.) рэферэндума.

На працягу 85 гадоў у Беларусі некалькі разоў мянялі дзяржаўную сімволіку. Палякі, нашы суседзі, на працягу стагоддзяў не мянялі сваю дзяржаўную сімволіку. Нават у часы, калі кіравала камуністычная партыя, дзяржаўнымі сімваламі былі белы арол, чырвона-белы сцяг і гімн "Ешчэ Польска не згінэла". У палякаў іншыя адносіны да сваіх дзяржаўных сімвалаў, традыцый, гістарычнай спадчыны, мовы і культуры, чым у беларусаў.

Гербу "Пагоня" больш за 700 гадоў. Яго гісторыя пачынаецца з 13 стагоддзя. "Пагоня" была дзяржаўным гербам Вялікага княства Літоўскага. Ягайла (1348-1434), стаўшы польскім каралём, аб'яднаў у адным гербе "Пагоню" і арла, хоць нярэдка ўжываў іх і паасобку. "Пагоня" была на 30 (з усіх 40) сцягах (харугвах) атрадаў Вялікага княства Літоўскага, якія ўдзельнічалі ў Грунвальдскай бітве (1410).

Паводле звестак храністаў 16 стагоддзя Б.Папроцкага і А.Гваньіні, малюнак "Пагоні" быў на харугвах Мінска, Навагрудка, Мсціслава, Віцебска, Смаленска, Вільні, Трокаў, Драгічына; Берасцейскага, Мсціслаўскага, Мінскага, Вілейскага, Навагрудскага ваяводстваў; Полацкага і Рэчыцкага паветаў. З 1652 года "Пагоня" — герб Слуцка.

Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі ў канцы 18 ст. урад Кацярыны II надаў герб "Пагоня" шэрагу беларускіх гарадоў — Магілёву, Віцебску, Гарадку, Дрысе, Лепелю, Полацку, Рэчыцы, Суражу, Чэрыкаву, Беларускаму гусарскаму палку (1773).

"Пагоня" была адлюстравана ў гербах Гродзенскай, Віленскай і Віцебскай губерній; Ашмянскага, Вілейскага, Дзісенскага і Лідскага паветаў. "Пагоняй" карысталіся таксама Гродзенскі лейб-гвардыі гусарскі полк, Полацкі мушкецёрскі полк і іншыя.

"Пагоню" выкарыстоўвалі паўстанцы 1794, 1830-31, 1863-64 гадоў. Герб "Пагоні" прысутнічаў у Вялікадзяржаўным гербе Расійскай імперыі, дзе атаясамліваўся з Полаччынай, Віцебшчынай, Віленшчынай і Беласточчынай. Пасля абвяшчэння ў 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі быў яе гербам. З верасня 1991 да чэрвеня 1995 "Пагоня" была дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь.

Некалькі гадоў ужо ў нашай краіне ў траўні месяцы на дзяржаўным узроўні адзначаецца свята дзяржаўнага сцяга і герба Рэспублікі Беларусь. У гэты дзень не шкодзіла б хаця б адзін раз у год разам з сучаснымі атрыбутамі дзяржавы вывешваць нашы старадаўнія дзяржаўныя сімвалы — бела-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоню". Гэта было б добрым напамінкам нашчадкам аб нашай багатай гісторыі, аб нашых слаўных продках, якія змагаліся за незалежнасць і дабрабыт Бацькаўшчыны.

Іван КОБАН, жыхар г. Слоніма



Васіль БЫКАЎ не жыве —
ён адыйшоў у вечнасьць...
Вечная яму памяць!





## Джордж Крол: надзеі на пераўтварэньне Беларусі ў нармальную дэмакратычную дзяржаву пакуль не спраўдзіліся

*Злучаныя Штаты не імкнуцца да міжнароднай ізаляцыі Беларусі і гатовыя паступовa, крок за крокам, паляпшаць зь ёй двухбаковыя адносіны. Гэтымі прынцыпамі намерваецца кіравацца ў сваёй працы дасьведчаны амэрыканскі дыплямат Джордж Крол, прызначаны Джорджам Бушам новым амбасадарам ЗША ў Менску. Ён выступіў на слуханьнях у камітэце замежных справаў сенату, прысьвечаных зацьвярджэньню яго кандыдатуры.*

Крол заявіў, што на думку амэрыканскай адміністрацыі, надзеі на пераўтварэньне Беларусі ў нармальную дэмакратычную дзяржаву пакуль не спраўдзіліся. Прыярытэтным накірункам дзейнасьці амэрыканскай амбасады ў Менску павінна стаць пашырэньне кантактаў зь беларускімі грамадзянамі, асабліва моладзьдзю, якім ЗША намерваюцца аказваць падтрымку ў стварэньні грамадзянскай супольнасьці, незалежных СМІ, дэмакратыі й рынкавай эканомікі. Акрамя таго, сказаў Крол, Злучаныя Штаты "сур'ёзна заклапочаныя ў сувязі з роляй Беларусі ў перадачы ўзбраеньняў і іншых матэрыялаў " так званым праблемным дзяржавам.

Калі беларускія ўлады зьменяць сваю палітыку ў сфэры правоў чалавека й дэмакратыі, ЗША будуць гатовыя "зрабіць у адказ адпаведныя крокі", адзначыў кандыдат на пасаду амбасадара. Пераўтварэньне Беларусі ў развітую дэмакратычную дзяржаву, мяркуюць у Вашынгтоне, адпавядае інтарэсам яе народа і будзе садзейнічаць умацаваньню эўрапэйскай бясьпекі.



**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПА ЖЫВЫХ ХАЎТУРЫ НЯ ПРАВЯЦЬ

Хам, адзін з трох сыноў Ноя, неяк згледзеў на сьпячым, з падпітку, бацьку непрыкрыты сорам і памкнуўся было справакаваць братоў да пацяшэньня з неабачлівасьці старога. Але тыя, Сім і Яфэт, не спакусіліся блюзьнерствам, ахінуўшы далікатна агаленьне на бацькавым целе. Спомненую тут старазапаветную калізію ў свой час пранікліва пракаментаваў А. Чэхаў: "Хам заметил только, что отец его пьяница и совершенно упустил из виду, что он построил ковчег и спас мир". Што раз часьцей згадваю гэты інцэндэнт, асабліва, чэхаўскую рэмарку, калі даводзіцца мець справу з наскокамі на Беларушчыну — мову, культуру, нацыянальную ідэю, адраджэнскую інтэлігеннцыю — з боку некаторых палітыкаў, публіцыстаў, інтэлектуалаў. Можа народ наш не з самых дасканалых і ня надта імунітэтны перад рознымі спакусамі, алеж і міжвольныя слабасьці, пралікі свае не кідаецца расхінаць сьвету беламу. Тым ня менш, "хамскі" сіндром, заўважана, даволі часта спрацоўвае ў абыходжаньні мондрых міра сего адносна свайго народу, яго многавечнай гісторыі, духоўнай спадчыны, з носьбітамі яе і абаронцамі.

Наша самапрыніжальнае некрафільства іншым разам не супраць падхапіць, пад "інтэграцыйную" нагоду, шырокавяшчальныя расійскія СМІ. Не так даўно не абы хто, сама Найясьнейшая Карона з колішняе "северо-западной окраины" шчыравала з маскоўскай тэлестудыі да ўсерасійскага, натуральна і беларускага гледача: беларуская культура не раўнуючы рускай бедная культура... /гэтыя-ж вусны калісьці агалошвалі суродзічаў ня менш забойчым вэрдыктам: беларускі язык — бедны язык, на нём невазможна выразіць высокія мыслі. Адпаведнае "высокамысьліе" пакіньма ацэньваць прышлым соцыялінгвістам, культуролагам.../. Рускі мой калега, зьніякавелы ад убачанага-пачутага, не стрымліваў горычы: "Что за пошехонская дремучесть! Надо-же так не уважать ни себя, ни свой народ!"

Яшчэ прыклад. Дужа незалежная расійская газэта, пэўна не надзеячыся пасягаць на кляйноты суседняга народу, надрукавала развагі аднаго вучонага юрыста — пад загалоўкам як-жа вымоўным: "Тутэйшыя. Беларусь. "Западные губернии Росии" или "Kresy wschodnie?" /Независимая газета, 1999, 25.08. Особая папка НГ. Восточная Европа/. З тых сэнтэнцыяў дазнаёмся сярод іншага пра нявыяўленасьць, хімерычнасьць нашае нацыянальнае ідэі /"а возможна ли белорусская идея вообще"?/, сьледам — пра жалюгодную наканаванасьць беларускага лёсу: "Белорусы — носители не собственной уникальной идентичности, а чужой — московской или европейской. По этой причине наиболее оптимальной программой для Беларуси, видимо, может считаться "неозападнорусизм". Вольныя экзерсісы маскоўскага аўтара адразу-ж перадрукавалі ў беларускім часапісе, нават без агаворкі, што гэта пераклад з рускае мовы — мабыць праз спакусу выдаць іншаземны тэкст за свой уласны.

Вяроўкай хаўтурнага звону торгнуў нядаўна і штотыднёвік "Голас Радзімы" /2003, 11. 03/: "У беларусаў няма ідэі, у беларусаў ёсьць шлях". Далей-болей: "У нас няма гісторыі, няма культуры, няма мовы, ды і самі беларусы... ці то яны ёсьць ці іх няма — гэта яшчэ пытаньне". Нішто сабе шчырасьць на спажытак масавага тутэйшага чалавека. Я ня супраць дубляваньня "пункту гледжаньня" вядомага крытыка з многасоттысячных бачынаў "Советской Белоруссии" ў газэце тыражом куды сьціплейшай, скіраванай да суайчыннікаў у замежжы. Хоць пазнаму можна разглядаць, аналізоўваць грэшнае, супярэчлівае жыцьцё наша — сучэснае і маркотнае, ня раз бунтоўна пратэстнае. Скажам, на вулічных шэсьцях, пікетах, судовых залях — з несьціханым розгласам: *"Жыве Беларусь!"* Можа ў гэтым нескароным *"Жыве!"* — векавечным выбуху з-пад агністага сэрца Купалы — выкрышталізаваўся генэтычны код, калі заўгодна, інтэлектуальны алгарытм беларускае ідэі — як сьведчыць гісторыя, трывучае, незнішчальнае.

Пра тую трывучасьць сёньня маглі-б нямала распавесьці, часткова і распавядаюць рэпартажы з міліцэйскіх пастарункаў, з-за кратаў на Акрэсьціна, дзе каторы год запар не перастаюць сьціхамірваць апантанцаў тае самае нацыянальнае ідэі. Урэшце, і самі Ластоўскі, Цьвікевіч, Тарашкевіч, спомненыя ў цытаванай вышэй "ГР", сваімі творамі, трагічным зыходам куды ўжо пераканальней давялі і даводзяць неўміручасьць нашае мовы, гісторыі, культуры. Не кажу пра адмысловыя фаліянты "Беларуская думка XX стагодзьдзя" /1999/, "Беларуская нацыянальная ідэя" /2000/, безьліч сьціплейшых, адпаведных, працаў. Асобнага разгляду заслугоўвалі-б дваццаць з гакам навуковых зборнікаў "Беларусіка. Albaruthenica" — унікальнае візытоўкі (дзякуй нястомнаму Адаму Мальдзісу!) міжнароднае беларусаведнае думкі. Ні ў славянскім, ні ў заходнеэўрапейскім, амэрыканскім, японскім сьвеце незьвяліся, дзякуй Богу, дасьледнікі, прагныя скарбаў Слова беларускага, нашае нацыянальнае культуры.

Дарэчы — нятускнае, цяпер ужо амаль хрэстаматыйнае філасофскае эсэ Ігната Абдзіраловіча /І. Канчэўскага/: "Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветагляду". Праца, відавочна зроджаная з набалелай патрэбы выказаць суродзічам сутнасьць іхняга пакліканьня ў цывілізацыйным працэсе: не загубіцца на драматычных ростанях Усходу-Захаду, сьцьвердзіць сябе, самавыявіць як самабытная супольнасьць — паважаны гаспадар ва ўласнай хаце, а не жабрак-папіхайла чужацкіх прымхацяў. Чым не ідэя — на Адвечным шляху? Бо, скажэце, што за шлях — без ідэі, без мэты? Калі па ім, прабачце, не авечак аблудных таўпечацца гурт, але крочыць сьвядомая, прагная ўсьведамленьня грамада.

"А хто там ідзе? А хто там ідзе?..". Зноў-жа помніцца, на старонках апазыцыйнага пэрыёдыка адзін рашучы публіцыст, у палемічным запале, кінуў раздражнёны выклік запаветнаму выслоўю Паэта-прарока: "А кто там идет? — Холуи!" Навошта-ж гэтак задзёрыста? Нават калі і халуі / халопы, перакіньчыкі, адрачэнцы, янчары/ тлумяцца пад нагамі грамадзкага шэсьця, часам тужацца ім верхаводзіць. Не яны, па буйному рахунку, вызначаюць гістарычную існасьць хады, зрухі Вялікага Часу. Няўжо з-за пацукоў падпальваць стадолу?

Калі-ж мы насамрэч гэткія нямоглыя, нішчымныя, дарэшты асірочаныя з уласнае гісторыі, культуры, нацыянальнае годнасьці — чаму-б не адарыць нас і тым і другім? І — адарваць! Вунь ужо прапануюць нехлямяжным сіратам фігуру дасюль нязнанага "белорусского мыслителя" ...Івана Лукіянавіча Саланевіча /гл. Беларуская думка, 2002, №7/. У гісторыі-ж Беларусі той адзначыўся хіба што цынічным пляўком у бок зямлі, народа, адкуль калісьці рушыў у вялікі сьвет. Варта раскрыць дужкі "беларускасьці" ў яго мысьлярстве:

"Я... стопроцентный белорус, очень рад, что меня учили русскому языку, а не беларускай мове, что Пушкина не заменяли Янкой Купалой и просторов империи уездным патриотизмом с сеймом в Вильно або у Минску" /Солоневич И. Россия в концлагере. Т.И. София, 1936. с.224/. Цяперашнія пасьлядоўнікі "100%-га беларуса", на свой лад, таксама падзіўляюць-пацяшаюць сьвет размаітымі адкраненьнямі, спрабуючы выдаць за найноўшую моду спарахнелае рызьзё з гістарычнага сьметніка: белорусы — те же русские, только со знаком качесва; русский язык — это наш (беларусаў) родной язык; сегодня в Беларуси русскому человеку живется лучше /русіфікатару/, чем в России і г.д. і да т. п. У чым нашы дамарослыя "стопрацэнтныя" абскочылі сваіх папярэднікаў — "западнорусов" — гэта пэўна ў спрытнасьці "качаць" дэвідэнды з халопскага сэрвілізму перад Старшым Братам. Там, здараецца, па-належнаму ўспрымаюць і стымулююць сэрвільнае віхляйства: "Даже само слово "белорусы" как бы означает "белые русские" /Литературная газета, 2003, 5.11.03. Лад. Вып. 6. С.І/. Далей, па-свойму, таксама лагічна: калі вы гэткія белыя, чыстыя расійцы, навошта вам шукаць лепшае долі інакай як у супольным доме, "в едином государстве" з вялікарускімі братамі /Быццам нельга крэўнічаць, сябраваць жывучы самастойна, паасобнымі дамамі, а не ў пратухлай, сварлівай камуналцы/.

Так што другая, іншаземная Карона няблага ведала, што робіць, калі раптам запрапанавала незалежна-сувэрэннай Беларусі "абласьніцкі" рай у сваёй дзяржаве. Яна, Карона, трэба думаць, прыслухоўваецца, спраўна "сечет" парады сваіх экспертаў як і вольна-адвольныя развагі інтэлектуалаў.

Сёньня многім — "і чужынцам і юдам сваім" /выраз Максіма Танка/ — дужа няймецца на зглумленых скрыжалях Беларусі замест імёнаў Каліноўскага, бротоў Луцкевічаў вычэканіць прозьвішчы Мураўёва-вешальніка, манархіста Саланевіча. Што зробіш, такі ўжо смутны час — час падману і бруду. Трэба мужна ператорваць, адолець забруджэньне Беларускай дарогі, калі *Гразь* "запэцкала, пэцкае нашу спадчыну, нашу культуру, нашу гісторыю, нашу мову: яна запэцкала і пэцкае само найменьне беларуса, сemantыка якога якраз і зьмяшчае ў сабе тыя колеры, што выяўлены ў нашым, таксама запэцканым ёю дзяржаўным сьцягу" /Алесь Разанаў. Жыта і васілёк/ Літаратура і мастацтва, 1997, 17.01/.

Але смута праміне, гразь усохне,скрышыцца. Сонца шчадрэй пралієцца ў наша ваконца. Хада Беларускім шляхам рушыць спарней, радасьней. "Будзем сеяць, Беларусы!" — лекаваў нашы сэрцы Паэт падчас роспачы ў чорную ноч. Верма і сёньня ў плёнласьць сяўбы. З непагаснай Ідэяй — "Жыве!"

Аляксей КАЎКА, Масква.

---

# АЛЯКСАНДАР КВАСЬНЕЎСКІ ЎРУЧЫЎ ЎЗНАГАРОДУ БЕЛАРУСКАМУ ПІСЬМЕНЬНІКУ ЗЬ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ САКРАТУ ЯНОВІЧУ

У прэзыдэнцкім палацы ў Варшаве прэзыдэнт Аляксандар Квасьнеўскі ва ўрачыстай атмасфэры ўручыў вядомаму беларускаму пісьменьніку зь Беласточчыны Сакрату Яновічу прэстыжную ўзнагароду імя Анджэя Дравіча. Гэтай узнагародай чацьверты год запар ушаноўваюцца людзі, якія зрабілі асаблівы ўклад у кшталтаваньне кантактаў палякаў зь іншымі народамі ў духу талерантнасьці і ўзаемнай пашаны.

Сакрат Яновіч быў абраны аўтарытэтным журы ў якасьці ляўрэата ўзнагароды імя Анджэя Дравіча сярод 30 кандыдатаў з Нямеччыны, Вялікабрытаніі, ЗША ды іншых краінаў.

Сябра журы, адзін з найбольш выбітных польскіх інтэлектуалаў і грамадзкіх дзеячоў Яцэк Куронь, у прывітальным лісьце патлумачыў выбар сёлетняга ляўрэата наступным чынам: "Я веру, што творчасьць пісьменьніка, паэта, публіцыста і выдаўца Сакрата Яновіча мае для самасьвядомасьці сучасных беларусаў, а таксама для справы збліжэньня беларусаў і палякаў, вялізнае значэньне. Заўважу, што на беларуска-польскім памежжы нараджаліся і нараджаюцца шмат талентаў. Узгадаю Адама Міцкевіча, для якога беларускія народныя традыцыі былі надзвычайна важныя. Пачынаючы "Пана Тадэвуша" словамі "Літва, айчына мая", ён пісаў пра ўсё Вялікае Княства Літоўскае – дзяржаву, дзе канцылярыя карысталася беларускай мовай. Можна сьмела сказаць, што колішняе ВКЛ было чымсьці накшталт той аб'яднанай Эўропы, пра якую мы цяпер марым –Эўропай многіх культураў і народаў".

У часе ўрачыстай цырымоніі, якая цягам гадзіны трансьлявалася ў жывым эфіры першых праграмаў польскага тэлебачаньні і радыё, пра супольную гістарычную спадчыну беларусаў і палякаў, а таскама пра значэньне асобы Сакрата Яновіча ў сёньняшняй Польшчы гаварыў і прэзыдэнт Аляксандар Квасьнеўскі.

(Квасьнеўскі:) "Сакрат Яновіч ёсьць выбітнай індывідуальнасьцю ў культурным, інтэлектуальным і грамадзкім жыцьці нашай краіны, гарачым прыхільнікам суіснаваньня народаў на падставе узаемнай павагі і ўзаемнага ўзбагачэньня. Як вядома,

вялікай любоўю спадара Яновіча ёсьць Беларусь, беларусы і беларускасьць. Мы вельмі ўдзячныя ляўрэату зя ягоныя заклікі больш пільна прыглядацца да Беларусі, адкрыць у ёй частку ўласнага гістарычнага лёсу і ўласнай самасьвядомасьці. Усё яшчэ мала хто з палякаў ведае, што цягам стагодзьдзяў Беларусь рабіла свой вялізны ўклад у спадчыну Рэчыпаспалітай, што афіцыйнай мовай Вялікага княства Літоўскага была менавіта беларуская мова, а нашыя навялікшыя нацыянальныя героі - Касьцюшка ці Міцкевіч, паходзяць зь Беларусі. Мы мала думаем пра драматычны лёс беларускага народу, які воляй гісторы аказаўся на памежжы ўсходняй і заходняй культураў. Пра тое, як цяжка жывецца гэтаму народу цяпер, ва ўмовах недахопу дэмакратыі, абмежаваньньяў свабоды слова і неэфектыўнай эканомікі".

Далей польскі прэзыдэнт бадай што ўпершыню вызначыў прыярытэты сваёй краіны ў дачыненьнях зь Беларусьсю:

"Польшча павінна адчуваць адказнасьць за лёс Беларусі і быць зь ёй салідарнай, як калісьці з нашымі незалежніцкімі і дэмакратычнымі імкненьнямі салідарызаваліся заходнія краіны. Мы павінны быць салідарныя з галасамі супраць зла, якія ўздымаюцца ў Беларусі. Польшча ў Эўрапейскім Зьвязе будзе рабіць усё, каб на нашым кантынэнце не было больш ніякіх жалезных заслонаў".

У сваю чаргу Сакрат Яновіч у часе сваёй прамовы шчыра падзякаваў прэзыдэнту, які зьяўляецца ганаровым патронам узнагароды імя Анджэя Дравіча, а таксама сябрам журы і сказаў, што гэтая ўзнагарода для яго ёсьць пачаткам новага пэрыяду ў жыцьці. Спадар Яновіч лічыць, што ўрачыстасьці, зьвязаныя зь ягоным ушанаваньнем, і асабліва прамова прэзыдэнта Квасьнеўскага, важныя ня толькі для яго, як пісьменьніка і грамадзкага дзеяча, але і для усіх Беларусаў. Гаворыць Сакрат Яновіч:

"Вы не ўяўляеце, як я быў рады, слухаючы, колькі тут, у прэзыдэнцкім палацы – самым цэнтры Польшчы, было гутаркі пра Беларусь. Я адчуваю, што здарылася нешта нечуванае раней, нешта важнае ня толькі для мяне, але і для шырэйшай справы. Я падумаў: "Нарэшце мы робімся роўнымі партнэрамі, бо калі гаворыцца столькі пра Беларусь у асяродзьдзі прэзыдэнта Польшчы, то значыць, што мы вартыя і роўныя, і можам ісьці наперад і не азірацца – без комплексаў".

Пісьменьнік, перакладчык і грамадзкі дзяяч Сакрат Яновіч нарадзіўся у 1936 годзе. Ён ёсьць адным з заснавальнікаў літаратурнага таварыства "Белавежа", а таксама старшынём Беларускага нацыянальнага аб'яднаньня ў Беластоку…

************************************************

**Васіль ЯКАВЕНКА** (Народная Воля)

# Расьліна... без кораня

## Дзе згубілі мы нацыянальную ідэю

Панове! Такі неверагодны выпадак!

На сустрэчы з пісьменнікамі (у ліку якіх быў і я) уплывовы чыноўнік ад Мінадукацыі на нашу трывогу аб мове адрэагаваў:

"Не хвалюйцеся -- мова не знікне, я заўважыў тэндэнцыю: чым больш мы прыціскаем, тым больш жадаючых вучыцца па-беларуску!"

Дзяржаўны муж і -- сама непасрэднасць!

У нядаўнія часы ў аснове пануючай ідэалогіі ў "саюзе суверэнных народаў" ляжаў касмапалітызм, і манкурты пры ўладзе жорстка распраўляліся з нацыянальнымі дзеячамі, -- скрозь на шырокай зямлі, што ляжала без межаў.

Працоўны люд Беларусі па прычыне сваёй недасведчанасці ў нацыянальных каштоўнасцях, якія маглі і могуць зрабіць гонар кожнаму, усё больш нігілістычна ставіўся да сваёй культурнай спадчыны. Шанаваць, здавалася, не было чаго. Сябе не шанавалі. Савецкая эпоха выхавала процьму "новых людзей"- кіраўнікоў рознага ўзроўню, цалкам пазбаўленых нацыянальнай самасвядомасці, пракаветнай духоўнай сувязі з роднай зямлёй. Аднойчы адчужаная іх душа і сёння ніяк не вернецца, не прырасце па-новаму да мацярынскай культуры -- ігнаруе яе і, ігнаруючы, мучыцца, бы непрыкаяная, -- спакваля атухае ці робіцца агрэсіўнаю.

Розумам гэта можна спасцігнуць, але сэрцам няможна ўспрыняць, як дратуецца тое, што робіць беларуса беларусам. І, вядома ж, горка ад таго -- асабліва калі хто неабыякавы да нацыянальнага скарбу, наогул да лёсу Айчыны. Прыкра чуць пытанні накшталт: "А на якой мове выходзяць часопісы "Полымя"... "Маладосць"?.. Пытаюць настаўнікі. Пытаюць па-руску, дзівуючыся, што яшчэ жыве літаратура на беларускай мове, а калі жыве, то чаму яна не даходзіць у школы? Цікавяцца, чаму пісьменнікі супраць таго, што ў школах адмянілі экзамен па беларускай мове, маўляў, для дзяцей жа палёгка.

Плойма прыкладаў і праяў адчужэння чалавека і роднаснага яму культурнага асяроддзя. Будучы звезденымі ў адзіны ланцуг, гэтыя праявы і прыклады сведчаць пра ўстойлівую тэндэнцыю дэнацыяналізацыі. І над гэтым далей рупіцца наша вышэйшае чынавенства. Чаго добрага, адыдзе ў нябыт яшчэ адно пакаленне, і ў беларускіх пісьменнікаў практычна не стане чытачоў, як што беларускамоўныя школы і выданні далей болей саступаюць свае ранейшыя пазіцыі і пераходзяць у стан рэліктавых. У верасні 2002 года за парты беларускіх школ села няпоўных 3 працэнты першакласнікаў. Шукаючы, на чым навесці эканомію бюджэтных сродкаў, улады закрылі летась 152 беларускія школы. Школы робяцца "нерэнтабельнымі" дзякуючы прабальшавіцкай касмапалітычнай палітыцы тых жа ўладаў.

Бацькам нярэдка даводзіцца вытрымліваць жорсткія баі з чыноўнікамі, каб для іх дзяцей навучанне ў школе вялося на беларускай мове. І яшчэ: тыя нешматлікія выпускнікі беларускіх школ, якія выходзяць з іх сцэнаў, не маюць магчымасці далей атрымліваць прафесійную, сярэднетэхнічную або вышэйшую адукацыю па-беларуску. Дзе, у якой каланіяльнай краіне сёння над абарыгенамі чыніцца яшчэ гэтакі здзек?

Пры гэтым недзе зверху прыдворныя, прабачце, палітыкі, аднойчы згубіўшы, шукаюць "нацыянальную ідэалогію". Яна ім патрэбна, каб яшчэ болей умацаваць і прадоўжыць сваю і без таго бясконцую ўладу.

Уладары, бадай, ужо традыцыйна ўціскаюць нацыянальны дух. Яны літаральна сядзяць седзьма на нацыянальнай шматпакутнай ідэі і ..."шукаюць" яе, ідэю, ужо больш за 8 год. Зразумела, ад такіх "пошукаў" -- выніку ніякага, і не таму, што спадчынная ідэалогія імі няўзнак задушана. Прычына нават не ў ёй -- яна заўсёды жыве з народам, яго вольным духам, гісторыяй. Прычына -- у іх, у беларускіх манкуртах, згубіўшых памяць і ад таго выбаўленых ад нацыянальнай самасвядомасці, без якой ужо немагчыма гаварыць пра нацыянальныя каштоўнасці, ідэі, планы, праграмы.

З Паслання прэзідэнта А. Лукашэнкі беларускаму народу і парламенту Рэспублікі Беларусь:

"Чаму мы загаварылі сёння аб ідэалогіі, аб нацыянальнай ідэі? Ды таму, што мы маладая суверэнная дзяржава. І нам трэба сёння і вызначыцца, і самім усвядоміць, і сфармуляваць гэта для народа і для сябе таксама, каб не забыць, дзе мы знаходзімся. Хто мы такія, адкуль, якія нашы мэты, як мы будзем дасягаць іх, якія нашы каштоўнасці?"

Рыторыка кіраўніка нашай краіны, як гэта нярэдка бывае, правільная. Прынамсі -- і ў гэтым выпадку. Тым не менш каштоўнасці, якія топчуцца ўладамі, нам не хутка ўдасца падняць. Бо і ён, кіраўнік, таксама не бачыць і, тым больш, не носіць у сэрцы нацыянальнай ідэі.

А ці ж мае ўяўленне "ўладар ад народа" пра нашы культурныя і духоўныя каштоўнасці, якія створаны самім народам ды на роднай зямельцы (з яе дапамогай), вызначаюць адметнасць і годнасць нацыі? Баюся адказаць станоўча, каб не зманіць. Па крайняй меры, найуладарны чалавек схільны адсекчы гісторыю сваёй дзяржавы ад самых глыбіняў аж па момант утварэння БССР. З падобнай нагоды яшчэ расійскі савецкі пісьменнік Фёдар Абрамаў пісаў: "Ці магчыма расліна без кораня? А мы ў нашай прапагандзе рэжам карані -- зусім адкідваючы гісторыю і хочам, каб яна (у гэтым выпадку чытай -- ідэалогія. -- В.Я.) яшчэ мела поспех".

Цытую яшчэ адну эскападу з таго ж Паслання: "І дай Божа, каб пры нашым жыцці атрымалася, што мы знойдзем гэту нашу нацыянальную ідэю, якая б узнімала дух і народ не толькі ў цяжкую часіну, але і ў мірны час на барацьбу за лепшае жыццё. На жаль, я пакуль такой нацыянальнай ідэі не ведаю. Калі хто-небудзь з вас адчуў яе, скажыце, абмяркуем разам, падыдзе -- будзем прапаноўваць народу".

У гэтай гульні, дзе фейерверкам шугае рыторыка, усе слухачы, незалежна ад рангаў, нават калі яны і не поўныя астолопы або касмапаліты, павінны адчуваць сябе такімі і думаць думу пра загадкавую птушку на Беларусі -- "нацыянальную ідэю".

Пад "нацыянальную ідэю", якой кіраўнік дзяржавы "пакуль не ведае", у тэрміновым парадку ствараецца ідэалагічная вертыкаль -- новы крок для забеспячэння будучых "выбараў" і рэферэндумаў. Тут і спатрэбілася адпаведная мішура.

І што гэта за пошасць, яшчэ раз спытаю, калі абраныя народам улады (гэтыя словы ўжываю са значнай доляй няпэўнасці) стварылі і ствараюць варункі, у якіх знікае самавітая культура і з ёй -- лад, ментальнасць, настрой, душа -- парадыгма нацыі. Не выпадкова ж, фізічна і маральна пакутуючы, моцна дэградуе народ.

У сусветнай практыцы, бадай, няма і назвы падобнай з'яве, за якой стаіць дэмантаж пракаветнага. Народ памірае, калі робіцца насельніцтвам. А насельніцтвам ён робіцца тады, калі забывае сваю гісторыю і культуру.

Але ж ці было падобнае некалі ў той ці іншай краіне? Ці было такое, каб урад, цар, імператар выступалі супраць племянных або нацыянальных інтарэсаў свайго ж народа і каб яны заўзята руйнавалі падмурак сваёй пракаветнай культуры ды не менш заўзята распраўляліся з яе носьбітамі? З носьбітамі духоўнай культуры і ідэалогіі, ды асабліва людзьмі іншай думкі, іншага погляду на рэчы?.. Свежы прыклад: неўспрыманне ў нашым грамадстве нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, расправа з пісьменнікамі, гвалтоўнае адчужэнне іхняй маёмасці і г.д.

А такі ж знайшоўся адказ на мае пытанні. Я выцягнуў яго з фаліянтаў гістарычнай навукі. Дапамаглі дасведчаныя людзі. Аказваецца, жыў-быў ды цараваў у сваё задавальненне ў часы Хрыста з Назарэта адзін махровы, як пазней пачалі гаварыць, узурпатар і дэспат. Яго царства -- Галілея, а імя яму -- Ірад. Выхаванец Рыма. Запраданец Рыма. Ён рабіў усё ды праз меру шчыра, каб насадзіць рымскія парадкі на сваіх абшарах і звесці на нішто звычаі, культуру, лад жыцця яўрэяў. Ён пастаянна знаходзіў у сваім акружэнні "ворагаў", чыніў расправы над імі, забіваў нават дзяцей. У жорсткасці яму не было роўных. Ато ж -- Ірад!

Знаходка дзвюхтысячагадовай даўніны трохі ўлагодзіла маю скруху, як што прыдавала думкам нейкі лад, пэўную стройнасць, ліха на яе. Бачыце, мы ўжо нечага вартыя ў свеце, калі сягнулі да гэткага знакамітага папярэдніка -- Ірада. Папулярнейшы чалавек! Не параўнаць з нашымі Судзілоўскім або Дамейкам. Ягоным імем у горычы, у скрусе рассердаваныя вясковыя маці клічуць сваіх дзяцей -- чыстых выраdкаў... Праўда, гэта бывае ў крайніх выпадках.

Толькі ж ці можа гэтакі, скажам, археалагічны прэцэдэнт задаволіць наша грамадства, няхай сабе і касмапалітызаванае ў значнай меры, і адвыклае ад сваіх духоўных набыткаў, змардаванае неаднойчы, асепленае, з'асталопленае? Не пра нас бы гэтак казаць!

Жалю варта, вядома, але я чую, усе гэтыя словы ў пэўнай меры справядліва ўжыты і маюць дачыненне як не да кожнага з нас. Таму я і пытаюся акурат з той адмысловай нагоды, што ў нашым грамадстве "няма" нацыянальнай ідэі, няма компаса (невядома, дзе і кім ён згублены): братове, суайчыннікі! Ужо ці не растрэсці нам сваё жыццё на чатыры бакі, на ўсе кантыненты, калі гэтак складваецца? Ды шкада, ведаеце, і сябе і сваёй супольнасці...

І хто сказаў, што мы не патрыёты сваёй зямлі, сваіх крыжоў?.. Не, я не згодзен з такой пастаноўкай пытання і здымаю яго. Зусім... Мо ў такім скрушным несамавітым выпадку лепей нам спрасаваць астатак жыцця свайго на галілейскі капыл? Пашлём туды, на былыя галілейскія землі, археолагаў, іншых даследчыкаў, знойдзем аскабалкі ад статуй і будзем на іх, як на жывога цара Ірада, маліцца. Бо, згодна з глыбокадумнымі пасланнямі нашага правадыра А. Лукашэнкі, ніхто ў нас не цяміць пра нацыянальнае жыццё, пра нацыянальную ідэю, і нам нічога больш не застаецца, як будаваць на Беларусі сваю Галілею.

==========================================

# Падарожжа ў Сярэднявечча

**Вялікі дзякуй народнаму артысту Беларусі Міхаілу Фінбергу: яго намаганнямі з 31 мая па 1 чэрвеня ў мястэчку Мір адбыўся фестываль мастацтваў «Мірскі замак 2003».**

Гэта была сапраўды геніяльная ідэя, вартая нашага маэстра. Сярэднявечная музыка гучала і ў двары замкавага комплексу, і са сцэны, збудаванай з вонкавага боку муроў замка. Такім чынам гэта першы фэст, дзе была дасягнута гармонія з «застылай музыкай» – архітэктурай. Вельмі арганічна выглядалі і другія мерапрыемствы фестывалю: рыцарскія спаборніцтвы, студэнты Мірскага рамеснага вучылішча прадставілі спектакль ў тэатры «Батлейка», што збудавалі асабістымі намаганнямі. Можна было паплаваць у чоўне па возеры, зачароўваючыся замкавымі краявідамі, падзівіцца гігантскімі памерамі замка, пастраляць з арбалетаў. А можна было паблукаць па прыгожым, амаль казачным вулачкам Міру. Асабіста мяне вельмі ўразіў «Дывертысмент» Мацея Радзівіла ў выкананні аднаго з камерных гуртоў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі.

Завяршылася свята гэтак жа, як і ў часы Радзівілаў: разнастайнымі піратэхнічнымі эфектамі. Праўда, ніхто не здолеў зрабіць летам зіму, як гэта некалі прадэманстраваў адзін з Радзівілаў – пане Каханку, высыпаўшы ўсю тэрыторыю вакол замка соллю, прапанаваў гасцям пакатацца на санях.

Адно сапсавала настрой – з прыгожай сярэднявечнай казкі давялося вяртацца ў наша 21 стагоддзе, з яго невыразнай архітэктурай, непатрэбнымі амбіцыямі, з неадэкватнымі памкненнямі нашых палітыкаў да таннай продажы нашай «краіны пад белымі крыламі».

Дзе ты, мужнае Сярэднявечча? Дзе вы, ахвярныя рыцары?

# Чаму ніяк ня дойдзем мы да Беларусі?

Чалавек, які песціць у душы любоў да Радзімы, -- патрыёт, грамадзянін. Пачуццё патрыятызму ўласціва ўсім народам, гэта найважнейшы чыннік іх самазахавання. Бо толькі патрыёт можа прысвяціць сябе служэнню Айчыне, нават аддаць за яе жыццё. І натуральна, што галоўны клопат дзяржавы -- гэта выхаванне патрыётаў і грамадзян. Без гэтага немагчыма існаванне нацыі і захаванне самой дзяржавы. Гісторыя ведае шмат прыкладаў таго, як народы змагаліся за сваю дзяржаўнасць -- апошні сродак выжывання, і як чужая дзяржаўнасць спрычыньвалася да асіміляцыі і знікнення скораных нацый і народаў.

Першы крок у гэтым накірунку ва ўсіх імперый аднолькавы -- пазбавіць народ сваёй мовы і гісторыі, бо гэта адзіная глеба, на якой можа расквітнець дзейсная любоў да сваёй зямлі і свайго народа. Перацягваючы на свой бок рознымі прывілеямі беларускую эліту на працягу некалькіх стагоддзяў, палякам удалося зрабіць польскую мову дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім пасля чарговай уніі ў 1696 годзе. Гэта стала пачаткам знікнення самой беларускай эліты, бо нацыянальная самасвядомасць -- вынік адукацыі, а не этнапаходжання. Атрымаўшы адукацыю на няроднай мове і не маючы магчымасці ўжытку ў грамадскім і дзяржаўным жыцці, многія з нашых нават выбітных продкаў ужо не ўсведамлялі сябе беларусамі.

Без грамадзянскіх пачуццяў, нацыянальнай свядомасці народ паступова пераўтвараецца ў паслухмянае, безгалосае насельніцтва, якім можа кіраваць любы пастух: польскі, рускі, татарскі... І сумнавядомая "праграма" графа Мураўёва-вешальніка (які заліў крывёю паўстанне Каліноўскага) -- "Што на гэтай зямлі недарабіў рускі штык, даробіць руская школа", -- надоўга прадвызначылі палітыку царскай, а пасля і бальшавіцкай Расіі ў Беларусі. Ці не таму так і не "дайшлі да Беларусі" ні Фёдар Дастаеўскі, ні Казімір Малевіч, ні Павал Сухі, ні Аляксандр Твардоўскі, ні Пётр Клімук...

Беларуская глеба стагоддзямі нараджала выбітную мастацкую і тэхнічную эліту не толькі для сябе. З пакаленне ў пакаленне абезгалоўленая нацыя так і не здолела ўсведаміць сябе, адчуць годнасць "людзьмі звацца". Прытулкам беларускай мовы, як і стагоддзі таму, заставалася сялянская хата.

Толькі свая дзяржава магла паруліцца, каб дзеці, народжаныя гэтай зямлёй, жылі і працавалі на карысць свайго народа. І вось парадокс гісторыі: беларуская дзяржава -- БССР -- была створана рукамі расійскіх бальшавікоў -- са страху, што беларусы гэта зробяць самі, бо ўжо падала свой голас Беларуская Народная Рэспубліка. На самай жа справе і цар, і бальшавікі лічылі нацыянальныя ўскраіны імперыі сваёй уласнасцю. Таму былі задушаны і ўкраінская, і беларуская нацыянальныя дзяржавы. Былі створаны свае, паслухмяныя, лялечныя. І гісторыю Беларусі з яе тысячагадовай дзяржаўнасцю пачалі лічыць з... 1917 года.

Як бальшавікі і Савецкая Расія ставіліся да створанай імі ж беларускай дзяржавы?

...Кнорыньш пісаў Леніну напярэдадні з'езда ў Смаленску аб абвяшчэнні БССР, што, маўляў, няма такога народа -- беларусы, а беларуская мова -- сапсаваны і непісьменны дыялект рускай.

Фрунзе, падпісваючы ў Рызе мірны дагавор з палякамі ў 1921 годзе, якім быў разарваны надвое жывы народ і аддадзена палова краіны Польшчы, нават не запрасіў на перамовы ўрад БССР. ЛЁС БЕЛАРУСІ РАСІЯ ЗАЎЖДЫ ВЫРАШАЛА БЕЗ БЕЛАРУСАЎ.

...Кароткі перыяд беларусізацыі 20-х гадоў быў рашуча "выпраўлены" ў 30-я. Былі расстраляны дзесяткі тысяч самых свядомых, адданых беларускіх патрыётаў, адзінай правінай якіх была любоў да Бацькаўшчыны. Масква зноў паказала, хто ў доме гаспадар.

Зноў, але з асаблівай апантанасцю пайшлі ў наступ на беларускую школу. У 50--60-я гады працэс вынішчэння беларускамоўнай адукацыі фактычна быў завершаны, і заступіцца за яе ўжо амаль не было каму. Мясцовыя начальнікі навыперадкі стараліся выканаць ідэалагічную ўстаноўку Масквы аб фарміраванні "адзінага савецкага народа", а ў высокіх кабінетах толькі хіба адзін Якуб Колас спрабаваў адкрыць уладзе вочы на тое, што робіцца з мовай, а значыць, і з гістарычнай перспектывай цэлага народа. Дарэмна... Роля ў гэтым злачынстве колішніх кіраўнікоў Беларусі К.Т.Мазурава і П.М.Машэрава яшчэ па-сапраўднаму не ацэнена. Менавіта яны актыўна ажыццяўлялі антыбеларускую палітыку.

На пачатку 90-х, што абяцалі даўно жаданыя перамены, зноў надышоў час фарміравання грамадзяніна-патрыёта праз стварэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі, напаўненне яе нацыянальным гістарычна-культурным зместам. І працэс, як кажуць, пайшоў. У 1994 годзе ўжо 75% першакласнікаў краіны атрымалі беларускі лемантар. Разлічаны на дзесяць год Закон аб мовах ствараў умовы, каб першае постсавецкае пакаленне было б запатрабавана роднай дзяржавай. Дзецям падарылі, нарэшце, Радзіму, прыгажосць якой яны спасцігалі на мове, народжанай гэтай зямлёй. Ды ганебны рэферэндум 1995 года адабраў у моладзі беларускую кніжку і беларускае слова. Вучням далі ў рукі рускамоўны падручнік, і любімая настаўніца раптам загаварыла па-руску... І дзіця зразумела: усё беларускае, аказваецца, -- другога гатунку: і мова, і гісторыя, і краіна, і дзяржава. Жахлівае разбурэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі ўжо дало сумны вынік: больш за палову апытанай моладзі гатова з'ехаць за мяжу, засвоіўшы ўрок... антыпатрыятызму.

Вёска сёння ўжо не з'яўляецца носьбітам мовы, бо хутка вымірае, ды і дзеці яе -- што дома, што ў горадзе -- не ў стане пазбавіцца "трасянкі", дэфармаваўшы свой менталітэт рускамоўнай адукацыяй. Усе гучныя размовы пра свабоду выбару мовы -- відавочная лухта і дэмагогія. Беларускай мове ў Беларусі дзяржава папросту не дае месца. Моладзь выхоўваецца на чужой мове, чужых ідэалах -- ёй мала хто вучыць шанаваць і прымнажаць свае. Адкуль жа будзе прыбытак і лад у дзяржаве? У юначай душы, дзе не "папрацавала" любоў, пасяляецца злосць і агрэсія. У дзяцей праз мову і гісторыю адабралі Радзіму, а ў Радзімы -- перспектыву. Вось і не хоча моладзь тут жыць. А тыя, што застануцца, хутчэй за ўсё дазволяць вырабляць з ёй што заўгодна і каму заўгодна. Што зараз і назіраецца ледзь не паўсюль: лепшая частка шукае долі за мяжой, астатняя -- у стане пахмельнага ачмурэння, абыякавасці да сябе і іншых, безадказнасці і несамастойнасці. Гэта выклікана, безумоўна, не толькі эканамічнымі прычынамі і нічога добрага не абяцае дзяржаве. Краіна з такім "народам" не можа быць самастойнай.

Адзінае спадзяванне і шанц краіны -- школа, якую трэба зрабіць нацыянальнай па сутнасці. Узгадваю, як былы міністр адукацыі В.Стражаў у свой час нястомна паўтараў на ўсіх нарадах, быццам у нас створана нацыянальная сістэма адукацыі. Між тым ні мову, ні змест навучання ў рамкі нацыянальнай сістэмы адукацыі ён не ўключаў. І менавіта пры ім нацыянальная сістэма адукацыі была разбурана, так і не паспеўшы скласціся. З 1994 па 2001 год колькасць вучняў, прынятых у першыя класы беларускамоўных школ, зменшылася з 75 да 22 працэнтаў. Летась у Мінску за парты беларускіх школ селі толькі 2,9 працэнта першакласнікаў. На сённяшні дзень па-беларуску навучаюцца толькі 26 працэнтаў вучняў краіны. "З прычыны эканоміі" бюджэтных сродкаў у мінулым годзе былі закрыты 152 беларускамоўныя школы. А тыя дзеці, хто зараз вучыцца па-беларуску, не маюць перспектыў далейшага навучання на роднай мове ў ПТВ, тэхнікумах, ВНУ.

Сёння шмат гаворыцца пра сучасныя методыкі выкладання, інавацыйныя тэхналогіі. Для настаўнікаў арганізуюцца шматлікія курсы па засваенні сучасных педагагічных прыёмаў. У Мінску распрацавана праграма камп'ютэрызацыі сярэдняй школы, выдзелены грошы на закупку камп'ютэрных класаў, праграмнага забеспячэння вучэбнага працэсу. Усё гэта, несумненна, добра. Але і падручнікі, і дыдактычны матэрыял для вучняў -- усё зноў толькі на рускай мове... Як і праграмнае камп'ютэрнае забеспячэнне. Што, у нас няма сваіх праграмістаў? Галавой не выйшлі? Будзем аплачваць працу расійскіх? Танней было б сваім заплаціць. Ды і ёсць праграмны прадукт на нашым адукацыйным рынку, які мог бы сапернічаць з расійскім. Ён распрацаваны беларускім аўтарскім калектывам. Але і гэта праграма на рускай мове і, як здзек, мае назву "Школьный наставник".

Вось так, уся перспектыўная і прэстыжная адукацыя ў Беларусі плануецца толькі рускамоўнай. Ужо сёння для пераважнай большасці вучняў камп'ютэр -- штодзённы інструмент спасціжэння свету рэальнага і віртуальнага. А ўсе зносіны з камп'ютэрам у Беларусі адбываюцца толькі на рускай мове. Адзіная краіна ў Еўропе, якая не пажадала перакласці на нацыянальную мову інтэрфэйсы найбольш ужываемых праграм Microsoft -- гэта Беларусь. Сэканомілі грошы... А згубілі больш. Вось яно, месца беларускай мовы і яе перспектыва -- зноў курныя хаты і бедныя палеткі... Без элементаў фарміравання нацыянальнай свядомасці праз мову і гісторыю выхаваць патрыётаў немагчыма. Гэта самападман, а можа, і свядомы падман. А няшчырасць і падман -- гэта якраз тое, што дзеці адчуваюць усёй сваёй прыродай. Таму і сканаў ціха БПСМ, дзе беларускага толькі і было, што назва. Таму так фармальна ствараюцца "пярвічкі" піянераў і БРСМ па школах. Гэта чарговы зігзаг убаку ад цывілізаванага шляху, па якім нас так і не хоча весці кіраўніцтва краіны, абы толькі моладзь не знайшлі "шлях да Беларусі".

Выхаванне патрыятызму -- пытанне жыцця і смерці краіны. Створым беларускую школу -- выжыве, стане квітнеючай Беларусь. А значыць, трэба захаваць суверэнітэт і незалежнасць краіны. Бо толькі свая, беларуская дзяржаўнасць здолее вывесці і маладыя пакаленні, і ўсё грамадства на шырокі шлях у цывілізаваны свет.

Веру, так будзе.

Аляксандр СЯДЗЯКА,

віцэ-прэзідэнт ГА "Таварыства беларускай школы", дэлегат Усебеларускага сходу інтэлігенцыі. /Народная Воля/

## На радзіме Францішка Багушэвіча з'явіўся крыж ў гонар паэта.

Усё было зроблена стараньнямі суполкі Таварыства Беларускай Мовы Віленскага раёна у Літве. У фальварку Сьвіраны (Віленскі раён) усталяваны мэталёвы крыж з надпісам па-беларуску на лаціцы "У гонар Францішка Багушэвіча". Крыж -- побач з хатай, на якой цяпер знаходзіцца памятная шыльда ў гонар бацькі беларускай паэзіі. На шыльдзе надпіс таксама на беларускай лаціцы, а над ёй умацаваны бел-чырвоны-белы сьцяг з выявай Хрыста.

Гэта тая самая шыльда ў гонар Багушэвіча, якая была ўрачыста ўмацаваная год таму, 6 красавіка, на хаце Філіповіч-Ранцавене у фальварку Сьвіраны. Побач быў умацаваны бел-чырвона-белы сьцяг. Праз некалькі месяцаў шыльда была зьнятая па распараджэньню мясцовых уладаў.

Тагачасны мэр Віленскага раёну, спн. Л.Янушаўскене, загадала зьняць найперш сьцяг. На ўсякі выпадак -- бо сьцяг не дзяржаўны. Шыльду паціху зьнялі, а сьцяг запалоханая гаспадыня, спн. Марыя Філіповіч-Ранцавене, спаліла. Пра гэта сталася вядома дзякуючы здымачнай групе беларускай праграмы "Віленскі сшытак" на Літоўскім ТВ -- яны выявілі зьнікненьне і зрабілі досьлед.

Цяпер, калі ТБМ усталявала крыж, шыльду з новым сьцягам ўмацавалі ізноў.

Шыльда ўжо на іншай хаце -- насупраць той, дзе была раней. І гаспадыня гэтай хаты настроеная вельмі рашуча на абарону і крыжа, і шыльды, і бел-чырвона-белага сьцяга -- бо цяпер сьцяг з выявай Хрыста. Гаспадыня заявіла, што будзе бараніць іх, бо гэта -- "сьвятое". Тым болей, што ўсё гэта -- на прыватнай зямлі, дзе мясцовыя улады ня маюць права распараджацца.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Беларускія журналісты атрымалі ўзнагароды нямецкага фонду "ZEIT"

19 мая ў Гамбургу беларускія журналісты атрымалі ўзнагароды нямецкага фонду "Zeit", прызначаныя для маладой прэсы Усходняй Еўропы.

Лаўрэатамі гэтага года сталі газета "Белорусский рынок" (Мінск), "Свободный курс" (Барнаул), "Экспресс" (Львоў). Кожны лаўрэат узнагароджаны сумай у 40 тысяч еўра як незалежныя высакаякасныя медыя, якія садзейнічаюць сваёй дзейнасцю ўмацаванню свабоды слова. Спецыяльным прызам у 10 тысяч еўра за мужнасць быў узнагароджаны рэдактар закрытай уладамі гродзенскай газеты "Пагоня" Мікалай Маркевіч.

Мікалай Маркевіч не змог прысутнічаць на ўручэнні прыза, бо да заканчэння тэрміну яго асуджэння -- гэта значыць, да сакавіка 2004 года -- яму забаронены выезд з Беларусі. Дыплом лаўрэата прыза "Zeit" у Гамбургу атрымлівала яго жонка, Вольга Маркевіч.

Паводле яго слоў, прыз у грашовым выражэнні будзе захоўвацца на рахунках фонду "Zeit" да таго часу, пакуль беларускае падатковае заканадаўства не дазволіць увесці яго ў краіну без збірання занадта высокіх падаткаў. Прыз будзе выкарыстаны "на журналісцкую дзейнасць", сказаў Маркевіч…

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## У Расеі пражывае больш за 2 мільёны беларусаў

*На дадзены час у Расеі пражывае больш за два мільёны беларусаў і дзейнічаюць звыш 60 створаных імі розных грамадзкіх арганізацыяў – зямляцтваў, культурна-асьветніцкіх таварыстваў, культурных цэнтраў і нацыянальна-культурных аўтаноміяў. Гэтыя дадзеныя прывёў амбасадар Беларусі ў РФ Уладзімер Грыгор'еў, выступаючы зь лекцыяй перад выкладчыкамі й студэнтамі Дыпляматычнай акадэміі МЗС Р.*

Амбасадар паведаміў, што найбольш шматлікімі грамадзкімі арганізацыямі беларусаў на тэрыторыі Расеі зьяўляюцца аўтаноміі ў Маскве (каля 300 тыс. чалавек), Калінінградзе (150 тыс.) і Санкт-Пецярбургу (80 тыс).

У адпаведнасьці з фэдэральным законам РФ "Аб нацыянальна-культурнай аўтаноміі" ў Расеі створана 13 рэгіянальных нацыянальна-культурніцкіх аўтаноміяў беларусаў.

Паводле амбасадара, грамадзкія арганізацыі беларусаў праводзяць вялікую працу па захаваньні беларускай мовы, традыцыяў, нацыянальнай культуры, а таксама па разьвіцьці і ўмацаваньні культурных і эканамічных сувязяў паміж Беларусьсю й Расеяй.

Таварышч Грыгор'еў не валяй 'вучонага'…

******************************************************

# Мы Маскве прыслалі падкрапленьне

**Кажуць, што ў адзін з самых напружаных момантаў беларуска-расейскіх адносінаў апошніх гадоў маскоўскія паліттэхнолягі атрымалі заданьне вывучыць палітычны патэнцыял найбольш вядомых асобаў беларускай дыяспары ў Расеі. Шукаўся кандыдат у пераемнікі Аляксандру Лукашэнку. Не выключалася, што адпрацаваную на Каўказе схему (апошні прыклад — выбары новым прэзыдэнтам Інгушэціі генэрала ФСБ з Масквы) давядзецца скарыстаць і ў Беларусі. Пакуль не давялося. Але выявілася, што некалькі ўраджэнцаў нашай краіны граюць не апошнюю ролю ў расейскай палітыцы.**

**Інтэгратары**

Пераважная большасьць беларусаў, якія працуюць у расейскіх уладных структурах, — зацятыя прыхільнікі інтэграцыі Беларусі і Расеі. Уладкаваўшыся ў Маскве, гэтыя людзі развіталіся з рэшткамі свае беларускасьці, сталіся актыўнымі праваднікамі расейскай геапалітыкі.

Першы намесьнік старшыні Савету Фэдэрацыі Расеі — 45-гадовы беларус з палескім прозьвішчам Гарагляд. Ягонай першай марай была авіяцыя (ён, як і лётчык Чкалаў — Валеры Паўлавіч), але давялося стаць палітыкам. Шлях Гарагляда ў расейскую эліту быў няпростым. Ён скончыў Маскоўскі авіяцыйны інстытут, займеў эканамічную адукацыю. Працаваў у вайскова-касьмічнай галіне, быў камсамольскім функцыянэрам, узначальваў маскоўскі гаркам. Пасьля падаўся ў турыстычны бізнэс, але ненадоўга — абралі дэпутатам у Дзяржаўную Думу. З 1994 г. ён кіруе апаратам камітэту Савету Фэдэрацыі па бюджэце і фінансавых справах. Пасьля яго прызначаюць прадстаўніком адміністрацыі Сахалінскай вобласьці ў Савеце Фэдэрацыі. Быў лідэрам парлямэнцкай групы «Фэдэрацыя», віцэ-сьпікерам палаты. У студзені 2002 г. Гарагляда прызначаюць першым намесьнікам старшыні Савету Фэдэрацыі. Палітык любіць спорт, захапляецца футболам і тэнісам.

Ня так даўно Савет Фэдэрацыі, спадзеючыся набыць падтрымку Кіраўніцтва спраў прэзыдэнта, хацеў адабраць будынак у маскоўскай мэрыі. Тады Гарагляд супакойваў грамадзкую думку, кажучы, што ня хоча пакрыўдзіць сталіцу, а імкнецца толькі «стварыць нармальныя ўмовы для арганізацыі работы верхняй палаты». Цікава, што ў гэтай сытуацыі ён апынуўся па розныя бакі «фронту» зь іншым беларусам Францам Каўрыгам, які ва ўрадзе Масквы кіруе камітэтам па рэфармаваньні абаронных прадпрыемстваў.

Каўрыга нарадзіўся на Маладаччаншчыне, недалёка ад купалаўскай Вязынкі. Працаваў на менскім заводзе электронна-вылічальных машынаў — пачынаў сьлесарам, а скончыў гендырэктарам. З пасады дырэктара Берасьцейскага электрамэханічнага заводу быў забраны ў Маскву. Там ён хадзіў у намесьніках міністра радыёпрамысловасьці і старшыні Дзяржкампрацы СССР. У постсавецкай Расеі Ф.Каўрыга ўладкаваўся на працу ва ўрад Масквы. Адначасова з 1999-га ён узначальвае раду «фэдэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расеі», арганізацыі адназначна праўрадавай (у Расеі існуюць таксама незалежніцкія арганізацыі беларусаў). Аўтаномія Каўрыгі выступае за найхутчэйшае стварэньне саюзнай дзяржавы і ня бачыць ніякай будучыні для Беларусі.

Яшчэ адным вядомым інтэгратарам-беларусам зьяўляецца 45-гадовы Франц Клінцэвіч, ураджэнец вёскі Крайванцы на Ашмяншчыне, дэпутат Дзяржаўнай Думы ад выбарчага блёку «Мядзьведзь», сябар фракцыі «Адзінства». У сярэдзіне 1970-х ён працаваў школьным настаўнікам крэсьленьня, працы і фізкультуры ў сваёй роднай вёсцы. Пасьля сканчэньня Сьвярдлоўскай вышэйшай вайскова-палітычнай вучэльні Клінцэвіч служыў афіцэрам-палітработнікам, меў кваліфікацыю перакладчыка з мовы дары (адна зь дзьвюх афіцыйных моваў Аўганістану). У 1986—88 знаходзіўся ў Аўганістане, даслужыўся да рангу палкоўніка, мае ўзнагароды (ад Беларусі — ордэн «Знак Пашаны»). Ф.Клінцэвіч скончыў вайскова-палітычную акадэмію імя Леніна, стаўся старшынём праўленьня Расейскага саюзу вэтэранаў Аўганістану. Цяпер наш зямляк узначальвае праўленьне Народна-патрыятычнай партыі. Зразумела, што патрыёт ён расейскі. Відавочна, мае «дах» у спэцслужбах. Апошняя яго ініцыятыва — стварэньне ў Екацярынбургу газэты для «крутых хлопцаў з сталёвымі нэрвамі» — «Русский ветеран».

«Два Францы-запраданцы», як з крыўдаю выказаўся пра іхную дзейнасьць актывіст беларускае незалежніцкае суполкі ў Маскве.

Навуковец Жарэс Алфёраў, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі, на будучых парлямэнцкіх выбарах у Расеі будзе зноў балятавацца ад камуністаў. Алфёраў нарадзіўся ў 1930 г. у Віцебску. Віцэ-прэзыдэнт Расейскай акадэміі навук. У палітыцы вагаецца паміж прапрэзыдэнцкімі палітычным сілам і левымі. 57-гадовы беларус Мікола Біндзюкоў з Ноўгараду ўваходзіць у кіраўніцтва КПРФ, абіраўся па яе сьпісах у склад Дзяржаўнай Думы Расеі. У Думе розных скліканьняў звычайна працуе ў камітэце па справах СНД. Акрамя таго ён філёзаф паводле адукацыі, кандыдат навук. У прапрэзыдэнцкай фракцыі «Адзінства» актыўна працуе беларус Мікола Ботка, філёляг паводле адукацыі. Яшчэ ён мае свой бізнэс пад Гатчынай — кіруе Прамыслова-будаўнічай групай «БіК».

**Алігархі**

Ня менш за названых палітыкаў вядомыя «алігархі». У лютым 2003 г. амэрыканскі штотыднёвік «Форбс» надрукаваў сьпіс мільярдэраў сьвету з 476 асобаў. Патрапіў у іх лік і расейскі беларус Алег Дзерыпаска (1,5 млрд. даляраў), які сярод мільярдэраў Расеі займае 7-е месца. 35-гадовы Алег зьяўляецца прэзыдэнтам Расейскага нацыянальнага камітэту Міжнароднай гандлёвай палаты. Грошы ён пачаў зарабляць яшчэ ў студэнцкія гады, калі вучыўся на фізфаку МДУ (вядомы факт: нейкай дзяржаўнай кампаніі прадаў дзясяткі тонаў цукру). Тады ж Дзерыпаска працаваў фінансавым дырэктарам мітычнага ТАА «Вайсковая фінансава-інвэстыцыйная кампанія», брокерам на біржы. У 26 гадоў ён стаў дырэктарам Саянскага алюміневага заводу, заснаваў інвэстыцыйна-прамысловую групу «Сібірскі алюмін». У склад апошняй уваходзяць два дзясяткі заводаў у Расеі, Арменіі і ва Ўкраіне. У 2000 г. Дзерыпаска ачоліў кампанію «Расейскі алюмін». З гэтага часу беларуса Дзерыпаску пачалі называць «алюміневым каралём» Расеі. У 2001 г. А.Дзерыпаска ажаніўся з дачкой былога кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі Валянціна Юмашава Палінай. Палітыкай Дзерыпаска займаецца пакуль толькі ў якасьці спонсара праўрадавых палітычных сілаў.

Сярод алігархаў — ураджэнцаў Беларусі найбольш вядомы Анатоль Чубайс. Ён з Барысава — нарадзіўся там у 1955 г. у сям'і вайскоўца. Паводле адукацыі інжынэр, у 1982—90 г. — дацэнт Ленінградзкага інжынэрна-эканамічнага інстытуту.

Чубайсаў «зорны пэрыяд» пачаўся пасьля таго, як ён зрабіўся эканамічным дарадцам мэра Ленінграду Анатоля Сабчака. У 1991 г. Чубайс робіцца старшынём Дзяржкамітэту Расейскай Фэдэрацыі па кіраваньні дзяржаўнай маёмасьцю. Пад ягоным кіраўніцтвам распрацоўвалася праграма прыватызацыі. А.Чубайс працаваў намесьнікам прэм'ера Расеі, міністрам фінансаў, старшынём праўленьня РАТ «АЭС Расеі», цяпер — член рады дырэктараў. Зь ліпеня 2000 г. ён — прэзыдэнт Электраэнэргетычнае рады СНД, сябар праўленьня Расейскае рады прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў. Анатоль Чубайс — сустаршыня партыі «Саюз правых сілаў». Мае імідж «непатапляльнага» палітыка. Нягледзячы на ўсе энэргапраблемы і нянавісьць да яго простых расейцаў, алігарх паранейшаму ля стырна.

Варта таксама згадаць і Аркадзя Вольскага, прэзыдэнта Расейскага саюзу прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў. Вольскі нарадзіўся ў 1932 г. у Добрушы. Бацькі — настаўнікі. У маладосьці займаўся спортам: Вольскі — майстар спорту па боксе і фэхтаваньні, чэмпіён Беларусі па боксе. У пачатку 1950-х зьехаў на вучобу ў Маскву, дзе й застаўся. Пачынаў з працы ў ліцейным цэху маскоўскага аўтазаводу імя Ліхачова, а ў пачатку 80-х ужо быў памочнікам генсака КПСС Андропава па пытаньнях эканомікі. У 1990 г. А.Вольскі ачоліў Навукова-прамысловы саюз СССР (папярэднік Расейскага саюзу прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў), які надоўга перажыў сам Савецкі Саюз. Ён мае імідж чалавека, які вырашае складаныя палітычныя праблемы (Нагорны Карабах, Чачэнія ды інш.). Пры гэтым кіруецца прынцыпамі: ня здраджваць сябрам, ня браць хабару і не губляць прыстойнасьці.

Старшыня рады дырэктараў «Масбізнэсбанку» Віктар Буката паходзіць зь Пінску, дзе нарадзіўся ў чэрвені 1939-га, напярэдадні другой сусьветнай вайны. Яе часта згадвае ў сваіх інтэрвію Буката, бо падчас нямецкай акупацыі ён ледзь не загінуў, запомніўся і голад першых пасьляваенных гадоў. Віктар Буката марыў стаць геолягам, але лёс пакіраваў яго ў банкіры. Кар'еру ў Маскве пачаў у 1970-я з пасады намесьніка старшыні Будбанку СССР. У 1988 г. стаў старшынём праўленьня Банку жыльлёва-камунальнай гаспадаркі і сацыяльнага разьвіцьця СССР. Апошнія пяць гадоў кіруе «Масбізнэсбанкам».

Буката любіць расейскую клясычную музыку, творы расейскіх пісьменьнікаў, а на беларушчыну забыўся.

**Сілавікі**

Яшчэ ў савецкія часы беларускія «кадры» ў Маскве лічыліся самымі стараннымі. І цяпер у Расеі могуць адшукацца дзясяткі беларусаў, якія займаюць (альбо займалі) уплывовыя пасады ў войску, міліцыі, ФСБ. Тут і касманаўты-генэралы Ўладзімер Кавалёнак ды Пятро Клімук, і «галоўны дэсантнік» Расеі генэрал-палкоўнік Георгі Шпак, і намесьнік камандзіра Балтыйскага флёту віцэ-адмірал Васіль Апановіч, і многія іншыя. Беларусы служаць ня толькі ў Маскве, але і ў расейскай правінцыі. Ад сьнежня 2001 г. органамі ўнутраных спраў Валгаградзкай вобласьці кіруе 48-гадовы генэрал-маёр Пятро Чыпура. Ён не хавае свайго беларускага паходжаньня. А валгаградзкі губэрнатар Мікалай Максюта неяк прызнаўся: любіць Чыпуру менавіта за тое, што ён беларус, як і сябар ягонай вобласьці Аляксандар Рыгоравіч... Цікава, што Чыпура не выпадкова «выплыў» з Самары ў Валгаград. Ён мае надзейны «дах» у Маскве, у міністэрстве. Сярод ягоных «куратараў» — генэрал Міхаіл Нікіфараў.

**Дысыдэнты**

Гэтыя людзі, зразумела, ні на што ўжо не прэтэндуюць і ўсур'ёз расейскімі ўладамі не разглядаюцца. Зорныя часы дысыдэнтаў прыйшліся на канец 80 — пачатак 90-х, калі яны спрычыніліся да краху камуністычнай імпэрыі.

Лідэрка партыі «Дэмакратычны саюз Расеі» Валерыя Навадворская нарадзілася 17 траўня 1950 г. у Баранавічах. Упершыню яе арыштавалі ў 19 гадоў за «антысавецкую агітацыю і прапаганду». Пасьля былі «псіхушкі», суды, распаўсюд самвыдату, спроба ў 70-я стварыць падпольную партыю для барацьбы супраць КПСС. У 1988 г. яна заснавала арганізацыю «Дэмакратычны саюз», у тыя часы вельмі актыўную, якая цяпер трансфармавалася ў партыю. У траўні 1991-га Навадворская трапіла за краты за зьнявагу гонару і годнасьці прэзыдэнта СССР і дзяржаўнай сымболікі. Толькі параза жнівеньскага путчу 1991 г. зрабіла яе свабоднай. Яна і цяпер застаецца ў апазыцыі расейскай уладзе, час ад часу, праўда, яе падтрымліваючы, калі трэба змагацца супраць «чырвона-карычневых». Пра Беларусь Навадворская не забываецца і калісьці нават зьбіралася ствараць партызанскія аддзелы на выпадак расейскай акупацыі.

Яшчэ адзін былы савецкі дысыдэнт паходзіць з Заходняй Беларусі — гэта Віктар Аксючыц. Ён нарадзіўся ў 1949 г. у вёсцы Варданцы Маладачанскага раёну ў сялянскай сям'і. У 1964 г. паступіў у Рыскую мараходную вучэльню, аднак не давучыўся, служыў на Балтыйскім флёце. Пасьля вучыўся на філязофскім факультэце Маскоўскага ўнівэрсытэту, у 1978 г. стаў асьпірантам катэдры замежнай філязофіі, пісаў дысэртацыю на тэму тагачаснага замежнага пратэстанцтва. У 1979-м В.Аксючыц выйшаў з КПСС, пачаў займацца распаўсюдам рэлігійнага і палітычнага самвыдату. За гэта яго выключылі з асьпірантуры. Аж да 1987 г. Аксючыц працаваў на сэзонных работах у калгасах ды саўгасах Сібіры, Далёкага Ўсходу, Казахстану. У часы перабудовы ён шмат друкаваўся за мяжой, выдаваў «літаратурна-філязофскі часопіс расейскай хрысьціянскай культуры «Выбар». У 1990 г. Аксючыц становіцца дэпутатам Вярхоўнага Савету Расеі, узначальвае Расейскі хрысьціянскі дэмакратычны рух, удзельнічае ў розных «патрыятычна-праваслаўных» кааліцыях. Цяпер Аксючыц працуе памочнікам у Барыса Нямцова, хваліцца, што ўвёў яго ў палітыку. Яшчэ В.Аксючыц займае пасаду дацэнта Дзяржаўнай акадэміі славянскай культуры, выдае кніжкі, у якіх выступае як праваслаўны фундамэнталіст. Што да асабістага жыцьця, дык у біяграфіях, напісаных непрыяцелямі В.Аксючыца, адзначаецца: «часта жаніўся, адна з жонак — кіраўніца габрэйскага тэатру».

Калі б у Беларусі быў іншы палітычны рэжым, «маскоўскія землякі» маглі б зьмяніць сваё стаўленьне да яе незалежнасьці і хутка «перабудавацца». Будучы ў Расеі «варагамі», многія зь іх не хацелі б губляць сувязяў і з Бацькаўшчынай. Можна прыгадаць хоць бы той факт, што ў жніўні 1991-га бел-чырвона-белы сьцяг у залу беларускага парлямэнту разам з Лукашэнкам уносіў касманаўт Кавалёнак.

Цяжка сабе ўявіць на першых ролях у фінскай ці нямецкай палітыцы чалавека, які вырас у іншай краіне. Няма лепшага сьведчаньня таго, што Расея застаецца больш савецкай, як нацыянальнай дзяржавай, чым склад расейскае палітычнае эліты. Гэтыя колы ня трацяць надзеі поўнага аднаўленьня уплыву Масквы ў страчаных ускраінах сьледам за экспансіяй расейскага капіталу. Калі беларускія эліты пагодзяцца ажыцьцявіць пілётны варыянт такой інтэграцыі, у Менску, нібы ў Грозным, побач з «нацыянальным лідэрам» зьявіцца і маскоўскі дарадца. У гэтым выпадку ім напэўна стане нехта з вышэйпакрэсьленага сьпісу.

**Алег Тачоны** (Наша Ніва)

*******************************************************

# Польшча падпісала Эўрапэйскую Хартыю Моваў

Польшча падпісала Эўрапэйскую Хартыю Моваў Рэгіянальных і Нацыянальных Меншасьцяў. Эўрапэйская Хартыя Моваў была створаная дзеля прамоцыі моваў нацыянальных меншасьцяў, а таксама гістарычных рэгіянальных моваў. Дзяржавы, якія падпісваюць Хартыю, абавязаныя шанаваць права на карыстаньне роднай альбо рэгіянальнай мовай грамадзянамі, што зьяўляюцца чальцамі меншасьцяў. Хартыя акрэсьлівае таксама канкрэтныя сродкі дзеля прамоцыі гэтых моваў у грамадзкім жыцьцы. Гэта датычыць судовай сыстэмы, адукацыі, публічных уладаў, СМІ, а таксама мастацкай і эканамічнай дзейнасьці. Кожная краіна, якая ратыфікуе Хартыю, абавязаная выкарыстоўваць прынамсі 35 сродкаў прамоцыі мовы са створанага сьпісу гэтых сродкаў.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# СТВАРАЛЬНАЯ СІЛА МАРАЎ

Чалавек стае свабодным з таго самага момэнту, як ён таго пажадае"

Вальтэр

/У парадку дыскусіі, Рэдакцыя/

Дасягнуўшы ўзросту, калі жыццё больш не падаецца бясконцым, пачынаеш пераасэнсоўваць сябе праз тое, з чаго ты складзены - свой лёс, свае карані, сваю радзіму.

Я Беларусь ня надта люблю. Прынамсі гэты наш сённяшні правінцыйны, шэры і занядбаны край. Беларусь можа быць прывабнай, калі яе параўноўваць з некаторымі іншымі краінамі другога свету, што часта і робяць нашыя "патрыёты", як прафесійныя, так і аматары. Калі ж яе судзіць па "гамбургскім ліку", г.з. параўноўваць з лідэрамі сусвету, то яна недастаткова прыгожая, недастаткова ўтульная і недастаткова цікавая. У цікавых грамадствах пахне вялікімі амбіцыямі, вялікімі справамі, вялікімі грашыма і вялікімі страсцямі. У нашым пахне будзённасцю, запаволенасцю ды казённым домам. Большасць маіх дарагіх суайчыннікаў вяршыць справы так, быццам у іх яшчэ два-тры жыцці назапашана, затое пье так, быццам бы заўтра не існуе. Мы, беларусы, амаль што нічога не далі свету і толькі карыстаемся з вынікаў розуму, таленту ды энергіі перадавых народаў. Італьянцы, як яны сцвярджаюць, вынайшлі сонечнае свята і оперу; французы вынайшлі кнігу і жанчыну; немцы - парадак і дысцыпліну, швэйцарцы - дабрабыт. А што вынайшлі, што далі свету мы? Памяркоўнасць ды апатыю? Паслухмянасць ды безнадзейнасць? Рынкавы сацыялізм, праваслаўны атэізм ці іншыя глупствы? Калі на свеце ня стане Італіі - свет збяднее; калі не стане Расеі - свет уздыхне з палёгкай; калі не стане Беларусі - свет, баюся, не заўважыць.

Я не маю намеру ганьбіць беларусаў - я сам адзін з іх і маю поўнае права на самакрытыку. Я проста хачу спыніцца ставіцца да сваёй радзімы як да хранічна хворага дзіцяці, якое апрыёрна не ў стане канкураваць з "моцнымі свету сяго". Мне недаспадобы, калі спасылаюцца на цяжкі лёс беларусаў, быццам бы гісторыя іншых народаў складаецца з адных святаў. Мне смешна, калі нас, народ "васільковай" ды "сіневокай" жабрацкай краіны, называюць разумным, добрым, працавітым ды талерантным. Калі мы разумныя, то чаму так глупа жывем? Калі добрыя - то чаму крычым на дзяцей і гаркой стаім за смяротнае пакаранне? Калі працавітыя, то чаму такія бедныя? А нездольнасць да пратэсту, прабачце, яшчэ не вызначае талерантнасці. Можа лепей проста спакойна і цвяроза ўгледзіцца ў сябе, зрабіць гэты першы крок да сапраўднай самапавагі. Бо крыўда на праўду - гэта толькі ад слабасці.

Любіць я, можа, Беларусь і не надта люблю, але ж і абыякавым заставацца таксама не атрымліваецца. Таму і прыяжджаю ў родную старонку, хаджу па вуліцах свайго дзяцінства, дыхаю знаёмым паветрам стрыманай свабоды і задаюся рознымі несур'ёзнымі пытаннямі. Пытаннямі кшталту: ці сапраўды, каб стаць годным народам, нам не хапае толькі нацыянальнай свядомасці? За што бог такім ахламоністым мужыкам даў такіх цікавых жанчын? І нашто я тады адсюль з'ехаў?

А з'ехаў я таму, што проста здарылася такая магчымасць. Магчымасць пераскочыць праз бар'ер, расплюшчыць вочы, рызыкнуць усталяванасцю, але ж і ўхапіць свабоду за хвост! Свабоду, якую прагнуў, пра якую марыў з дзяцінства. І ўхапіў! Мары ёсць матэрыяльнымі, хто ні пра што ня марыць, той нічога не дасягае. Хто жадае малага - атрымлівае мала. Узровень жыцця вельмі часта вызначаецца ўзроўнем імкненняў. Як пісаў Сомэрсет Моэм,: "Калі ты адмаўляешся браць ад жыцця нічога, акрамя самага лепшага, вельмі часта ты гэта атрымоўваеш". Асноўнай формулай жыццёвага поспеху, як для асобнага чалавека, так і для нацыі, ёсць амбіцыі памножаныя на здольнасці. Вялікія памкненні, г.з. высокія мары і моцны дух, на грунце здольнасцяў і талентаў - вось крыніца цывілізацыі, вось рухавік гісторыі чалавецтва.

І дасёння светам правяць амбіцыі; і цікаўнасць; і грошы; і прага ўлады; і сэкс. Усяго гэтага на Беларусі бракуе (наконт сэксу, праўда, ня буду сцвярджаць – на жаль, добра ня ведаю), таму Беларусь і не правіць светам, а свет правіць ёю. Аднак, наша бяда ня ў тым, што мы сёння бедныя ды прыгнечаныя, і нават ня ў тым, што застаемся не зусім паўнавартым народам - рускамоўнымі па нацыянальнасці і галыцьбой па перакананнях. Я не суджу людзей па тым, што яны ёсць, а па тым, кім яны хочуць быць і што дзеля гэтага робяць. Бяда ня ў тым, што заваявалі нашу тэрыторыю, а ў тым, што заваявалі наш дух. Наша асноўная праблема ў тым, што мы лічым зусім натуральным, што нехта ў свеце жыве лепей за нас. Старая латышская прыказка сцвярджае, што беднасцю нельга ганарыцца. Беднымі могуць быць філёсафы ды паэты, для каторых беднасць - крыніца творчасці і гарантыя творчай свабоды. У астатніх выпадках беднасць ці ад ляноты, ці ад дурноты. Большасць нашых бед - ад беднасці, у тым ліку і нізкая нацыянальная свядомасць. Але ж адкуль сама наша беднасць? У нас зямля ня родзіць ці рукі не гнуцца? Беднасць, як добравядома на захадзе, гэта проста пэўны стан духа. Доўга разважаючы пра прычыны нашай хранічнай адсталасці ад авангардных нацый планеты, я прыйшоў да высновы, што ў іх мазгі ўладкаваныя інакш, прасцей кажучы - яны разумней за нас (ды і каардынацыя паміж розумам і эмоцыямі, што завецца сілай волі, у іх лепей). Я не кажу, што нашыя людзі ў прынцыпе глупыя - сярэдні каэфіцыент абстрактнага інтэлекту, напэўна, не ніжэй чым на захадзе (у іх таксама дурняў - процьма). Ды я і сам ведаю колькі людзей на Беларусі, каторыя значна разумней, напрыклад, за мяне (хаця мая жонка, думаю, ніколі ў гэта не паверыць, за што яе і люблю). Але што датычыцца палітычнай самаарганізацыі, сумеснага жыцця ды сацыяльнай логікі, г.з. прагматычнай дабрыні - тут поўны правал. Няхай наш народ палітычна нявопытны і маласвядомы, але ж здаровы сэнс ды пэўныя сацыяльныя інстынкты павінны існаваць. А ў нас адна толькі "рюскі душа", як замяняльнік розуму і характару. Вось на гэтай глебе і квітнеюць беднасць, зайздрасць, закамплексаванасць і няволя. Як казала жонка амерыканскага прэзідэнта Элеанора Рузвэльт,: "Ніхто не прымусіць вас адчуваць сябе рабамі, калі вы самі з гэтым не пагадзіцеся".

Гісторыя не фарміруе народы - народы фарміруюць гісторыю. Несвабода сённяшня ці былая яшчэ не вызначае гістарычнай наканаванасці на несвабоду. Ніводная краіна ў свеце ня была ўвесь час свабоднай. Рымляне, напрыклад, самі доўга знаходзіліся пад пананаваннем этрускаў. Але ж вызваліліся, дзякуючы намаганням нацыянальнай эліты, і пакарылі паўсвету, ствaрыўшы найвялікшую цывілізацыю. Ангельцы былі заваяваны нарманамі, і з адзінаццатага стагоддзя па сёння імі кіруюць манархі неангельскіх дынастый. Тым ня меньш, гэта не перашкодзіла ім сфармававаць ў выдатную нацыю і стаць аднымі з вялікшых донараў сусветнай цывілізацыі. Маскоўцы, стагоддзямі жыўшыя пад уладай татараў, пераймалі іхную арганізацыю грамадства і цюркскі заваёўчы дух. Яны атрымалі ад Арды імпульс імперскасці, навучыліся не баяцца стэпу і, у рэшце рэшт, пакарылі датуль палохаўшы стэп, а потым і землі на захад ад Масквы. Калі рымляне зрабілі Заходнюю Эўропу тым, чым яна ёсць сёння, то татары зрабілі сённяшнюю Расію. Але ж зрабілі гэта з адпаведнай "гліны", дзе самі заваяваныя набылі дух лідэрства.

Вось так ствараліся цывілізацыі - праз войны, заваёвы і ўздым духа. Беларусь жа апынулась паабапал цывілізацый, у нейкай дзірцы прасторы і часу, не атрымаўшы нацыянальна-стваральнага імпульса ні з захаду, ні з усходу. Гісторыю, як вядома, пішуць пераможцы. Тое што мы, беларусы, засталіся амаль што без сваёй уласнай гісторыі, дамінуючай культуры і нацыянальнай самаідэнтыфікацыі сведчыць пра тое, што мы - слабейшыя за суседзяў, слабейшыя духам. Таму тое, як мы жывем - гэта справядліва. Наш узровень і лад жыцця адпавядае нашым здольнасцям і нашым амбіцыям. Ад нашай беднасці духам мы і бедныя матэрыяльна, мы і камуністычныя, мы і русафільныя. Бо тая самая Расія - гэта нават не краіна, а, хутчэй, пэўны лад жыцця. Лад жыцця, дзе быць свабодным ня ёсць неабходным, а ёсць небяспечным; дзе адстрэльваецца кожны, у каго каэфіцыент інтэлекту вышэй пяцідзесяці, а каэфіцыент сумлення - вышэй нуля; дзе цвярозаму няўтульна, затое пьянаму ліха; дзе дабрабыт дзяржавы не мае нічога агульнага з дабрабытам яе грамадзянаў; дзе … ды добра, вы і самі ведаеце. Таму і зразумела цяга беларускага мужыка да Расіі - гэтаму сымбалю люмпенаў усяго свету, таму і зразумела ягонае захапленне плаксівай рускай культурай, таму і гатовы ён увесь сусвет абмяняць на адну Маскву. Аднак жа Расія - гэта цывілізацыя, а мы - не. Яны апынуліся мацнейшымі за нас, перамаглі і пакарылі нас. Мы, разам са жмудзінамі і палякамі, таксама не былі анёламі і мелі значны шанец на падпарадкаванне Масковіі і на гістарычнае панаванне ва Ўсходняй Эўропе. Але перамаглі эўраазійцы, і гэта, мусіць, было непазбежна. Бо ўсё, што здараецца - непазбежна. Кожны чалавек, як і кожны народ, свядома ці несвядома, гадамі будуе свой лёс. Аднак гэта ўсё - гісторыя, якая да нашай сённяшняй рэчаіснасці мае толькі ўскоснае дачыненне. Няма сэнсу плакацца на тое, што ў гісторыі не пашанцавала, калі сёння можна рабіць гісторыю сваімі ўласнымі рукамі.

І прабуем рабіць. Я маю на ўвазе тую валтузню паміж афіцыйнай уладай і апазіцыяй. Пра першых казаць ня буду - яны мне нецікавыя, хаця ёсць і сярод іх людзі "з пярчынкай". Сэрца ж мае - з другімі. Таму, баюся, яно і баліць.

Крытыкаваць нашу апазіцыю - банальна. Вельмі часта абмеркаванне прычынаў неэфектыўнасці апазіцыйных рухаў круціцца вакол традыцыйна рытарычнага пытання - кто вінаваты, апазіцыя ці апякуемы ею народ. Ці то няўдалыя лідэры ў годнага народа, ці то нягодны народ у здольных лідэраў? Пытанне гэта вартае пытанню пра курыцу і яйка, - іншага народа ў нас няма, а патэнцыйныя правадыры самі выйшлі з гэтага этнаса і з'яўляюцца ягонай часткай. Але ці сапраўды яны прэтэндуюць на кіраванне дзяржавай ды грамадствам? Прапаганда нацыянальных каштоўнасцяў, беларускай мовы і ўласнай гісторыі - гэта цудоўна, але ж ёсць справай арганізацыяў тыпу ТБМ і Бацькаўшчыны. А адзіная мэта палітычнай партыі - прыход да ўлады. Той самы БНФ, як прыклад, так і ня вырас з "порткаў" культуралягічнай суполкі. І патроху дэградуе. Раней былі пэўныя поспехі ды пэўныя амбіцыі, але не хапіла вопыту палітычнай барацьбы і, мусіць, чагосьці яшчэ (што, можа, зразумела і даравальна для палітыкаў першай генерацыі). І пайшлі паразы. І пачалося незразумелае. Кожная чарговая параза БНФ успрымалася, прынамсі ў маім асяроддзі, боллю ў сэрцы ды цяжарам на сумленні. Сам жа БНФ рабіў для сябе цікавыя высновы - "так, мы прайгралі усё, што магчыма; так, нас зноў працягнулі, прабачце, мордай па стале, але ж …". Далей пачынаўся нейкі дзіцячы лямант, тыпу: "мы так публічна аганьбіліся, што нас за тое цяпер кожны ведае". Я дагэтуль не магу ўцяміць, чаму нас, нашыя ж аднадумцы, лічылі за дурняў. Можна дараваць няўмысныя памылкі і паразы ў барацьбе. Нельга дараваць непавагу да людзей і няшчырасць. Калі б хто з іх калісьці сказаў: "Браты, мы, здаецца, нешта ня тое рабілі і зайшлі не туды, не выкарысталі палітычны патэнцыял, змарнавалі час і магчымасці. Прабачце, - можа розуму не хапіла, можа ведаў ды вопыту, можа вашай падтрымкі. Але мы стараліся. Зараз мы навучыліся на сваіх памылках і зрабілі высновы, мы ўдакладнілі тактыку і стратэгію барацьбы, мы абнавілі лёзунгі і ўзмацнілі кіраўніцтва. І мы спадзяемся на вашу падтрымку!". Вось гэта была бы цывілізаваная, сапраўды дэмакратычная партыя. Нешта я мару бяз меры.

Але ж пытанне да ўсіх тых, хто называе сябе палітычнымі партыямі, у мяне застаецца — хлопцы, як вы збіраецеся прыйсці да ўлады? Толькі не адказвайце мне нешта банальнае, тыпу: а) эканоміка грохнецца, б) народ пачне пратэставаць і в) заграніца нам паможа. Па-першае, эканоміка не грохнецца, і нават сталінскі тып гаспадаркі дастатковы для падтрымкі мінімальна неабходнага ўзроўня жыцця. А максімальнага наш люд не патрабуе. Я ўжо не кажу пра тое, што спадзявацца на зруйнаванне эканомікі сваёй краіны неяк амаральна. Па-другое, народ не пачне адкрыта пратэставаць. Наш народ ўсё робіць пацішку, ён нават любіць і ненавідзіць спадцішка. Дуля ў кішэні - вось апагей беларускага масавага палітычнага пратэсту. Бо беларусы - не змагары, беларусы - працаўнікі.

На актыўную падтрымку захада я б таксама не разлічваў. Таму што наш эканамічны патэнцыял і геаграфічнае становішча для захада не прынцыповыя. А абарона асобы, дэмакратыі ды ліберальных свабод - нішто ў параўнанні з геапалітыкай. "Крутыя" нацыі свету займаюцца ў першую чаргу геапалітыкай, а не дабрачыннасцю. А ў сённяшней геапалітыцы Беларусі няма. Ды і потым захад, як і ўсход, схільны дапамагаць толькі тым, хто сур'ёзна прэтэндуе на поспех.

А вось з поспехамі пакуль ня густа. Дык на чым яны грунтуюцца, тыя палітычныя поспехі? На добравядомых рэчах: 1) прывабнай і зразумелай масам ідэалёгіі, 2) арганізацыі і кадрах, 3) стратэгіі і тактыцы барацьбы за ўладу, 4) лідэрскіх якасцях правадыроў, 5) грошах і 6) божай ласцы, ці ўдачы. Што з гэтага мае ў сваім арсэнале беларуская палітычная апазіцыя? Пачнем з ідэалёгіі. Амаль уся наша апазіцыя ўзняла на свае сцягі зацёртыя штампы нянашага мінулага - дэмакратыю і свабоду, рынкавую эканоміку, незалежнасць ды нацыялізм. І з гэтым, даруйце, ідзе ў народ. **Дэмакратыя?** Ды яна ў духоўна несвабодным грамадстве - карацейшы шлях да дыктатуры. Дэмакратыя ўжо апранула хамут на карак кожнага вольналюбівага беларуса (гэты хамут завецца прэзідэнтам). Дэмакратыя - абаюдавострыя меч, у руках палітычна некваліфікаванага дэмаса ён можа нарабіць процьму шкоды. Ды нават у калысцы дэмакратыі - эўрапейскім захадзе ды ў Амерыцы, як і па ўсім свеце, жыццём насамрэч кіруе не народ, а частка найбольш моцных, здольных, агрэсіўных ды, пэўна, цынічных людзей. І гэта справядліва, бо кожны з іх дае грамадству значна больш, чым статак "памяркоўных". Дабрабыт любога грамадства залежыць у першую чаргу не ад наяўнасці ў ім дэмакратыі, а ад канцэнтрацыі ў ім здольных і моцных асоб. Калі гэтая канцэнтрацыя даволі высокая - з'яўляецца дэмакратыя, свабода і дабрабыт.

Ды і **свабода** для звычайнага беларуса - не каштоўнасць: народжаным у няволі аб волі не баліць. Беларус у чарзе за півам біцца будзе, а за свабоду - не. Свабода палохае баязліўца, свабода акрыляе смелых. Годную асобу за свабоду ня трэба агітаваць, гэта як агітаваць за дыханне. Унутрана свабодны чалавек несвабодны ад свабоды, яна не пакідае яму духоўнага выбару, яна - адзіная магчымая форма ягонага існавання.

**Рынак**, зноў жа, - гэта для моцных. Рынак - гэта сталая рызыка, стрэс ды асабістая адказнасць за ўласны дабрабыт. Таму рынак псіхалягічна няўтульны, таму і ня надта прываблівае маленькага чалавека. Маленькаму чалавеку зручней літасцівая несвабода.

Ды і тая ж **незалежнасць**, яна ізноў - у асноўным для тых, хто кіруе, для амбіцыйных і прагных да ўлады. Для тых, кім кіруюць, яна - ружовы ідэал. Абы панкіроўца добры быў, а свой ці чужы - непрынцыпова.

**Нацыялізм** - гэта асалода маёй асабіста душы. Нацыяналізм - гэта вера ў сваю выключнасць, у свае непадабенства да іншых. Нацыяналізм - гэта форма самапавагі, гэта перакананне ў тым, што ты і твой народ - найлепшыя ў свеце. Нацыяналізм - гэта любоў! Ён - вялікая стваральная сіла, на нацыяналізме будаваліся усе заходнія дэмакратыі. Але ж нацыяналізм - гэта для рамантыкаў. А колькі тых рамантыкаў ў звычайным грамадстве?

Таму, шаноўныя сябры-дэмакраты, не карміце людзей ідэаламі. Хопіць прымушаць кухарку кіраваць дзяржавай. Аднолькава прымітыўныя і артадоксы камунізму, і артадоксы дэмакратыі. Трэба быць прасцей і грубей у палітычнай агітацыі, бо мы - нармальная краіна са значнай перавагай прыхільнікаў футболу і піва над прыхільнікамі Шапенгаўэра і Берліоза. Яшчэ злы геній палітычных тэхналёгій, кумір першага прэзідэнта РБ Адольф Гітлер казаў: "Асноўныя массы працоўнага люду хочуць толькі хлеба і відовішчаў (вельмі арыгінальная думка - В. Е-В). Яны не маюць анікага разумення пра нейкія ідэалы, і мы ня можам нават спадзявацца прыцягнуць рабочую клясу шляхам выкліку да ідэалаў".

**Арганізацыя і кадры.** Пакуль нашыя апазіцыянеры будут заставацца партыямі сельскіх настаўнікаў, мастакоў ды студэнтаў, г.з. этнаграфічнымі кружкамі, а не арганізаванай сілай, яны могуць без рызыкі займацца "палітычнай" дзейнасцю - тусоўкамі ў Менску ды жаваннем гумы ў Брукселі ці Страсбургу. Трагічны лёс Ю.Захаранкі паказаў, як баіцца ўлада людзей іншага гатунку ў апазіцыі. Як баіцца яна сілы, бо акрамя сілы не разумее і не паважае анічога. Палітычныя партыі інтэлігенцыі не даюць рады нават у краінах развітай парлямэнцкай дэмакратыі. А у нас і тым больш, сотня ПТВушнікаў, рабочых ці былых вайскоўцаў варта тысячам "яйкагаловых". Бо ў палітычнага руху не мусіць быць адна галава - мусяць таксама быць і крэпкія "мускулы". Палітычны рух мусіць выпраменьваць сілу, бо сіла вабіць масы, яна надае адчуванне слушнасці ідэяў. А якія асацыяцыі выклікае ў абывацеля БНФ ці АГП (калі ён пра іх чуў)? Сілы? Уплыву? Масавасці? Адкажыце самі. У жаночым грамадстве і апазіцыя жаночая. А бабы, прабачце, баб не любяць. Сучасная улада больш на мужыка падобная, хай сабе і дурнога.

**Стратэгія і тактыка.** Яны, здаецца, абмяжоўваюцца перакананнем пераканаваных ды чаканнем ці то ўмяшальніцтва вонкавых сілаў, ці то самазабойства ўлады.

**Лідэрскія якасці.** Народ ідзе не за тым, хто прапануе выбар, а за тым, хто ўказвае шлях - "адзіны" і "верны" (бо народ ад наяўнасці выбару пакутуе больш, чым ад

яго адсутнасці). Прычым указвае рашуча і страсна. І такі правадыр, каб павесці за сабой, мусіць думаць банальна, а прамаўляць страсна. Як Лукашэнка, як Гітлер. Апошні пісаў: "Толькі тыя, хто самі поўныя страсці, могуць узбудзіць страсць у іншых". Страсць - падмурак любога дасягнення; страсць нараджае волю - воля пераможа ўсё. І вось у гэтых галоўных складаных палітычнага лідэрства - палітычных інстынктах, хваравітай страсці, ведання псіхалёгіі маленькага чалавека, рашучасці ды волі, Лукашэнка на дзве галавы вышэй за любога іншага беларускага палітыка. Ён вантробай адчувае тое, што мы сілімся зразумець розумам: ён - народжаны палітычны дзеяч, інтуітыўны, фанатычны і энергічны, хаця малаадукаваны і дэструктыўны. А ў апазіцыі жа, пасля неадэкватнага З. Пазняка, "настоящих буйных" няма. Час ад часу падаецца, што пэўным апазіцыянерам утульна ў акопах апазіцыі, што яны псіхалягічна непадрыхтаваныя прыйсці да ўлады і нават несвядома баяцца яе. Беларусі бракуе людзей з вялікімі характарамі і вялікімі страсцямі – гэтак штосьці для Шэкспіра!

Нехта можа сказаць, што мне лёгка павучаць, сідзячы далёка, у цяпле і бяспецы. І будзе мець рацыю. Аднак я, прынамсі, не бяруся за справу, якую не магу рабіць. Той, хто прэтэндуе на палітычную ролю ў грамадстве, мусіць быць адкрыты для любой крытыкі. Хлопцы, вы - прафесіяналы, вы больш нічым, як палітыкай, не займаецеся. І кожны мае права патрабаваць ад вас прафесіяналізму. Бо неэфектыўнасці няма тлумачэння. Адсутнасць доступу да СМІ - яшчэ не прычына непапулярнасці. Абгрунтаваны страх за свае жыццё і свабоду - яшчэ не прычына нерашучасці. Так, быць шчырым патрыётам-змагаром у сённяшняй "васільковай" краіне, безумоўна, страшна. Я бы і сам баяўся, бо каму хочацца загінуць ад рук напоўжывёльнай істоты, знікнуць бяз сляда, як нашыя вядомыя, маладыя ды прыгожыя хлопцы. Баяцца - не грэх. Грэх - не дабівацца вынікаў сваёй прафесійнай дзейнасці, бо толькі практычныя поспехі ёсць крытэрыям як палітычнай мудрасці, так і палітычнай смеласці. А асабістая небяспека, на жаль, неад'емны элемент палітычнай дзейнасці ў нецывілізаваных краінах. Таму вялікі гонар і слава тым, хто ёю займаецца, шчыра і аддана. Толькі давайце скончым з ахвярнасцю. Час паклапаціцца пра мускулы, бо граць ролю Ісусаў на палітычнай арэне нам не дадуць - растопчуць.

**Грошы.** Па-першае, грошы на барацьбу з уладай браць ня сорамна. Калі напоўлегітымны прэзідэнт на падтрыманне "светлага ўчора" бярэ грошы ў Масквы, мусульманскага свету ды з кішэні ўласнага народу, то зусім лягічна і сумленна ягоным апанентам браць грошы ў захада. Бо цяперашняе палітычнае супрацьстаянне мае свае карані ў гісторыі нашага краю, сённяшняя барацьба ідэй на Беларусі - гэта рэха гістарычнага спаборніцтва захаду і ўсходу, заходнікаў і славянафілаў, каталіцызма і праваславія, лацінкі і кірыліцы, віна і гарэлкі. Аднак памудрэўшы захад ужо не купляецца на абяцанкі тыпу: "Дайце нам грошы, і мы зробім справу". Ён адказвае: "Дакажыце, што вы ў стане рабіць справу, і тады мы вам дамо грошы". Пакуль што даюць дробязь на мітусню, бо і краіна непрыкрытэтная, і атрымальнікі невыразныя. На сёння мы на Беларусі ня маем палітычных арганізацыяў адпаведнага сітуацыі кшталту - добра структураваных, добра падрыхтаваных, добра дысцыплінаваных, моцных і ўплывовых. Маем асобных шчырых ды мужных людзей. Гэта нямала, але недастаткова. Я ўжо не кажу пра ўзаемаадносіны паміж асобнымі апазіцыйнымі партыямі і іхнымі лідэрамі. Пра гэта лепей сказаў ангельскі пісьменнік Самуэль Джонсан: "Яны былі вельмі справядлівымі людзьмі - яны ніколі не сказалі адзін пра другога добрага слова".

Калі ж дойдзе да сур'ёзных справаў, калі з'явяцца рэальныя прэтэндэнты на ўладу, то фінансавыя спонсары стануць у чаргу, ды будуць лакцямі піхацца. Бо ўлада на Беларусі каштуе невялікія грошы параўнальна з палітыка-эканамічным патэнцыялам краіны.

**Божая ласка, ці удача.** Беларусь не належыць да вельмі ўдалых краінаў. Таму спадзявацца на тое, што пашанцуе, што бог дасць, асабліва ня варта. А калі бог і даваў, то беларусы не бралі. Калі б я быў богам, беларусы, баюся, не былі б маім любым дзіцём. Бо бог любіць тых, хто ўмее радавацца жыццю і ўпрыгожваць свет божы. А беларус, нічога прыгожага не пабудаваўшы і ні на што ў свеце не ўплываючы, выглядае так, быццам бы трымае на плячох шар зямны. Але ж, ўсё роўна, пажадаем нам усім удачы.

А каб гэтую ўдачу прывабіць, каб бог на нас увагу звярнуў, будзем старацца стаць вышэй. Будзем марыць, будзем расці, будзем мудрэць. Пастараемся шчыра зірнуць на сябе і сваіх супляменнікаў, разабрацца хто мы ёсць, без ідэалізацыі і ачарнення. Гэта будзе першай цэглай у падмурак самапавагі. Дзеля таго і пішу гэтыя нататкі, у жанры цынічнага рамантызму.

Мы, канешне, не арыстакраты Эўропы, але мы і не памылка прыроды. Мы - нармальны народ "на стыку" цывілізацый; народ, які адначасова і эўрапейскі і рускі; і свабодалюбівы, і рабскі; і разумны, і дурны; і ветлівы, і хамскі; і бел-чырвона-белы, і проста чырвоны. Гэта усё - мы, як адзінае цэлае. Таму ніхто ў нашай краіне ня дасць рады, будучы праведным толькі адной, ці то "свядомай", ці то "чэснай", часткі грамадства. Гэта проста сэктанства, гэта вядзе (ужо прывяло) да расколу грамадства. Тая палітычная сыстэма ды сацыяльная мараль, якую мы сёння маем, ёсць вынікам нашага супольнага развіцця, нашых агульных намаганняў. Не сыстэма фарміруе людзей, а людзі будуюць сыстэму адпаведна са сваімі культурна-маральнымі якасцямі. Дзяржава - бюракратычнае выяўленне нашых душ. І калі яна меньш багатая і меньш гуманная, чым на захадзе, то гэта віна нашая, а не дзяржавы. Тое, што мы ніжэй якасцю за заходнікаў, таму і жывем горш, не выклікае сумневу. Але ці наканавана нам заўсёды быць горш? Мы хто - няўдалыя дарослыя ці падрастаючыя дзеці Эўропы? Адмаўляць, што заходні люд паспяховей ды здольней за нас - глупства; успрымаць іх як ворагаў - слабасць; не хацець у іх вучыцца - дзікунства. Аднак і вучыцца ў іх трэба творча, бо копія, як вядома, горшая за арыгінал. Мы не зможам стаць уворавень з перадавымі народамі, калі будзем проста раўняцца на іх. Каб стаць роўнымі, нам трэба стаць першымі. Захад старэе і драхлее, хутка нехта іншы павінен будзе ўзяць на сябе ролю цягніка прагрэсу. А тут Беларусь, "блукаючая зорка" цывілізацый, стагоддзямі прыціснутая, стагоддзямі не раскрываючая свой патэнцыял. А калі і сапраўды "сіла дзеяння роўная сіле супрацьдзеяння", то... Бачыце, куды схіляюся? Утопія, кажаце? Пэўна, але ж толькі высокія мары ўздымаюць дух, без высокіх мараў мы пратухнем. І будзем надалей лічыць маякамі цывілізацыі, прабачце, Польшу з Літвой.

А калі ўкладзем у Беларусь сваю душу, свой розум і сваю энергію, то можа і любіць яе станем болей. Бо бяда нашай краіны ня ў тым, што яна недастаткова прыгожая, а ў тым, што недастаткова любая. Беларусь існуе на палітычных мапах, але ня існуе ў сэрцах яе грамадзянаў. Хаця, можа, і існуе. Таму што пра яе думаю, таму што дбаю. Яна нават час ад часу падаецца мне асобнай цывілізацыяй - са сваёй адметнасцю і са сваім уласным характарам. Асабліва здалёку, калі слухаю З.Бартосіка ці Лізу Лямбовіч, распяваяючую мне свае баляды голасам нявыспаўшагася анёла. А потым прыяжджаю на радзіму і … глядзіце пачатак артыкула.

Так, "мая" Беларусь непадобна на сапраўдную. Як, спадзяюся, і Беларусь кожнага з вас. Спадзяюся таму, што мары - стваральныя.

Васіль Еўдакімаў-Валенцік, Лёндан, Англія

# Сякера пад лаўкай

Генадзь БУРАЎКІН

Нядаўна я быў на міжнародным Шаўчэнкаўскім святе ў Львоўскай вобласці Украіны. Як у час кожнай такой урачыстасці, былі там шматлюдныя мітынгі на гарадскіх плошчах, паездкі ў аддаленыя мястэчкі і сёлы, звонкагалосыя канцэрты і шчырыя гутаркі з калегамі ў сцішаныя цёплыя вечары. Мы праязджалі праспектамі і вуліцамі Шаўчэнкі, з высокіх п'едэсталаў на нас усюды пазіраў ці звыклы, ссутулены, ці малады, стройны Кабзар, і ва ўсіх прамовах, ва ўсіх песнях гучала ягонае бессмяротнае слова. Было нават часам такое адчуванне, што вялікі Тарас відавочна жыве ў кожным украінцы і горача і ўсхвалявана адгукаецца на кожную надзённую падзею ў жыцці сённяшняй Украіны. На яго спасылаліся палітыкі, ягонымі радкамі блаславілялі на сямейнае шчасце маладых, ягоныя вершы, як малітву, паўтаралі ў школах і храмах. Ажно з'яўлялася калі-нікалі крамольная думка пра своеасаблівы культ, калі паклоны перад партрэтам суровага, вусатага паэта-прарока робяцца афіцыйным рытуалам, а ягонае слаўтуае імя механічна "прышпільваецца" да любой справы і фразы.

Але чым больш мы ездзілі па Львоўшчыне, чым больш услухоўваліся ў будзённыя размовы людзей, тым больш расло ў душы перакананне, што шаўчэнкаўскія азарэнні і запаветы сапраўды так глыбока ўвайшлі ў свядомасць ягоных духоўных нашчадкаў, цэлага народа, што пастаянны зварот да ягонай спадчыны, аглядка на ягоны жыццёвы і творчы вопыт сталі настолькі неабходнымі і натуральнымі, як гэта бывае ў адносінах сыноў і дачок да свайго мудрага і любімага бацькі. Выдатны ўкраінскі паэт, бліскучы перакладчык беларускай паэзіі Раман Лубкіўскі так аднойчы і сказаў: "Шаўчэнка -- бацька ўсіх украінцаў, ён -- наша нацыянальная ідэя".

Вось тады каля старажытных львоўскіх муроў я і прыгадаў нашы пакутлівыя і не надта плённыя пошукі сваёй нацыянальнай ідэі -- глыбакадумныя навуковыя артыкулы, запальчывыя выступленні палітыкаў, шматлікія канферэнцыі і нарады. Прыпомніў, як з самых салідных трыбун гучалі заклікі сфармуляваць нарэшце прынцыпы і лозунгі, што згуртавалі б усіх беларусаў у памкненні да шчасця, як прапаноўвалася нейкая неверагодная мешанка з кансерватызму, лібералізму і камунізму -- і як у адказ на мітуслівыя чыноўныя высілкі зацята маўчалі і мае полацкія землякі, і гомельскія ды брэсцкія палешукі, і разважлівыя дзядзькі і цёткі з Гродзеншчыны і Міншчыны. Не было ў шматслоўных праектах навукоўцаў і палітыкаў таго, што глыбока кранула б збалелыя душы і дабавіла б сілы працавітым рукам. Значыць, выратавальную нацыянальную ідэю іх аўтары шукалі не там і не тую, нягледзячы на свае высакародныя намеры і высокія службовыя пасады...

Дык, можа, і нам, як братам-украінцам, трэба не кідацца да сівых філосафаў і сацыёлагаў, не спадзявацца на затурканых урадоўцаў і замежных кансультантаў, а проста даверыцца свайму Песняру і Прароку -- Янку Купалу? Хіба ў ягоных вершах і артыкулах (асабліва тых, што вынашаны ў сэрцы і пакладзены на паперу ў віхурныя дваццатыя гады мінулага стагоддзя) не асэнсавана горкая і складаная гісторыя Беларусі, не пачутыя і не ўзнятыя да вышынь споведзі крыўды і надзеі беларусаў? Хіба ім не сфармуляваны галоўныя мэты і асновы нацыянальнага адраджэння -- годнасць, незалежнасць, праца?..

Бяда наша, думаецца, між іншым і ў тым, што спадчына вялікага Купалы да гэтага часу па-сапраўднаму так і не данесена да розуму і душы народа, усё яшчэ схавана за аджылымі ідэалагічнымі догмамі, не ачышчаная ад хлуслівых "каментароў" Лукаша Бэндэ і сучасных ягоных няўрымслівых паслядоўнікаў. Вось і атрымліваецца, што "крык, што жыве Беларусь", пачуты далёка не ўсімі і заблукаў недзе ў халодных сутарэннях індустрыялізацыі і калектывізацыі. Ды і чаго здзіўляцца, калі мова, на якой думаў, складаў вершы і гаварыў з цэлым светам наш нацыянальны Геній, і сёння ніяк не стане паўнаўладнай гаспадыняй у сваёй хаце, а ягоная мілая старонка ніяк не зойме "свой пачэсны пасад між народамі"?.. Таму, напэўна, і шукаюць нашы заклапочаныя кіраўнікі і прадстаўнікі нацыянальную ідэю ў замежных старадаўніх фаліянтах ці чужых дзяржаўных пастановах, забываючыся ці робячы выгляд, нібы не разумеюць, што вызначальным і галоўным у моднай фармулёўцы з'яўляюцца словы "нацыянальная", а гэта значыць -- беларуская, самастойная, непаўторная...

Радасцю для мяне на Львоўшчыне было не толькі тое, што так часта і хораша на ўсіх узроўнях і ва ўсіх аўдыторыях цытавалі Вялікага Кабзара, а найбольш тое, што рабілася гэта не па паперцы, не фармальна, а вельмі дарэчы і заўсёды асэнсавана. Відаць было, што дух і слова Шаўчэнкі прыходзілі да ўсіх з сям'і і школы, з асабістага адчування прыналежнасці да магутнага і пявучага народа, з усвядомленага гонару за сваю Бацькаўшчыну і яе любімага паэта... Каб жа і ў нас было такое!..

Не ведаю, чаму мы, беларусы (ва ўсялякім разе многія з нас, а асабліва тыя, хто з нашай згоды занялі ў дзяржаве камандныя вышыні), залішне часта азіраемся на чужы вопыт і чужыя аўтарытэты, шукаем "сякеру" недзе далёка. А яна ж ляжыць поруч, як кажуць, пад лаўкай -- бяры яе і будуй свой Дом, як гэта робяць блізкія суседзі. І ўспамінай пры гэтым прарочыя Купалавы словы. Хаця б вось гэтыя:

*Пара у рукі браць паходні,*
*Ўставаць, ісці ноч рассвятляць!*
*Бо што не возьмеце сягоння,*
*Таго і заўтра вам не ўзяць!..*

("Белорусские новости".)

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Беларусы свету збіраюцца так рэдка, што неабходна адзначаць кожную сустрэчу

**Вікторыя ЦЕЛЯШУК**

Як вы лічыце, беларусы — нацыя вялікая ці малая? У параўнанні з кітайцамі, напэўна, дробная. А сама па сабе — вельмі нават значная — 10 мільёнаў чалавек усё-такі. Ды яшчэ, між іншым, амаль чвэрць гэтай колькасці, 3,5 мільёна беларусаў, жыве па-за межамі рэспублікі. І адзіным (але не слабым) звяном іх сувязі выступае створанае ў 1990 годзе Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», якое аб'ядноўвае 135 разнастайных арганізацый з 28 краін.

Першы раз «тутэйшыя» і «замежныя» сабраліся на З'езд беларусаў свету 8—10 ліпеня 1993 года ў Мінску. (Наша газета, дарэчы, прысвяціла тады гэтай падзеі спецыяльны каляровы нумар.) Сёлета ж ЗБС «Бацькаўшчына» збіраецца адзначыць дзесяцігоддзе Першага з'езда: для падрыхтоўкі створана адпаведная рабочая група на чале з прадстаўніком знакамітага роду, акадэмікам Радзімам Гарэцкім. Зразумела, на ўгодкі запрошаны прадстаўнікі беларускай дыяспары. Мяркуецца, што святкаванне адбудзецца 6 ліпеня гэтага года і будзе складацца з адкрыцця мемарыяльнай дошкі, прысвечанай дзеячам Інбелкульта (зараз у гэтым будынку на Рэвалюцыйнай, 15 і размяшчаецца офіс ЗБС «Бацькаўшчына», а таксама Нацыянальны асветны цэнтр імя Ф.Скарыны), урачыстага пасяджэння і канцэрта. Жадаючыя, як абяцаюць арганізатары, змогуць паехаць на Купалле і сумясціць сучасныя беларускія традыцыі з самымі што ні ёсць старажытнымі.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Урад Польшчы прыняў рашэнне адкласці ўвядзенне віз для грамадзян Беларусі, Расіі і Украіны да 1 кастрычніка 2003 года

Аб гэтым беларускаму МЗС паведаміла Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы.

Як сказаў карэспандэнту БЕЛТА прэс-сакратар знешнепалітычнага ведамства нашай краіны Андрэй Савіных, МЗС Беларусі цяпер чакае афіцыйную ноту МЗС Польшчы з паведамленнем аб пераносе ўвядзення візавага рэжыму.

Нагадаем: першапачаткова планавалася, што візавы рэжым для грамадзян названых краін будзе ўведзены з 1 ліпеня гэтага года. Такімі мерамі Польшча, якая ў маі 2004 года ўвойдзе ў склад Еўрапейскага саюза, спрабуе ўзмацніць бяспеку сваіх усходніх граніц.

Згодна з дзеючым цяпер у Польшчы заканадаўствам, грамадзяне Беларусі, Расіі і Украіны могуць у бязвізавым рэжыме знаходзіцца на польскай тэрыторыі да трох месяцаў. У 2002 годзе Польшчу з рознымі мэтамі наведалі 12 мільёнаў жыхароў гэтых трох краін.



Кастусь Харашэвіч

# УСПАМІНЫ

## ВАЙНА 1941–1945 гг. АКУПАЦЫЯ

(Заканчэньне.

З горада Маладэчна было каля 30 чалавек. Адміністрацыя школы, дзе ўсталяваўся настаўніцкі пакой і некалькі класаў, размяшчалася ў прыватным доме на плошчы па вуліцы Вілейскай. Але хадзілі на ўрокі і ў іншыя, свабодныя памяшканні па групах.

Памятаю, напрыклад, драўляны клуб са сцэнай і глядзельнай залай, які стаяў на тым месцы, дзе сёння знаходзіцца будынак кінатэатра "Спадарожнік". Вывучалі мы ўсе прадметы сярэдняй школы, а таксама гандаль, тавазнаўства, а на старэйшых курсах – права. Па гэтай дысцыпліне выкладаў рускі па нацыянальнасці загадчык судовай справы нехта Няхлюдаў. Урокі даваў прама ў судовай зале, якая знаходзілася ў цагляным будынку недалёка ад плошчы па вул. Віленскай. Ён удзельнік Кранштацкага паўстання супраць бальшавікоў. Яго, відаць, доўга шукалі да рэабілітацыі, бо нават у 1956 г., калі я вучыўся ў Мінскім настаўніцкім вучылішчы, мяне аднойчы выклікалі да следчага КДБ і пыталіся, можа я хоць што-небудзь ведаю пра Няхлюдава, які быццам бы хаваецца ў Польшчы. З Польшчы мы атрымоўвалі пісьмы. Але я нічога не ведаў пра далейшы лёс былога суддзі, на чым допыт мяне і скончыўся.

Выкладчыкамі ў школу Барыс Уладзіміравіч запрашаў прафесіяналаў, якія добра ведалі свае прадметы. Намеснікам дырэктара стаў віленскі юрыст Дзмітрыеў, выкладаў гандаль, дасканала валодаў ангельскай і нямецкай мовамі. Беларускую літаратуру выкладаў Янка Давідовіч, інтэлігентны, добра выхаваны чалавек. Мы ўсе былі ў яго закаханы. Размаўляў на крыштальна чыстай літаратурнай мове, быў асабіста знаёмы з М. Танкам. Янка Давідовіч – радня Лідзіі Цімафееўны, жонкі Міколы Ермаловіча, якая таксама паходзіла з Пастаўшчыны.

Гісторыю выкладаў дацэнт Мінскага універсітэта Макарэвіч. У першыя дні, калі бамбілі Мінск, загінула ягоная жонка, і ён з малой дачкой перабраўся ў Маладэчна. Працаваў Шчасны з Навагрудчыны, які скончыў Вышэйшую гандлёвую школу ў Варшаве. Беларускую мову выкладала Вольга Пагуда – маладая светлавалосая дзяўчына. Яе нарачоны – афіцэр Беларускай Краёвай абароны – ў 1944 г. быў застрэлены ў Лідзе польскімі падпольшчыкамі. Нямецкую мову выкладаў Георгі Вяршыцкі і старая ўжо жанчына Шырма, відаць, з дарэвалюцыйнай арыстакратыі. Вось толькі з дысцыплінай на яе ўроках было неважнецка. Матэматыку і фізіку вёў сам Барыс Уладзіміравіч і некалькі яго намеснікаў, калі даводзілася дырэктару займацца арганізатарскімі справамі. Настаўнікі працавалі самаахвярна. Жылі напаўгаладна, як і ўсе вучні, асабліва прыезджыя.




*Настаўнікі Гарадзілаўскай школы. Канец 40-х гадоў.*

Па рашэнню бацькоўскага камітэта была ўстаноўлена плата за навуку: з кожнага вучня 1 пуд мукі і 1 кг сала ў год. Пры школе існаваў гурток мастацкай самадзейнасці, літаратурны гурток, які ўваходзіў у літаратурнае аб'яднанне. Гэтым аб'яднаннем кіраваў школьны інспектар Магер, жыхар з Маладэчна. Я ахвотна наведваў літаратурны гурток, чытаў там свае вершы. З восені 1943 года стварыўся музычны гурток, кіраўніком якога быў Камароўскі, савецкі ваеннапалонны, якога Барысу Кіту ўдалося выцягнуць з лагера. Камароўскі скончыў Кіеўскую кансерваторыю. Добра валодаў скрыпкай і даваў канцэрты класічнай музыкі пад акампанемент сваіх вучняў. Памятаю выступленні музычнага гуртка; да якога і я належыў, граючы на балалайцы, для жыхароў горада. Бывалі на нашых канцэртах і нямецкія афіцэры з камісарыята. Але ў нашым рэпертуары значылася і беларуская народная музыка, а гуртку харэаграфічныя і танцавальныя, у якіх удзельнічаў і наш дырэктар, грунтаваліся пераважна на беларускай нацыянальнай тэматыцы.

У Гандлёвай школе мы атрымоўвалі даволі грунтоўныя веды па спецыяльных прадметах. Але вялікае значэнне для нашага грамадзянскага ўсведамлення мелі ўрокі беларускай гісторыі і літаратуры, дзе пазнавалі тое, аб чым ні ў польскіх, ні ў савецкіх школах мы не чулі. Даведаліся пра Кірылу Тураўскага, Францішку Скарыну, Сімяона Полацкага, Льва Сапегу, пра Вялікае Княства Літоўскае, пра паўстанні на Беларусі, Кастуся Каліноўскага і пра многіх беларускіх паэтаў і пісьменнікаў канца XIX – пачатку XX стагоддзя. Гэта садзейнічала развіццю і пашырэнню нацыянальнай свядомасці і духоўнаму адраджэнню. Мы спявалі "Пагоню", "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" і іншыя песні.

На ўсё жыццё засталася добрая памяць аб тагачасных рупліўцах асветніцкай справы, якія, рызыкуючы часам сваім жыццём, далучалі нас да вытокаў гісторыі і культуры Беларусі, яе звычаяў і традыцый.

Нялёгкім было і вучнёўскае жыццё ў тыя гады. Даводзілася цярпець і холад, і голад. Не было ні інтэрнатаў, ні сталовых, ні прадуктовых магазінаў. На прыватных кватэрах, у якіх мы жылі на 2-3 асобы, гаспадары самі перабіваліся сяк-так. У суботу пасля заняткаў мы дабіраліся як хто мог у вёску да сваіх бацькоў за прадуктамі. Ладаваліся печаным хлебам, крупой, салам, цыбуляй і ў нядзелю вярталіся ў Маладэчна. У паход сабіраліся гуртом. Разам з маркаўцамі, лебядзеўцамі ішлі да Насілава. За мастом разыходзіліся па сваіх напрамках. Нам з Гарадзілаўскага і Палачанскага сельсавета належыла прайсці каля 20 км. Гэта цераз Вялікае Сяло, Сакі, Кабылкі, Яхімоўшчыну, Быкі, Журэвічы, Гарадзілава і яшчэ далей. Усяго з нашай мясцовасці было больш дзесяці хлопцаў і дзве дзяўчыны. Я заўсёды ўспамінаў аповесць Гогаля "Вій", калі бурсакі такім чынам адыходзілі на вакацыі.

Позняй восенню і зімой па чарзе прыязджалі фурманкай з дому. Завозілі муку, бульбу, агародніну. Тады гаспадыня ладзіла нам ежу, за што ёй плацілі натурай. Праблема была і з вопраткай. Хадзілі часам у латаных зіпунах і парваных чаравіках. На другі год, калі мы крыху асвоіліся, спрабавалі пад'язджаць дадому цягніком. Называўся ён Дзінсцуг (Дзённы цягнік). Некалькі вагонаў раніцою адыходзілі ў напрамку Літвы. Вяртаўся вечарам. Карысталіся гэтым цягніком намецкія вайскоўцы, паліцыянты ў форме і розныя службоўцы з пасведчаннямі. Без адпаведных дакументаў, пропуска, на станцыю чыгункі зайсці было нельга. Але часам пад добры настрой камендант нашага горада даваў нам такі дазвол, прагледзеўшы ўважліва нашы вучнёўскія пасведчанні. Тады мы даязджалі аж да Палачан, адкуль да дому было 6 км, а то, папрасіўшы заўчасна машыніста, каб сцішыў ход насупраць нашай вёскі, саскоквалі на адхон чыгункі. Сітуацыя ў нашай мясцовасці пачала мяняцца дзесьці з вясны 1943 г., калі немцы пацярпелі некалькі значных параз на Усходнім фронце, а на Беларусі ўсё больш і больш пашыраўся рух. Само Маладэчна і раён не ўваходзіў у партызанскую зону. У горадзе стаяў даволі моцны вайсковы гарнізон. Вузлавую станцыю немцы ахоўвалі вельмі пільна, як і чыгунку, на якой амаль безупынна рухаліся на ўсход ваенныя эшалоны. На платформах даводзілася бачыць ужо больш магутныя танкі, аўтамашыны, а часам і самалёты. У зваротным кірунку – эшалоны з металаломам і санітарнымі вагонамі. Станавіўся больш строгім акупацыйны рэжым. Часам здараліся аблавы на грамадскім рынку у пошуках партызан. Памятаю, як ужо восенню і зімою 1943 г. у бок вёскі Самалі выйшаў карны атрад. Гэта на аперацыю супраць партызан. А назад вярталіся з забітымі жаўнерамі або партызанамі. Сваіх жаўнераў немцы хавалі ўнутры агароджы царквы роўнымі радочкамі. Перад адступленнем усіх іх забралі. Даходзілі чуткі аб спаленні немцамі цэлых вёсак разам з людзьмі ў партызанскіх зонах. У раёне Налібоцкай пушчы такім чынам у драўлянай царкве былі спалены амаль усе жыхары вёскі Доры. З адной жанчынай, якая цудам выратавалася, мне давялося пазней сустрэцца ў Вільні. Гасцей сталі мініраваць і чыгунку Маладэчна-Ліда, асабліва ў лясістай мясцовасці за Багданавым. Часам нават і цягніком нельга было ўжо праехаць.

Летнія канікулы я заўсёды праводзіў у сваёй вёсцы Гарадзілава. Не гледзячы на вайну, гэта былі лепшыя дні ў тагачасным жыцці. І паесці можна было, і на рэчку схадзіць, а на свабодным гарышчы пакорпацца ў кніжках. З'явіліся ўласаўцы. У іх была адметная форма, а на шэўроне рукава на фоне трохкаляровага сцяга, які зараз стаў у Расеі Дзяржаўным, значаліся літары РОА (русская освободительная армия). Яны займалі пасты на чыгунцы, дзеля яе аховы, замест тых вайскоўцаў, якіх адпраўлялі на фронт. Уласаўцаў на Усходнім фронце не было. Відаць, Гітлер цалкам ім не давяраў. Заходзілі ў нашы хаты, часам разам з былымі ваеннапалоннымі, мо сустрэўшы сваіх землякоў, якіх вайна кінула па розныя бакі барыкад. Пілі гарэлку. Калі нашы пыталіся ў іх, чаму пайшлі служыць немцам, розныя былі адказы. І ўсё ж многа было іх з ліку рэпрэсіраваных сем'яў, так як і паліцыянтаў. З нашай вёскі Гарадзілава і Журэвіч, ніхто ў паліцыі не служыў. А вось з в. Белая, што побач, у паліцыю з першых дзён акупацыі пайшоў Грыб Сяргей, бацька якога меў млын і павінен быў вывезены. Але не паспелі. Сяргей 19-гадовым хлопцам загінуў ад партызанскай кулі, а малодшы Васіль вучыўся разам са мной у Гандлёвай школе.

Вельмі моцна ў памяці засела адна летняя ноч 1943 г. Гэта калі была аб'яўлена рэйкавая вайна перад савецкім наступленнем на Паўднёвым фронце. Як вядома, партызанам была пастаўлена задача максімальна паралізаваць рух на чыгунцы. Усе злучэнні рынуліся на рэйкі. Дайшлі партызаны і да нашай чыгункі. Калі крыху прыцямнела, пачалася страляніна і выбухі на ёй. Я выйшаў на ганак і пачаў прыслухоўвацца. Выбухі працягваліся аж да світанку. Гэта партызаны з Валожыншчыны вялікім абозам пад'ехалі да яе і толавымі шашкамі пачалі ўзрываць рэйку за рэйкай на адрэзку каля двух кіламетраў. Падышлі да чыгуначнага маста паміж нашай вёскай і Літвой. Хацелі і яго ўзарваць. Але там былі кулямётныя гнёзды. Калі немцы пахаваліся ў сваіх бункерах, уласаўцы засталіся і не дапусцілі партызан да маста. Потым хваліліся, якія яны смелыя. Усю ноч я праседзіў на ганку, слухаючы гэты небывалы "канцэрт". Неба паласавалася вогненнымі кулямі аж над нашай страхой. Але хата стаяла ў лагчыне, а бой адбываўся за прыгоркам. Назаўтра пайшлі глядзець. Рэйкі валяліся, вырваныя часам з кастылямі. Забітых відаць не было, але рамантаваць чыгунку давялося немцам цэлы дзень. Сагналі вяскоўцаў на падсобку, а з Маладэчна падышоў адмысловы цягнік з цэлымі рэйкамі і чыгуначнікамі. Ужо да вечара рух быў установлены. Але пасля гэтага акупанты станавіліся яшчэ больш злымі і таму небяспечнымі. А калі партызаны сталі мініраваць і масткі на грунтавых дарогах, прыдумалі іх баранаванне. Па чарзе ад вёскі з раніцы павінны былі нашы людзі з бараною на доўгіх лейцах прайсці свой участак. На шчасце, абышлося без ахвяр. Занепакоіліся і савецкія былыя ваеннапалонныя. Іх настойліва звалі ў лес.Выбара не было. Пайшоў у той час і брат маёй маці Янка Саўлавец, які потым партызаніў на Ашмяншчыне. У гэтым сэнсе была пэўная рызыка. Знікненне з вёскі савецкіх грамадзян, лагернікаў заставалася без увагі. А калі ішлі ў партызаны мясцовыя хлопцы, такая сям'я лічылася партызанскай. Маглі быць непрыемнасці. У Янкі Саўлаўца былі знаёмыя паліцыянты ў Палачанах. Зрабілі так, што ён быццам бы загінуў, працуючы кандуктарам, а яго дакументы, знойдзеныя быццам бы ля чыгункі, паліцыянты аддалі ў камендатуру. Таму да сям'і не чапляліся. А яна была немалая. Заставаліся, акрамя бацькі і маткі, трое братоў і сястра. Рваўся ў лес і былы камсамолец Лявон Саўлавец, які вучыўся разам са мной у Гандлёвай школе. Але яго не пусцілі. Больш з нашай мясцовасці, акрамя аднаго хлопца з вёскі Замосце, у партызанах я не памятаю. Гэта быў той юнак, які пасля вайны забіў на глебе кахання дзяўчыну і самога сябе. Канчалася трывожнае лета 1943 г. Надышла пара збірацца на вучобу. Мяне цягнула ў нашу Маладзечанскую школу. Як ні ў якой другой, ні да яе, ні пасля, я не адчуваў сябе так добра. Нягледзячы на нягоды ваеннага ліхалецця, атмасфера як у вучнёўскім, так і ў настаўніцкім калектыве была добразычлівая. У пераважнай большасці мы былі ахоплены нейкай адной ідэяй. Садзейнічаў гэтаму і педкалектыў на чале з Барысам Кітом, і дух беларушчыны, усталяваны з першых дзён існавання гэтай школы. Гандлёва-адміністрацыйная шыльда гэтай навучальнай установы была для кіраўніцтва школы толькі прыкрыццём для пашырэння цераз гуманітарныя дысцыпліны адраджэнскіх настрояў. У той час даваліся добрыя грунтоўныя веды і па астатніх прадметах за сярэднюю школу. Барыс Кіт быў сапраўдным патрыётам і чалавекам справы. Арганізаваў школу, каб мы не засталіся ў такі цяжкі час неадукаванымі, пазбаўленымі інтэлектуальнага развіцця, без веры ў высокую мараль. Часта даводзілася нашаму дырэктару ратаваць юнакоў і дзяўчат ад нямецкіх акопаў і прымусовага ўгону ў Германію. Ён залічваў у школу звыш усялякіх нормаў, за што аднойчы апынуўся на мяжы арышту. Не было на ўроках і цеазмернай палітызаванай прапаганды. Ніякіх усхваленняў Гітлера і яго арміі я не памятаю. Не чуў крытыкі Сталіна і маскоўскага камуністычнага кіраўніцтва. Усе мы ў душы разумелі, што немцы павінны быць выгнаны з нашай зямлі. Таму прыкра станавілася, калі даходзілі чуткі аб спаленні партызанамі ў асобных месцах тагачасных школ і нават забойства іх настаўнікаў.

22 чэрвеня 1943 г. прайшоў у Мінску ўстаноўчы сход Саюза Беларускай Моладзі (СБМ). На сходзе, які адбываўся ў памяшканні гарадскога тэатра, прысутнічаў Генеральны камісар Вільгельм Кубэ. Вядома, што без згоды акупацыйнай нямецкай улады ніякая арганізацыя ў той час на Беларусі не магла існаваць. Вядома сёння і тое, што савецкае кіраўніцтва варожа паставілася да ўтварэння гэтай арганізацыі ўжо з першых дзён яе існавання. І тым не менш СБМ карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод тагачаснай беларускай моладзі. За кароткі перыяд у яго шэрагі ўліліся некалькі дзесяткаў тысяч юнакоў і дзяўчат. Аб гэтым больш дакладна сказана ў кніжцы Юрыя Туронка "Беларусь пад нямецкай акупацыяй".

Стварыўся СБМ і ў нашай школе. Уступалі амаль усімі класамі. Належыў і я да гэтай арганізацыі. З'явілася адпаведная форма, і бацькі далі грошы выкупіць яе. Каштавала яна нядорага. Затое – форма: шэра-зялёны гарнітур з пагонамі пад рамень, споднi з чаравікамі і адмысловая шапка дазваляла пазбавіцца ад абрыдлых рызманоў. З гонарам мы насілі на рукаве бел-чырвона-белую павязку, а на шапцы – адмысловы ромбавідны знак СБМ. Праводзілі розныя сходы, ладзілі маршыроўку на плошчы, спявалі патрыятычныя песні. Нават у думках не было, што давядзецца калісьці за гэта несці пэўную адказнасць. Памятаю, як да нас з Вілейкі пехатою прыйшоў атрад СБМ з семінарыі. Узрушаная сустрэча, палымяная гаворка пра Айчыну, пра барацьбу за яе свабоду, за беларушчыну. Напэўна, гэта папулярнасць тлумачылася яшчэ і тым, што ні

пры польскім, ні затым пры савецкім панаванні аб такой арганізацыі, яўна нацыянальна-патрыятычнай, і марыць не даводзілася.

У Маладэчне ў час вайны існаваў і адзін кінатэатр. Ён быў у драўляным будынку на месцы сённяшняга кінатэатра "Радзіма". Аднаго разу давялося пабыць у ім. Дэманстраваўся больш дакументальны, чымсь мастацкі фільм пад назвай "Я быў нявольнікам Сталіна". Гэта пра лёс Францішка Аляхновіча і яго пакуты ў СССР. Менавіта яго Сталін абмяняў з палякамі на Браніслава Тарашкевіча, відаць, з мэтай знішчыць і гэтага значнага беларускага дзеяча. А перад фільмам у кіначасопісе былі паказаны фрагменты з Катынскіма лесам на Смаленшчыне і каментарамі да яго, што тут у 1940 г. бальшавікі расстралялі каля 15 тысяч польскіх афіцэраў.

Але ў той час мы гэтаму не верылі і лічылі, што мелі справу са звычайнай нямецкай прапагандай. Варта адзначыць, што яна ўзрастала па меры таго, як фронт набліжаўся да Беларусі. Узрастала і напружанасць у самім горадзе. Па дарогах стаялі ўзмоцненыя патрулі палявой жандармерыі. Барыс Уладзіміравіч прасіў нас без справы не валэндацца па вуліцы, быць больш асцярожнымі. І хаця форма пазбаўляла часам ад празмерных праверак дакументаў, небяспека магла прыйсці з іншага боку. Ад камуністычнага падполля, якое ў пэўнай ступені існавала і ў Маладэчанскім раёне. З асобнымі яго актывістамі мне давялося пасля вайны сустракацца і размаўляць. Ім была дадзена ўстаноўка: супрацьдзейнічаць пашырэнню СБМ, пранікаць у яе рады, весці падрыўную работу. Саюз Беларускай Моладзі існаваў не толькі ў навучальных установах. Але я не памятаю, каб мы заўважалі якую-небудзь актыўнасць падпольнага камсамола ў нашай школе. Як пазней высветлілася, былі асобныя вучні, заданнем якіх было назіраць за намі, хто як сябе паводзіць у СБМ. Адным з такіх быў Стоічэў, бацькі з усходу не паспелі эвакуавацца. Ён збіраў пэўныя звесткі пра нас. Пасля вайны працаваў у Маладэчне настаўнікам фізкультуры. Затым кудысьці з'ехаў.

Зіма 1944 г. была яшчэ больш трывожнай, асабліва пасля таго, як быў забіты Вільгельм Кубэ. Пацярпелі ад помсты за яго многія ні ў чым нявінныя грамадзяне. Частыя дыверсіі партызан на чыгунцы былі пагрозай і для вёсак нашага Гарадзілаўскага сельсавета. Памятаю, як адной зімовай ноччу, калі я быў дома на калядных канікулах, зусім блізка раздаўся страшэнны выбух. А неўзабаве моцны грукат у дзверы і нямецкая гаворка на ганку. Уварваўшыся ў хату з крыкам: "Партызаны!", бандыты пачалі правяраць дакументы і заглядваць у кожны куток. Пільна прагледзілі і маё школьнае пасведчанне. Усе дапытваліся, чаму я не ў Маладэчне. Валодаючы сярэдне нямецкай мовай у той час, я растлумачыў, што ў нас канікулы. Адчапіліся. Назаўтра высветлілася. Непадалёку ад нашай вёскі партызаны падарвалі санітарны цягнік, які з раненымі рухаўся на захад. Відаць, былі забітыя. Нікога з вяскоўцаў на рамонт не пагналі. Рамантавалі самі. Але затое сталі жорстка патруляваць па вёсках, нават днём. Калі ішлі ў партызаны былыя ваеннапалонныя, яны абяцалі, што пастараюцца ля нашых вёсак не праводзіць дыверсіі, каб не падвяргаць небяспецы жыхароў, у тым ліку і тых, у якіх яны жылі. Усе ведалі, што немцы маглі спаліць часам усю вёску за аднаго або некалькі забітых сваіх жаўнераў, як гэта здарылася з Хатынню. Чулі мы па начах у тую зіму, як высока ў небе ляцелі на захад савецкія начныя бамбардыроўшчыкі, а пад вясну – характэрны рокат кукурузнікаў над балотам у раёне вёскі Хоўхлава. Там на парашутах скідалі для партызан груз, а часам і дэсантнікаў. Малалзечна савецкая авіяцыя не бамбіла. Акрамя вузлавой станцыі, у нашым горадзе нічога асаблівага ў ваенным значэнні і не было. А вузлавая станцыя была патрэбна і для наступаючай арміі з усходу. Па начах пачаў даносіцца далёкі гул артылерыйскай кананады. Адміністрацыя нашай школы, усведамляючы, што паўнавартасных экзаменаў у канцы вучэбнага года, магчыма, правесці не ўдасца, пачала заўчасна рыхтаваць нам пасведчанні з адзнакамі, якія вызначаліся на ўроках. У канцы красавіка я захварэў і мяне забралі дадому ў Гарадзілава. Пасведчанне за 3 курсы Маладэчанскай сярэдняй гандлёва-адміністрацыйнай школы ў выглядзе кніжачкі на беларускай і нямецкай мовах мне потым прывезлі хлопцы, якія вучыліся са мною. Ад іх я даведаўся, што некаторыя настаўнікі і сам Барыс Кіт збіраюцца ў эміграцыю. Яны нічога нікому з вучняў не раілі. Але асобныя навучэнцы нашай школы старэйшага ўзросту таксама выехалі на захад. Разышліся потым па ўсім свеце. З аднакурснікам Алесем Готкавічам, родам з Палачан, я ў 1991 г. сустрэўся ў Маладэчне. Ён, калі гэта стала магчыма, прыехаў з Англіі. Там пасля вучобы прыдбаў сям'ю і працаваў дырэктарам. Пісаў яшчэ фельетоны ў часопісы, асобныя з іх, у перакладзе на беларускую мову, чытаў і мне. Жылі нашы гандлёўцы ў Польшчы, ЗША, Канадзе, Аўстраліі. Барыс Уладзіміравіч апынуўся спярша ў Аўстрыі, затым у Германіі, потым перабраўся з сям'ёю ў ЗША, дзе і дасягнуў вяршынь навукі ў галіне астранаўтыкі.

Георгій Вяршыцкі апынуўся ў Польшчы.

Янка Давідовіч – у Беларусі. Пазбегнуў рэпрэсій пасля вайны толькі таму, што меў пэўную сувязь з партызанамі.

Пра лёс астатніх выкладчыкаў я дакладна не ведаю.

У мяне пытанне эміграцыі не стаяла. Я нават не ўяўляў сабе, каб пакінуць краіну, сваіх бацькоў, вёску, любыя сэрцу краявіды. Зноў разглядаў сваю бібліятэку і сшыткі з вершамі. Ніякіх планаў на будучыню не было. Чаканне, што будзе далей, валодала ўсімі намі ў тыя трывожныя дні. Але я заўважаў, што чакаючы прыходу савецкіх войскаў, нашы вяскоўцы ўжо не былі такія радасныя, як у вераснёўскі дні 1939 г. Тады чакалі ўсталявання савецкай улады, якую лічылі сваёй, народнай, не ў прыклад панскай Польшчы. Спадзяваліся валодаць зямлёю, хто колькі зможа. Вучыць дзяцей на сваёй роднай беларускай мове. Кіраваць дзяржавай, думалі, будуць людзі, сапраўдныя камуністы і патрыёты свайго народа. Але за два даваенныя месяцы савецкі таталітарны рэжым на тэрыторыі Заходняй Беларусі паспеў у пэўнай ступені праявіць сваю сутнасць. Мы не разумелі, чаму ў турмы пападалі часам зусім не вінаватыя людзі. Чаму большасць кіруючых раённых пасад і гандаль апынуўся ў руках яўрэяў. Ад бежанцаў са Смаленшчыны, Вялікіх Лук, Пскоўшчыны і Віцебшчыны, якія ратаваліся ад голаду і разрухі ў нашай мясцовасці пад час акупацыі, мы даведаліся больш пра Калыму, Салаўкі і расстрэлы. А галоўнае – што ніякага заможнага жыцця ніколі не было, аб чым распавядала савецкая прапаганда, пелася ў песнях, глядзелася ў кінафільмах.

Многія прыхільнікі савецкай улады ў даваенны перыяд зараз пачыналі цверазець, у тым ліку і мой бацька. Чакалі ўжо проста хутчэйшага канца гэтага неакрэсленага становішча і абрыдлай каменданцкай гадзіны. Немцы для нас заўсёды былі чужымі, як і іх гаворка. Чакалі перамогі над імі, паколькі без гэтага немагчымы быў канец вайны, гібелі на фронце людзей, у тым ліку і нашых суайчыннікаў, якія дзесьці ваявалі. На зямлі падчас акупацыі там, дзе не было ваенных дзеянняў, спакойна працавалі і збіралі нядрэнныя ўраджаі. Забяспечвалі прадуктамі харчавання і сябе, і гараджан, і няшчасных бежанцаў. Многа мяшочнікаў пабывала ў нас з Усходняй Беларусі. Давалі ім муку, крупу, зярно. Калі стала магчымасць пашыраць свае зямельныя надзелы з ліку панскіх фальваркаў, значна павялічылася пагалоўе дамавой жывёліны. Галоўнае – ніхто не заганяў у калгасы, цану жыцця ў якіх нашы людзі ўжо ведалі.

І ўсё ж на вёсцы чакалі перамен. Тым больш, што хадзілі чуткі, быццам бы пасля Перамогі многае, што было ў СССР, зменіцца. Што, быццам бы, Жукаў абяцаў салдатам нейкія рэформы.

А ў гарадах і мястэчках жахарам таксама абрыдла нястача прадуктаў, адсутнасць магазінаў і сферы абслугоўвання. А грамадзяне, якія са зброяй у руках выступілі на баку нямецкіх акупантаў, невельмі чакалі савецкую армію. Яны пачалі знікаць, ад'язджаць на Захад або пакідаць мясцовасць, дзе іх ведалі.

Пад канец вайны ў няпростым становішчы апынулася беларуская нацыянальная інтэлігенцыя. Варта адзначыць, што інтэлектуальная праслойка ў грамадстве на акупаванай тэрыторыі аказалася даволі значнай, асабліва ў цэнтральных і заходніх абласцях краіны. Гэтаму садзейнічала тая акалічнасць, што да 1939 г. яна не падвяргалася рэпрэсіям, у той час, як ва Усходняй была амаль цалкам знішчана. На глебе беларускіх гімназій і семінарый, "Грамады", Таварыства беларускіх школ, выдавецтваў і часопісаў у даваеннай Заходняй Беларусі ўзгадавалася цэлае пакаленне свядома-арыентаваных грмадзян. Толькі ў апошнія гады польскае кіраўніцтва, узяўшы напрамак на паланізацыю, спрабавала перашкодзіць пашырэнню адраджэнскіх і незалежніцкіх настрояў сярод іх. Але да турам і лагераў, а тым больш расстрэлаў, справа не даходзіла.

Гэтыя людзі, у большасці сапраўдныя патрыёты свайго народа, разумелі, што фашысцоўская ідэалогія нічога добрага для Беларусі не прынясе. І ўсё ж спрабавалі ў час вайны як мага лепш скарыстаць сітуацыю дзеля развіцця беларускага школьніцтва, пашырэння нацыянальнай ідэі ў грамадстве, асабліва сярод моладзі. У значнай ступені ім гэта ўдалося. Мяркую па сабе. Будучы вучнямі гандлёвай школы, менавіта дзякуючы нацыянальнай інтэлігенцыі мы не падвергліся анямечванню. Беларуская мова была пануючай паўсюдна. На беларускай мове выдаваліся часопісы і газеты. Але стаўленне маскоўскага камуністычнага кіраўніцтва і іх сатэлітаў у самой краіне да адраджэнскіх працэсаў пад час акупацыі было варожае. Многія руплівцы асветніцкай справы гінулі як ад рук партызан, так і саміх акупантаў па даносах нядобразычліўцаў. Нямала вартасных для беларускай культуры і навукі людзей вымушана было ў той час пайсці ў эміграцыю. А тыя, што засталіся на Радзіме, пасля вайны падвергаліся жорсткім рэпрэсіям.

У першыя дні ліпеня 1944 г. было зразумела, што прыход савецкай арміі не за гарамі. Калі наступалі прыцемкі, па дарозе на захад ля нашай хаты сталі рухацца цэлыя калоны нямецкіх аўтамашын, набітыя жаўнерамі. Чорныя, запыленыя,яны часам стаялі на прыступках кабін і сядзелі на капотах. У хаты не заходзілі, але мы вырашылі начаваць у гумне, далей ад дарогі. Лічылі, што так будзе больш бяспечна. Перад гэтым бацька на ўсялякі выпадак выкапаў у гумне яму, у якую мы прыхавалі вынесеныя з хаты пажыткі. Калі што і здарыцца, то хутчэй з будынкам, што пры дарозе, тым больш, што немцы ўсталявалі пад нашым клёнам чатырохствольны зенітны кулямёт. Перанес я ў гумно і свае кніжкі са сшыткамі. А ў адзін дзень, калі ўжо грукат гармат не сціхаў ні на хвіліну, на наш панадворак днём зайшлі нямецкія вайскоўцы і загадалі пакінуць сялібу і адыходзіць за гару ў бок вёскі Каралі і Салтаны, дзе віднеўся лес. Прымушалі нават спяшацца, падганяючы словамі: "Шнэль, шнэль".Схапіўшы сёе-тое з пажыткаў, малога брата і сястру, мы рушылі ў вёску Каралі і спыніліся ў хаце нейкай нават радні маёй маці. У іх было ўсё спакойна. Немцаў не было таксама. Вяскоўцы гуртаваліся, гадалі, што і як будзе далей. Перад заходам сонца хтосьці прыйшоў з вёскі Журэвічы і паведаміў, што там ужо руская. Прайшла разведка, а за ёю коннікі, абоз, зенітныя ўстаноўкі.

На выгане спыніліся на адпачынак. Магчыма, начаваць будуць. А ноч выдалася цёплая. На небе ні адной хмурынкі. Зашчабяталі начныя птушкі. То тут, то там чуўся брэх сабак. Толькі на ўсходзе час ад часу стаў даносіцца нейкі працяглы гул матораў. Гэта з боку Яхімоўшчыны, якая ў двух кіламетрах ад Журэвіч і злучаецца з вёскай палявой дарогай, а затым з бальшаком ужо ў Гарадзілаве. Гул нарастаў. Вёска Каралі ў лагчыне, і пабачыць, што там такое не было магчымасці. Спярша палічылі, што гэта савецкія танкі рухаюцца на фронт. Але ж фронта не было. Дый чаму ноччу, а не днём? Ніхто сказаць не мог. Павыходзілі на панадворак і старыя, і малыя. І раптам паветра страсанула некалькімі моцнымі гарматнымі выбухамі. Затым яшчэ і яшчэ раз. Засвісталі ў небе кулі. Да Журэвіч было кіламетра паўтара, але сама вёска скрывалася за пагоркам. А менавіта на яе ўсходняй і паўночнай ускраінах штосьці адбывалася. Часам трасучыя кулі праляталі над хатамі. Вырашылі падацца далей да лесу ў катлаван. А там ужо збіраліся людзі з суседніх вёсак. Убачылі і святара Гарадзілаўскай царквы Аляксея Маеўскага з сям'ёю.

Уся ваколіца ўжо поўнілася выбухамі снарадаў, мін, кулямётнымі і аўтаматнымі чэргамі. Часам снарады пападалі ў верхаліны дрэў, адкуль на нас ляцелі шчэпкі. Тады ўсе кладліся ніц і шчыльней туліліся да зямлі. А людзей павялічвалася. Чуўся прыглушаны гоман і дзіцячы плач. Нехта прапанаваў ісці далей на поўнач, у бок вёскі Відаўшчыны. Але хтосьці бачыў, як па лясной дарозе звечара рухаліся фурманкі з нямецкімі жаўнерамі, якія спяшаліся на захад. А ў гэты час над Журэвічамі, а затым і Гарадзілавам падняліся густыя клубы чорна-папялявага дыму і неба над імі асвяцілася сполахамі пажараў. Стала зразумела, што гэта сапраўдны бой, які то крыху сціхаў, то разгараўся з новай сілай. Даносілася часам працяглае рускае "Ура!" і характэрная стракатня аўтаматных чэргаў, як з аднаго, так і з другога боку. Нямецкія аўтаматы і кулямёты стукалі па-свойму. Мы ўжо іх ведалі. Савецкія ППШ і дзесяцізарадкі па-свойму, крыху драбней. А пакрывалі ўсё раскацістыя ўдары гармат, разрывы мін і гранат. І ўсё як на далоні. Бо лес быў на ўзгорку, і з-за дрэў можна было назіраць за гэтым незвычайным відовішчам.

Мой бацька спахмурнеў, калі над нашай сялібай запалыхаў агонь. Напэўна, ужо наша хата гарыць, што ля самай дарогі. Шуганула агнём і ля царквы, дзе былі будынкі святара мястэчка. І так да самага світанку.

Пад раніцу стрэлы сталі радзейшымі, а калі развіднела, усё сцішылася. Дагаралі забудовы. Неба завалакло шэрай дымнай смугой. Вярнуліся ў вёску Каралі. Там даведаліся, што ў Журэвічах і Гарадзілаве ўжо савецкія салдаты і можна вяртацца дадому. Мне параілі бацькі схадзіць у Журэвічы і даведацца, ці жывыя там наша бабуля з сям'ёю. Дзе яны схаваліся, бо сярод нас іх не было.Па знаёмай сцяжынцы я пайшоў у бок вёскі і неўзабаве ўбачыў на ўзбочны разбітую нямецкую павозку. Паранены конь быў яшчэ жывы, брыкаўся нагамі, адкінуўшы ўбок галаву. Непадалёку тварам да неба ляжаў забіты нямецкі вайсковец пажылога ўзросту, у белай кашулі, з чырвонай плямай на жываце. Яшчэ далей удоўж дарогі – ўжо даволі малады нямецкі салдат з адкінутай галавой і сталёвай каскай, запоўненай крывёю і мазгамі. Стала жуткавата. Такога я яшчэ ніколі не бачыў. Агледзіўся. Але навокал нікога не было. Толькі збоку ў жыце штосьці чарнела. А там аказаўся падбіты нямецкі танк тыпу "Фердынанд". Стаяў так, што яго гармата была накіравана на нашу вёску. Недаходзячы да Журэвіч, яшчэ адзін "Фердынынд". На яго брані, звесіўшы галаву ўніз, – нямецкі танкіст, акурат так, як пазней даводзілася бачыць у кіно. Усе журэўцы былі жывыя, толькі аднаго дзядзьку з крайняй хаты параніла. Згарэла бабуліна хата і хлеўчукі з жывёлінай. Засталося гумно і пуня, дзе яны і жылі да часу.

А ў нас наадварот. Хата засталася цэлая, хоць і пастраляная кулямі. Яна была крытая гонтай. А вось гумно з саламянай страхой згарэла да тла. Спапялела ў ім усё, у тым ліку і мае кніжкі. У хаце, відаць, быў часовы перавязачны пункт. На падлозе валяліся акрываўленыя бінты і вата. На агародзе ўсё спляжана ад разрываў мін і гранат. Паступова стала высвятляцца, што здарылася ў тую ліпеньскую ноч. Давялося чуць, як адзін савецкі вайсковец сказаў, што ад самага Бабруйска яны не нарываліся на нешта такое. Контрразведка дапытвала потым аднаго вяскоўца з Журэвіч, які на пытанне разведчыкаў сказаў, што немцаў у вёсцы ўжо няма. Гэта было ў другой палове таго дня і было праўдай. Нямецкая групоўка з'явілася пазней. Пры падтрымцы самаходных гармат, якіх было, відаць, больш пяці, яна падышла вечарам з боку Яхімоўшчыны палявой дарогай з мэтай цераз Журэвічы вырвацца ў Гарадзілаве на бальшак і выйсці з акружэння.

Самаходныя гарматы ўдарылі па вёсцы нечакана. У першай палове ночы, відаць, і загінула 16 савецкіх байцоў і дзве зенітчыцы. Іх пахавалі на ўскраіне Гарадзілаўскага парку, паставіўшы два часовыя драўляныя абеліскі. Пазней адбылося перазахаванне. Імён іх я не ведаю. Але, напэўна, яны ў Маладэчанскім ваенкамаце павінны быць. Колькі было параненых, таксама мне невядома. На выгане ў Журэвічах я бачыў разбітыя фурманкі, іншую ваенную тэхніку, аўтамашыны з зенітнымі снарадамі. Згарэў і ветраны

млын. Казалі потым, што, захапіўшы вёску, немцы зацята абараняліся, засеўшы ў млыне з кулямётамі. Мая бабуля, седзячы ў бульбяным склепе ля сваёй хаты, бачыла, як немцы ішлі па загуменню плячо ў плячо з вінтоўкамі наперавес і бліскучымі багнэтамі пры іх.

Доўга яшчэ потым знаходзілі забітых нямецкіх вайскоўцаў, раскіданых па ўсёй ваколіцы. Нямала іхняй усялякай зброі засталося, валяючыся дзе папала. Да раніцы яны былі выбіты з вёскі падаспеўшым падмацаваннем. Але, напэўна, частка іх усё ж прарвалася, бо да вечара чулася гарматная страляніна ўжо на захадзе. Там некалькі "Фердынандаў", акапаўшыся ў лагчыне, адмовілася здацца ў палон, і іх дабівалі мінамётамі.

Так закончыўся ў нас апошні дзень намецкай акупацыі, зусім не падобны на першы, калі мы нават не агледзіліся, як апынуліся ў нямецкім палоне.

Пачыналася новае жыццё. І хаця палова будынкаў нашых вёсак згарэла, людзі цешыліся, што хоць засталіся жывымі ў тую пякельную ноч. Праўда, на ўскраіне вёскі Каралі ад шалёнай кулі загінуў жыхар Дзеніс. Я ведаў таго чалавека.

Затым некалькі дзён па нашай дарозе на захад рухаліся часці савецкай арміі. Мы ўпершыню ўбачылі пагоны і афіцэрскія зоркі на іх. Замест палутарак і марудных цягачоў гулі матory студэбекераў з прычэпамі гармат. Усе пехацінцы былі на машынах. Нямала прайшло кавалерыстаў. Але на гэтым трывогі нашы не скончыліся. Нямецкая авіяцыя пачала бамбаваць наступаючыя злучэнні. Ля вёскі былі ўсталяваны зенітныя батарэі. Выкапаныя нават адпаведныя бліндажы для зенітчыкаў. Варожыя самалёты праляталі, але хутка знікалі, калі зенітчыкі пачыналі стральбу. А вось вёску Дубіну, што за ракою, і вайсковыя часці ў ёй, што рухаліся ў бок Заброддзя, моцна разбамбілі. Мне давялося бачыць, як нямецкія самалёты адзін за адным пікіравалі, пасля чаго падымаліся клубы пылу і дыму, а затым шумела полымя. Палёты спыніліся, калі, відаць, ім давялося пакінуць аэрадромы. За Нёманам на пэўны час наступленне савецкіх войск спынілася. Амаль уся Беларусь была вызвалена ад нямецкіх акупантаў. І хаця да канца вайны яшчэ было далёка, наступіла пэўная палёгка, асабліва калі стала можна хадзіць у любы час дня і ночы і куды пажадаеш.

# Маё адкрыццё Салаўкоў

Адбылося яно ў далёкім 1941 годзе. Шэрым восеньскім надвячоркам насупраць нашай хаты спынілася павозка, і немалады вусаты кіроўца перадаў бацьку, з якім мы сядзелі на лаўцы, свежы нумар "Менскай газэты", куплены ім у Слуцку. Кіроўца, як я зразумеў з яго размовы, да вайны разам з бацькам працаваў у суседнім калгасе. А мяне, чатырнаццацігадовага хлапчука, газета зацікавіла -- вельмі ж хацелася даведацца, што ў ёй пішуць пра фронт і дзе ён знаходзіцца, бо іншай інфармацыі вёска з пачатку вайны не мела ні ад немцаў, ні ад "сваіх", з-за лініі фронту.

На другой старонцы маю ўвагу прыцягнуў вялікі артыкул "У капцюрох ГПУ", над чорным кідкім загалоўкам значылася прозвішча аўтара, Францішак Аляхновіч. Яно мне тады нічога не адкрывала, а вось змест артыкула зацікавіў бацьку -- тым болей, на гэта былі прычыны. Яго яшчэ ў 1931 годзе па позве са Старобінскага ГПУ выклікалі на допыт і пратрымалі ў вязніцы аж два тыдні. Нехта з аднавяскоўцаў данёс туды на яго, што ён мае залатыя манеты царскай чаканкі, а іх тады ўлады выбівалі прымусам -- на будоўлі камунізму. Магчыма, у бацькі і было нейкіх дзве ці тры пяцірублёўкі, што засталіся пасля смерці майго дзядулі, але бацька аддаваць іх не жадаў, хоць ад голаду (давалі вязням у дзень па кавалку селядца, хлеба і кубак вады) і бяссонніцы, таму як на допыт вадзілі ноччу, схуднеў ушчэнт, косці ды скура засталіся, як сам пазней прызнаўся. І яго выпусцілі з падпіскай аб неразгалошванні.

Не дзіва, што сповед Аляхновіча пра перажытае ў вязніцах, а затым на Салаўках, закранула бацьку за жывое. Газетай зацікавіліся і суседзі, чыіх сваякоў у 30-я гады выслалі за Котлас ці забраў ноччу "чорны воран". Першым завітаў да нас бацькаў швагер Алесь Кунцэвіч, ягонага бацьку Петруся адправілі ў ГУЛАГ у 1937 годзе, а дзядзьку Кастуся Кунцэвіча з жонкай і трыма дзецьмі ў 1935 годзе выслалі за Котлас як "неблаганадзейная".

За Алесем сталі прыходзіць у хату іншыя вяскоўцы, і з іх размоў, пасля знаёмства з артыкулам Аляхновіча, я зразумеў, што людзі спадзяваліся даведацца нешта пра сваіх блізкіх пакутнікаў, таму што пісьмы ад іх пасля высылкі ў вёску не даходзілі. А паколькі той артыкул друкаваўся з працягам у наступных нумарах, то вяскоўцы, хто ездзіў у Слуцк па гаспадарчай патрэбе, куплялі "Менскую газэту" цэлую зіму 1942 года.

У ёй, акрамя "капцюроў ГПУ", недзе ў канцы кастрычніка 41-га года на першай старонцы я ўбачыў артыкул "Арміі Цімашэнкі пераможаны", дзе гаварылася аб разгроме акружаных каля Вязьмы пяці савецкіх армій і ўзятых там у палон 637.000 палонных, тысячах кінутых у лясах і балотах танкаў, гармат, аўтамашын. Гэтая вестка вельмі ўразіла вяскоўцаў, людзі выказвалі сумнеў, маўляў, немцы перабольшваюць страты бальшавікоў, не маглі яны столькі людзей узяць у палон. Але калі ў канцы лістапада з бабруйскага лагера ў першы слуцкі вайсковы гарадок прыгналі 15.000 палонных чырвонаармейцаў і афіцэраў, людзі пачулі ад іх, што ўсе яны былі ў тым страшным "катле" за Вязьмай.

...У другі раз аповесць Ф.Аляхновіча "У капцюрох ГПУ" я перачытаў гадоў пяць таму, як яна выйшла ў Мінску масавым тыражом і некалькі экзэмпляраў яе трапілі ў гарадскую бібліятэку. Аповед аўтара ўразіў панову суровай праўдай аб усім перажытым ім у першым савецкім канцлагеры -- Салаўках, дзе знайшлі смерць дзесяткі тысяч людзей розных нацыянальнасцей -- вучоных, пісьменнікаў, святароў, так званых "кулакоў".

Сёлета ў сакавіку споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Ф.Аляхновіча, выдатнага драматурга і тэатральнага дзеяча Беларусі, чалавека, які першым сярод беларускіх літаратараў трапіў у вязніцу, а затым і ў Салавецкі лагер. Жывучы ў 20-я гады ў Польшчы, Аляхновіч меў неасцярожнасць даверыцца знаёмым сябрам-літаратарам, быццам па той бок мяжы, у БССР, можна свабодна займацца літаратурнай дзейнасцю, ставіць спектаклі. І ён паверыў. І яго ў 1927 годзе абмянялі на высланага з БССР другога беларускага літаратара -- Тарашкевіча, які пажадаў жыць у Польшчы.

У Мінску Аляхновіча адразу ўзялі пад неаслабны кантроль органы ГПУ, сталі выклікаць на "знаёмства". У той жа год яго адправілі ў турму як "польскага шпіёна", а затым этапам -- на Салаўкі. І толькі дзякуючы намаганням вядомых тады беларускіх пісьменнікаў праз сем гадоў, у 1934-м, Ф.Аляхновіча выпусцілі з няволі і ён вярнуўся ў Вільню, дзе ў маладыя гады шмат працаваў на ніве драматургіі. Там жа і напісаў дакументальную аповесць "У капцюрох ГПУ", якая неўзабаве абышла амаль усе еўрапейскія краіны, адкрыўшы праўду пра сталінскі тэрор.

Загінуў Ф.Аляхновіч там жа, у Вільні, у 1944 годзе ад рук двух невядомых забойцаў, у сваёй кватэры.

Міхась ТЫЧЫНА. г. Слуцк, "Н.В."

*************************************************

# Рэзэрвацыя

*Калі краіна пад акупацыяй агрэсара, ён высокім плотам акрэсьлівае тэрыторыю, на якой дазваляецца жыць мясцоваму насельніцтву. Плот з калючым дротам, а па кутох зазвычай усталяваныя кулямётныя вышкі. Найбольш адукаваная і неагрэсіўная частка насельніцтва ўганароўваецца тэрыторыяй без вышак. Амэрыканцы назвалі такія зоны рэзэрвацыямі; немцы, у часе Другой усясьветнай вайны, прыдумалі іншую назву – гета.*

Нямецкі досьвед Другой усясьветнай вайны цяперашняя беларуская ўлада засвоіла хутка. Праўда, ажыцьцявіць ідэі нацыянал-сацыялістаў хутка не атрымалася. Спатрэбілася каля сямі гадоў, каб разгарадзіць тэрыторыі, усталяваць вышкі і навучыць ахоўнікаў страляць "на сьмерць" у выпадку пабегу зьняволенага. Сёньня гэтая адказная праца завершаная, і зьняволеныя занялі свае месцы ў рэзэрвацыях.

Для апазыцыйна настроеных палітыкаў і вольнадумцаў выдзялілі адмысловую плошчу зь дзіўнай для Беларусі назвай -- Бангалор. На гэтай плошчы, якая мяжуе зь пляцоўкай для выгулу сабак, разьмешчанай у пустэнным раёне, дазволена праводзіць мітынгі і нягучна крытыкаваць уладу. Іншых рэзэрвацыяў для вулічных праяваў незадаволенасьці не прадугледжана. За непадпарадкаваньне грамадзянаў, карацельныя органы пакуль не расстрэльваюць, - абмяжоўваюцца 15-сутачнымі тэрмінамі зьняволеньня.

Сродкі масавай інфармацыі вытрымлівалі ціск агрэсара больш за астатніх – 9 гадоў. Але і яны былі з218 загнаныя ў рэзэрвацыю. Прычым, калі для прадстаўнікоў журналісцкай прафэсіі спачатку хапала месца за калючым дротам, то, пасьля пэўнага часу, газэтам адвялі тэрыторыю віртуальную – інтэрнэт. Дый і тое, падобна, толькі на пэўны час. Да моманту адшукання тэхнічных магчымасьцяў установкі кулямётных вышак на ўсясьветным сеціве.

Апалітычныя прадпрымальнікі апынуліся ў рэзэрвацыях толькі за тое, што іх дзейнасьць вяла да прыбытку й незалежнасьці. Адныя зь іх разьмесьціліся на стадыёнах, як чылійскія камуністы часоў рэпрэсіяў пінАчэтаўскай хунты, іншыя трапілі ў сутарэнні... Некаторыя -- у сутарэнні гандлёвыя, некаторыя – турэмныя. У апошні час складваецца ўражаньне, што другіх болей, бо колькасьць прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, якія сядзяць у турме, наблізілася да дзесяцітысячнай адзнакі.

Для дзяцей, арыентаваных на нацыянальную культуру й беларускую мову, была створаная рэзэрвацыя ў выглядзе Беларускага гуманітарнага ліцэю. Больш дакладна, калі ліцэй стварaўся, ён ня быў рэзэрвацыяй, -- у той час ўся беларуская адукацыя ішла па цывілізаваным шляху. Але, з часам, на гэтым шляху зьявіліся стратэгі з прэзыдэнцкай адміністрацыі, якія вырашылі ўгнаіць беларускую глебу камунафашыстоўскай ідэалёгіяй, замешанай на культуры глухой расейскай правінцыі. Экспэрымэнт стаўся пасьпяховым і беларуская адукацыя абмежавалася гуманітарным ліцэям.

Спробы моладзі працягваць адукацыю на беларускай мове прыводзяць у іншую рэзэрвацыю -- філялягічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Там можна атрымаць адукацыю на роднай мове, праўда, калі вы трапілі на беларускае аддзяленьне філялягічнага факультэту, а не на расейскае.

Улада паклапацілася і пра людзей мастацтва, якія выкарыстоўваюць у сваёй творчасьці родную мову. Для іх быў створаны мэдыя-холдынг, у які аб'ядналі ўсе літаратурныя й культуралягічныя выданьні. Так уладам стала лягчэй кантраляваць тэрыторыю й праводзіць карацельныя апэрацыі. Зараз з кулямётных вышак на беларускіх пісьменьнікаў глядзяць іх нешматлікія чытачы, а начальнік лягеру вырашае, што з напісанага годна цытаваньня на палітзанятках.

Пабудова новых рэзэрвацыяў працягваецца. Уладныя вертухаі ў тры зьмены ўзводзяць кулямётныя вышкі й чапляюць паміж слупамі калючы дрот, забываючыся на элемэтарную ісьціну: калі ты ствараеш рэзэрвацыю для іншых, то, праз некаторы час, рэзэрвацыю створаць для цябе. Калі? Гэта ўсяго толькі пытаньне часу…

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Суседзі ведаюць нашу мову. А мы?

**Алена ВАЙЦЯХОВІЧ**

Лілася беларуская гаворка. Калі б чалавек непаінфармаваны днямі трапіў у сталічны Дом дружбы, парадаваўся б: як хораша падлеткі гавораць па беларуску. Але... справа ў тым, што гэтыя хлопцы і дзяўчаты завіталі ў нашу краіну з Польшчы.

Вядомыя беларускія пісьменнікі, прадстаўнікі розных міністэрстваў і грамадскіх арганізацый, пасол Рэспублікі Польшча — усе гэтыя людзі днямі сабраліся ў Доме дружбы, каб павіншаваць пераможцаў усяпольскай алімпіяды па беларускай мове. Гэтаму навуковаму спаборніцтву польскіх школьнікаў надаецца асаблівы сэнс. Як было адзначана на ўрачыстым мерапрыемстве, людзі, якія вывучаюць замежную мову, генетычна цягнуцца да яе носьбітаў. Акрамя таго, мы — суседзі, і многія польскія дзеячы культуры нарадзіліся ў Беларусі.

Вызначэнне лепшых знаўцаў беларускай мовы сярод польскіх школьнікаў праводзіцца ўжо 9-ы раз. Уяўляеце, колькі новых сяброў з'явілася ў нашай краіны! І не выпадкова ўручэнне прызоў пераможцам конкурсу праводзіцца ў Мінску. Усё ж госці могуць і краіну пабачыць, і з равеснікамі пазнаёміцца. Так, сёлета каля 20 юных палякаў пабывалі ў мінскіх гімназіях, з'ездзілі на экскурсію ў Заслаўе.

Між іншым, каб перамагчы ў алімпіядзе, польскім школьнікам мала было проста ведаць нашу мову. Яны пісалі работу па фальклору, знаёміліся з беларускай літаратурай.

«Я думаю, што гэта добра, валодаць як мага большай колькасцю замежных моў. Беларусь жа мяжуе з Польшчай, і я адчувала, што веданне мовы суседзяў мне можа спатрэбіцца. Таму з двух ліцэяў, якія ёсць у маім горадзе, абрала беларускі, — прызналася пераможца ўсяпольскай алімпіяды Эмілія Пліс. — Ды і ўдзельнічаць у алімпіядзе было даволі цікава, мы паглыбіліся ў літаратуру, пазналі шмат новага»...

Хочацца верыць, што такія алімпіяды будуць спрыяць не толькі наладжванню добрасуседскіх адносінаў, але і даваць штуршок для таго, каб у нашай краіне часцей гучала беларуская мова. Магчыма, хтосьці з нашых суайчыннікаў, пачуўшы, як госці з Польшчы размаўляюць па-беларуску, здзівіцца і задумаецца: «А хіба мы, беларусы, не можам так размаўляць на сваёй мове?!».

*************************************************

# Да юбілею мовазнаўца

6 лістапада будзе 120 гадоў з дня народзінаў Язэпа Лёсіка. ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" распачало ўшанаванне памяці празаіка, публіцыста, мовазнаўца, літаратуразнаўца і палітычнага дзеяча выданнем кішэннага каляндарыка на 2003--2004 гг.

Выкарыстана фота Язэпа Лёсіка 1930-х гадоў з сямейнага архіва яго дачкі -- Алесі Лёсік. На другім плане -- будынак педагагічнага тэхнікума ў Мінску (1925 г.), вокладкі вучэбных дапаможнікаў па беларускай мове, лагатып газеты "Беларусь", якую ён рэдагаваў, гады жыцця (1883--1940) ды сімволіка ТБМ. Дызайн выканаў мастак Ігар Марачкін. Запытвайце юбілейны каляндарык у сядзібе Таварыства беларускай мовы, што на вуліцы Румянцава, 13 у Мінску.

*************************************************

# ПАРТРЭТ МІКАЛАЯ ГУСОЎСКАГА

**Жанна НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЯ**

Знойдзена ў архіве

«Песня пра зубра» Мікалая Гусоўскага — шэдэўр беларускай рэнесансавай паэзіі — захавалася ў адзіным экзэмпляры друкаванага збору твораў паэта, што пабачыў свет у Кракаве ў 1523 годзе. Гэты зборнік знаходзіцца ў кракаўскай бібліятэцы князёў Чартарыскіх. Таму, прыехаўшы ў Кракаў на навуковую стажыроўку, я найперш замовіла ў бібліятэцы гэтае рарытэтнае выданне. Пад гукі трубы, якія штогадзіны даносіліся з вежы Марыяцкага касцёла, я перагортвала старонкі маленькай (у восьмую долю друкаванага аркуша), але знакавай у гісторыі нашай літаратуры кнігі, якую трымалі ў руках славутыя навукоўцы — польскія, расійскія, беларускія... вядомыя абразкі зубрыных паляванняў, паэтычны расповед пра часы Вітаўта, палымяны заклік да міру, малітва да Панны Марыі... Перагортваю апошнюю старонку. Нечаканасць!..

Затрымаю на імгненне шчаслівую інтрыгу і дазволю сабе нагадаць чытачам любімай газеты пра некаторыя акалічнасці, з якімі звязана было стварэнне паэмы пра зубра. Гэты твор быў напісаны ў Рыме паэтам, які на пачатку 20-х гадоў XVI стагоддзя знаходзіўся там пад апекаю свайго патрона і мецэната Эразма Вітэліуса. Падчас сустрэчы з прадстаўнікамі пасольскай місіі Вялікага княства Літоўскага ў 1520 або 1521 годзе папа рымскі Леў X Медзічы зацікавіўся тым краем, адкуль прыбылі дыпламаты. Да таго ж, нягледзячы на свой абавязак апостальскага служэння, папа быў заўзятым паляўнічым. Таму, пачуўшы ў прыватнай размове пра зубрыныя ловы, панатыфік праявіў шчырую зацікаўленасць гэтым пытаннем і пажадаў даведацца пра яго як мага больш. З гэтаю мэтай кіраўнік пасольскай місіі, плоцкі біскуп Эразм піша ліст да Віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла з просьбай зрабіць чучала зубра і даставіць яго ў Рым. Другая замова — напісаць паэму пра зубра на лацінскай мове — была пераадрасавана біскупам Мікалаю Гусоўскаму. Гэта — неаспрэчнае сведчанне таго, што наш суайчыннік быў ужо на той час дасканалым і вопытным паэтам-лацiністам, які меў усе шанцы паспяхова справіцца з нялёгкай творчай задачай.

Паэма пад назваю «Пра постаць, лютасць зубра і паляванне на яго» была ўжо амаль гатова, але ў студзені 1522 года Леў X раптоўна памірае ад чумы. Гусоўскі спяшаецца завяршыць твор, каб паспець надрукаваць яго ў Рыме. Таму на старонках паэмы мы часта сустракаем заўвагі паэта пра недахоп часу і нараканні на вельмі кароткі тэрмін, што быў яму адпушчаны на паэтычную працу. Аднак у тым жа 1522 годзе аўтар паэмы пра зубра церпіць яшчэ адну балючую страту — у верасні памірае ад чумы біскуп Эразм, яго сябар і духоўны настаўнік. Ні творца, ні яго творчасць больш нікога ў Рыме не цікавяць, і Гусоўскі прымае рашэнне шукаць новых мецэнатаў, якія дапамогуць яму надрукаваць выпакутаваны твор.

У канцы 1522 або на пачатку 1523 года Гусоўскі спыняецца ў Кракаве, дзе праз пратэкцыю асоб, набліжаных да каралеўскага двара Жыгімонта Старога, імкнецца дабіцца прыхільнасці ўладароў Вавельскага замка. Менавіта ім задумаў ён прысвяціць свой паэтычны зборнік. Але галоўным адрасатам свайго прысвячэння паэт абраў не караля, а каралеву — вучоную, вытанчаную італьянку, арагонскую прынцэсу Бону са старажытнага роду Сфорцаў, якая стала жонкай славутага Ягелона. У адпаведнасці з гэтай задумай паэт дапаўняе падрыхтаваны ўжо збор твораў двума ўступнымі вершамі — так званымі «эпіграмамі» на радавы герб. Першы з гэтых вершаў называецца «Пра змяю». Справа ў тым, што на радавым гербе Сфорцаў была выява змяі, што паглынае дзіця (у дадзеным выпадку сімвал няцноты). Пасля чатырохрадковага верша змяшчаецца і сама адпаведная выява. Другая эпіграма — «Пра яе ж (змяю. — Ж.Н.-К.), з арлом злучаную» — сімвалічна ўвасабляе паяднанне ў шлюбным саюзе Боны і Жыгімонта, на радавым гербе якога была выява арла 1. Пасля эпіграм змешчаны два прысвячэнні: празаічнае — «Да найяснейшай уладаркі і пані Боны», а таксама паэтычнае — сакратару каралевы Людовіку Альфію. Толькі пасля гэтых уступных твораў пачынаецца ўласна паэма пра зубра. І гэта азначае, што выданне Мікалая Гусоўскага аформлена згодна з еўрапейскім выдавецкім этыкетам — пры наяўнасці так званага прадмоўна-пасляслоўнага комплексу. Усе беларускія пісьменнікі XVI стагоддзя прытрымліваліся гэтага прынцыпу кніжнай архітэктонікі. Тая ж традыцыя захоўваецца і ў «Бібліі» Францыска Скарыны, які кожную кнігу Святога Пісьма суправаджае прадмовамі і пасляслоўямі...

А цяпер, уважлівы і мудры чытач, спытайся: калі ёсць прадмова — дзе ж пасляслоўе? Ці да канца застаўся верным кнігавыдавецкай традыцыі аўтар «Песні пра зубра»?..

На апошняй старонцы экзэмпляра бібліятэкі князёў Чартарыскіх паўстаў перад маімі вачыма намаляваны бюст з тварам, павернутым у профіль, на пастаменце, што стаіць на ўзгорку, парослым травою. Дзівосная выява з трох бакоў заключана ў рамку і знаходзіцца ў атачэнні некалькіх надпісаў, зробленых на трох мовах: лацінскай, старагрэчаскай і старагабрэйскай. Зверху — па-лацінску: «Лепш за ўсё звычайна запамінаецца апошняе». Ніжэй, у непасрэднай блізкасці да партрэтнай выявы — ізноў па-лацінску: «Не прызнаю аніякай мяжы», прычым слова «мяжа» (terminus) напісана на «пастаменце». Яшчэ ніжэй — зноў па-лацінску: «Чалавеку прызначана чакаць дзень, і не саграшыш у вяках». Ніжэй — па-старагрэчаску: «Будзьце пільнымі, бо не ведаеце ані дня, ані часу». Нарэшце, самы ніжні надпіс — па-старагабрэйску: «Блаславёны Бог 2 навечна, амэн, з апошнімі днямі Яго». Уздоўж левай рамкі партрэтнай выявы — надпіс па-старагрэчаску: «Ты бачыш канец доўгага жыцця». Уздоўж правай рамкі — надпіс па-старагабрэйску: «Ты зрабіў, і гэта не праміне».

Каб скончыць гаворку пра прытрымліванне традыцыі, засталося ўспомніць яшчэ, што ў трох пражскіх выданнях «Бібліі» Скарыны першадрукар змясціў свой гравюрны партрэт. Пры гэтым вядома, што ў кнігах «Ісус Сірахаў» і чацвёртай кнізе «Царстваў» гэты партрэт змешчаны на апошняй старонцы! Такім чынам, амаль няма сумнення ў тым, што на апошняй старонцы зборніка «Песня пра зубра» Мікалая Гусоўскага перад намі — партрэт аўтара бессмяротнай паэмы. Нездарма на пастаменце з яго бюстам напісана слова «terminus», якое па-лацінску пазначае і прасторавую, і часовую мяжу. Сапраўдным помнікам Гусоўскаму стала яго паэзія, і гэты помнік, па словах Гарацыя, не зруйнуе ні едкі дождж, ні свавольны вецер Аквілон, ні чарада гадоў. Тое, што ён зрабіў, пры Божым блаславенні, не праміпула.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Наведайце Гудзевічы: адзін з цікавейшых музеяў Беларусі

**Прыйшла вясна, час турыстычных паходаў ды экскурсіяў. Сёння з упэўненасцю можна сказаць, што ўсе дарогі вядуць у Гудзевічы, бо менавіта тут перакрыжоўваюцца шляхі з Аўстраліі і Польшчы, Літвы ды Расіі, Нямеччыны і Украіны, Швейцарыі ды Латвіі, Злучаных штатаў ды Бельгіі, Канады ды Галандыі. Сёння цяжка назваць тыя краіны, прадстаўнікі якіх не пабывалі б на экскурсіі ў Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі. Хіба што з Антарктыды пакуль не было ніводнай экскурсіі.**

Што ж так прыцягвае экскурсантаў у гэтую маленькую вёсачку, якая ніколі ні чым не вызначалася. Хіба толькі тым, што ў Гудзевіцкай школе ў 1919-20-гадах вучылася Ларыса Геніюш, што гэтую школу скончаў вядомы ў Еўропе мастак Зміцер Іваноўскі. Многія раёны не могуць пахваліцца, што сярод выкладчыкаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ёсць выкладчыкі і з адной школы таго ці іншага раёна. З вёскі Гудзевічы працуюць у БДУ два дактары навук: Бібіла Валянціна і Пётр Бібіла. Можам пахваліцца, што нашы кандыдаты ды дактары навук працуюць у іншых універсітэтах.

Гудзевічы славяцца і тым, што тут здагадаліся захаваць сялянскую хатку, якой больш за дзвесце гадоў. У ёй, дарэчы, захавалася і мэбля тых старажытных часоў. Больш нідзе ў Беларусі вы не ўбачыце драўлянага плуга, якімі аж да 1939 года карысталіся ў самых багатых маёнтках, такія плугі былі і ў самых перадавых гаспадарках, бо ён араў значна лепш за жалезны, а хадзіць за ім ратаю было значна лягчэй, як за самымі дасканалымі плугамі XX стагоддзя: ён не выскакваў з баразны нават тады, калі на шляху сустракаўся вялікі камень (абыдзе яго і сам зноў стане ў баразну, а меншыя камяні лёгка вывараў на паверхню). Тут, у хаце, выцінанкі, запек, вялікая печ, куфар, стол, якi зроблены прыгонным селянінам Міхасём Кажэцкім, калыска з лазы, чапяла, рагач, кацуба, паліца, ступа, бойка, дзежка, грыфельная дошка і шмат іншага. У прымне ды каморы – жорны, страмакі, сярпы, лапаты, склюты, кашы з векамі, каробкі, сявенкі і шмат іншага гаспадарчага рыштунку.

У літаратурным музеі вы даведаецеся, што першыя кнігі ў Вільні, Маскве, Львове друкавалі беларусы, што ў радыусе нейкіх 7-8 кіламетраў ад Гудзевічаў жылі або і цяпер жывуць 16 беларускіх пісьменнікаў.

Тут можна пазнаёміцца з пратапыпамі многіх праграмных твораў, з цікавымі звесткамі па гісторыі і літаратуры. Часта нават вучоныя захапляюцца: «Я ў вашым музеі адкрыў для сябе многа новага. Абавязкова выкарыстаю пачутае сёння ў сваёй доктарскай дысертацыі».

Мастацкая галерэя прадстаўлена творамі такіх таленавітых мастакоў, якімі з'яўляюцца Зміцер Іваноўскі, Мікола Купава, Аляксей Марачкін, Арлен Кашкурэвіч, Лілія Трахалёва, Алесь Ліпень, Уладзімір Ліпень, Уладзімір Церабун, Аляксей Багустаў і іншыя.

У зале карысных выкапняў даведаецеся пра велізарныя багацці нетраў Беларусі. У нас ужо знойдзена больш за восем мільярдаў тон калійных соляў. У 2002 годзе ў Беларусі здабылі 31 мільён тон гэтага каштоўнейшага ўгнаення, якое ў прыродзе сустракаецца рэдка, таму калійныя солі купляюць краіны з усіх кантынентаў зямлі, акрамя Аўстраліі.

У нас шмат бурага і чорнага вугалю, а торфу маем столькі, што маглі б забяспечыць сыравінай дзесяткі краінаў свету, а торф – гэта выдатная сыравіна для хімічнай прамысловасці.

Наш цэмент – лепшы ў свеце. Мы маем нават маркі 600, 700, 800. Нават на будаўніцтва Астанкінскай вежы бралі беларускі цэмент, мел, гліну.

Мы можам лёгка вырабляць мільёны тон гіпсу ў год, але пакуль купляем гіпс за межамі Беларусі. Даўсаніт мае адзіная рэспубліка з СНД, з яго атрымліваюцца выдатныя соды. Амаль нідзе ў свеце няма чорнага крэменю, а ён жа такі неабходны ў медыцыне. У нас вельмі прыгожы граніт, з якога вырабляюцца прыгожыя пліты. На кожнага жыхара краіны ў нас прыходзіцца па 78 сотак лесу. Хто яшчэ ў свеце валодае такім багаццем. У Беларусі велізарная колькасць марскіх расолаў. Гэта вельмі згушчаная марская вада, у якой уся табліца Мендзялеева. Ужо сёння з гэтай вады дабываюць бром і ёд. У нас два багацейшых радовішчы фосфару, але мы і дагэтуль возім яго ў Гомельскую вобласць з Кольскага паўвострава.

У залах гісторыя Гудзевічаў у выяўленчым мастацтве, дакументах і фотаздымках. Экскурсанты змогуць даведацца тут і пра гісторыю ўсёй Беларусі.

У зале народнай медыцыны можна знайсці народныя рэцэпты нават ад тых хваробаў, якія не паддаюцца лячэнню ў шпіталях.

Ў залах лёну і народнага ткацтва можна ўбачыць усе прылады працы, пры дапамозе якіх лён ператвараецца ў тканіну, тут экспануюцца віды ўсіх тканін, якія ткаліся на Гарадзеншчыне. А ў зале практычнага ткацтва можна паглядзець, як ткуцца Гарадзенскія падвойныя дываны на адзіных у свеце падвойных кроснах.

У нашым музеі ад паганскіх часоў захоўваецца каменны рукамойнік, тут красуюцца чоўны незвычайнай прыгажосці і шмат іншых экспанатаў, якіх не мае ніводзін музей свету.

Побач з музеем азярцо. З 10 чэрвеня, а можа і раней, на возеры будзе гайдацца музейны плыт, на якім жадаючыя здолеюць паплаваць.

Калі хочаце ўсё гэта пабачыць, калі ласка, прыязджайце ў Гудзевічы – адзін з самых прыгожых музеяў Беларусі.

Л.СТАНЕЎСКАЯ,
вёска Гудзевічы
Мастоўскага раёна

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## *Некалькі разумных слоў акад. Генадзя Лыча...*

Дзіўныя ўсё ж такі мы, беларусы, людзі. Як з нас ні здзекуюцца, што над намі ні ўчыняюць: абдзіраюць як ліпку, заганяюць у стойла, прыніжаюць нацыянальную годнасць, скажаюць гісторыю, ганьбяць нацыянальную культуру, прынамсі, родную мову, рвуць на кавалкі Бацькаўшчыну -- маўчым, нібы вады ў рот набраўшы. Ды яшчэ пахваляемся: глядзіце, маўляў, якія мы памяркоўныя, талерантныя. Некаторыя нават спрабуюць адшукаць у гэтым якісьці сэнс, карысць...

Як вядома, пры амаль поўным маўчанні тагачасных беларускіх палітыкаў Сталін у свой час падараваў Літве Віленшчыну, а Польшчы -- Беласточчыну, затым па жывым адараваў ад Віцебшчыны яе значную частку і далучыў да расійскай Смаленшчыны. А між тым гэтым самым мы, беларусы, не толькі назаўсёды страцілі вельмі значную частку сваёй спрадвечнай тэрыторыі, але і фактычна асудзілі многіх сваіх суродзічаў на ганебны нацыянальны ўціск, адмаўленне ад сваёй нацыянальнай культуры, найперш -- роднай мовы, ад сваіх гістарычных каранёў з тым, каб папоўніць сабой іншыя народы -- літоўскі, польскі, рускі.

Згаданыя факты застаўляюць задумацца: а ці не страцім мы ўсё апошняе, што яшчэ дазваляе нам, беларусам, лічыць сябе самастойным народам, які мае права на сваю ўласную дзяржаўнасць і светлую будучыню, калі і сёння будзем па-ранейшаму маўчаць? Ці не пара ўсім нам, найперш апазіцыйным палітыкам, ва ўсю моц узняць свой голас у абарону сваіх правоў і нацыянальных інтарэсаў?

Пакуль не позна!

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Горкае вяртаньне. На гэты раз назаўжды.

Пра Васіля Быкава і яго новую кнігу "Доўгая дарога дадому".

Трагічная вестка прыйшла з Менску: не стала Васіля Быкава. Здарылася так, што памёр ён на радзіме, куды каля месяца назад проста прыехаў падлячыцца. Скончылася яго **доўгая дарога дадому,** як ён назваў сваю апошнюю кнігу. Ён памёр праз тры дні пасьля свайго сямідзесяцідзевяцігодьдзя, 22 чэрвеня, у той самы дзень, калі… Паклятая дата.

Усё жыцьцё Васіль Быкаў завельмі часта марыў аб вяртаньні **ДАДОМУ**, да родных вытокаў, ад якіх быў адарваны спачатку падлеткавым жыцьцёвым няўладкаваньнем, вайной і службай у арміі, а потым, ужо ў сьпелыя гады, той ідэйна-маральнай (назавем яе так) дыстанцыяй, што існавала паміж чаканым уяўленьнем, як павінны жыць пасьля вайны ў дваццатым стагодьдзі родная зямля і родны народ, і тым, што атрымалася, тым, у якіх умовах людзі жылі на самой справе. ДОМ як філасофскае паняцьце так і застаўся вобразам, сымбалем чагосьці ідэальнага і дасканалага, але, на жаль, недасягальнага ня толькі для аўтара гэтай кнігі, але і для ўсёй яго нацыі, якая на пачатку новага дваццаць першага стагодьдзя апынулася на мяжы зьнікненьня.

Першыя старонкі кнігі Васіля Быкава "Доўгая дарога дадому", апісаньне роднай Васілю Быкаву Віцебшчыны, Вушаччыны, маленькай вёскі Бычкі, дзе ён нарадзіўся і дзе прайшло яго дзяцінства, усіх ня вельмі кідкіх, але да болю блізкіх аўтару лясоў, дарог, азёраў, лагчын… Чытач адразу ў палоне дзівоснай аўтарскай інтанацыі споведзі, ягонай адкрытасьці і шчырасьці. Быкаўская праўда, як і ва ўсіх яго творах, бязьмежна абвострана, у кнізе няма ані радка, дзе хоць бы ў якой ступені прагучалі інтанацыі самаапраўданьня ці самалюбства.

Дзіцячыя гады: вучэньне ў вясковай школцы адлюстроўвала ўсе супярэчнасьці таго часу, таго нялёгкага даваеннага жыцьця. Многія аўтарскія прызнаньні кранаюць сваёй шчырасьцю, напрыклад, успамін пра тое, як бацька прачытаў яму ў зусім раньнім дзяцінстве апавяданьне выдатнага беларускага пісьменьніка Міхася Лынькова "Гой", пачатак якога – "І плакала Рыва…" – помніўся доўгія гады ня толькі Васілю Быкаву. А потым, навучыўшыся чытаць, ён захапляўся Лермантавым (болей, чымсьці Пушкіным) альбо Жуль Вернам, аповесьць якога "З пушкі на Месяц" пераклаў у зусім яшчэ юным узросьце на родную беларускую мову і паслаў у Менск у газэту "Піянер Беларусі". Але галоўнае у першых эпізодах успамінаў – яскравыя дэталі, прыкметы той нечалавечай сацыяльнай сістэмы, якую ўсталёўвала савецкая ўлада. Так званае раскулачваньне, прымусовы вываз сем'яў у Сібір ды невядома куды… У разгары калектывізацыі давялося ўпершыню ўбачыць, як плача маці. "У спрэс сялянскай краіне ліквідоўвалася сялянская кляса – што ёсьць клясычны генацыд", – такі бязьлітасны вывад робіць Васіль Быкаў, расказваючы пра тыя гады.

Перад самой вайной аўтар крыху павучыўся ў славутым мастацкім вучылішчы ў Віцебску, а потым, калі адмянілі ў вучылішчы стыпендыі, давялося перайсьці ў школу ФЗН (фабрычна-заводскага навучаньня), дзе рыхтавалі рабочых-будаўнікоў. У чэрвені 1941 году Васіль Быкаў едзе на Ўкраіну у Шостку, дзе жыў ягоны дзядзька, у пошуках заробку і з надзеяй паступіць у індустрыяльны інстытут. Пачынаецца вайна, яго, семнаццацігадовага, праз ваенкамат мабілізуюць на абаронную працу – капаць супрацьтанкавыя траншэі. Потым было жахлівае адступленьне, усе пацягнуліся на Усход. Васіль адстаў ад сваёй калёны, яго арыштавалі, прынялі за шпіёна, ён цудам пазьбегнуў растрэлу: спагадлівы чырвонаармеец загадаў яму бегчы як мага хутчэй і стрэліў у паветра…

Многа пакутаў выпала тады на долю яшчэ зусім маладога хлопца на нялёгкіх, поўных нягодаў і стратаў дарогах вайны. Мабілізацыя, запасны полк, Саратаўскае пяхотнае вучылішча, баі пад Камышынам і Сталінградам, баі на перадавой ад Дняпра да заходняй мяжы, праз Малдавію, Румынію, Венгрыю… Увесь цяжар свайго вайсковага жыцьця Васіль Быкаў апісвае даволі стрымана, але вельмі вобразна, праз эмацыянальныя і выразныя дэталі. І як ішла кавалерыя ў атаку на нямецкія танкі – ішла на верную пагібель. І як ён зняў пагоны з забітага лейтэнанта і надзеў іх, калі прысвоілі званьне, а забясьпечыць абмундзіраваньнем не змаглі. І як часта траплялі пад абстрэл варожых кулямётаў МГ-42, якія рабілі 1000 стрэлаў у хвіліну, альбо мінамётаў, што выпускалі па 12 мінаў адну за другой: першая яшчэ не ўзарвалася, а ўжо вылятала дванаццатая. І пра поўны разгром дывізіі пад Кіраваградам у час "аперацыі", за якую потым маршал Конеў атрымаў ордэн Леніна. І як мог адночы ён, Васіль Быкаў, малады камандзір узвода, забіць немца, але не забіў. І пра шматлікія раненьні; абломак мэталу да апошняй сваёй хвіліны ён насіў у руцэ як памяць… З вялікім болем піша Быкаў пра суцэльную непадрыхтаванасьць краіны і арміі да вайны, што адчувалася амаль да самага апошняга яе году: катастрафічна не хапала баепрыпасаў, усё ўзбраеньне – і стралковае ў пяхоце, і артылерыя, і танкі – усё тэхнічна саступала нямецкаму, і немагчыма было весьці баі на роўных. Не было падрыхтавана і камандаваньне, якое ведала толькі адну навуку: страявую падрыхтоўку. "Вайну рабілі дылетанты", – з горыччу сьведчыць аўтар і расказвае аб тым, як увесь час даводзілася пераадольваць страх. Страх перад ворагам: могуць забіць, узяць у палон, проста страшна падчас бамбёжак ці артабстрэлу. І страх, які ішоў за спінай салдата: ад начальства, ад асабістаў, смерша і іншых карных органаў, якіх у вайну, як падкрэсьлівае В.Быкаў, было ня менш, чымсьці ў мірны час. Адсюль і красамоўнае прызнаньне: "Калі цябе камандзір абяцае расстраляць пад ранак, калі ты ня возьмеш страчаны хутар, ці вышыню, ці траншэю, дык яшчэ невядома, каго ты пачынаеш баяцца болей: немцаў ці камандзіра". Цытуе аўтар і сапраўдны салдацкі фальклёр, песьню таго часу:

Первая болванка попала в бензобак,
Вылез я из танка, сам не знаю как…
Любо, братцы, любо, любо, братцы, жить:
В танковой бригаде мне уж не служить.
А наутро рано ведут в особотдел:
Что же ты, подлюга, в танке не сгорел?
Очень виноватый, я им говорю,
В завтрашней атаке обязательно сгорю…

Піша Васіль Быкаў і пра страшэнны разгром некалькіх савецкіх арміяў, які немцы ўчынілі у Венгрыі ўсяго за тры месяцы да канца вайны – факт, які дагэтуль не знайшоў неабходнага асьвятленьня ў прэсе. Затым аўтар служыў у Балгарыі, дзе ён увесь час настойліва прасіў аб дэмабілізацыі. Нарэшце, яго адпусьцілі дадому, ён прыехаў у родную Беларусь, але неўзабаве прыйшоў загад пра новае "залічэньне лейтэнанта Быкава В.У. у кадры Савецкай Арміі". У гэты раз накіравалі служыць на далёкія Курыльскія астравы, дзе некалькі гадоў паўтаралася ўсё зноў і зноў: статутная муштра, разгул асабістаў, напаўгалоднае існаваньне ў цяжкіх умовах. Толькі праз некалькі год медкамісія вызначыла, што ён "ня годны для службы ў мірны час", і яго адпусьцілі ў запас. Васіль Быкаў вярнуўся ў Гародню, з цяжкасьцю уладкаваўся на працу ў сакратарыят абласной газэты. Пачалося мірнае жыцьцё з усімі яго нягодамі, самыя першыя з якіх – праблемы атрыманьня кватэры… У той жа час ён актыўна заняўся і літаратурнай творчасьцю.

На старонках сваёй мемуарнай кнігі аўтар даволі скупа і сьціпла піша, як нараджаліся задумы літаратурных твораў, што неўзабаве сталі вядомымі і папулярнымі, – ад "Трэцяй ракеты" і "Мёртвым не баліць" да "Пайсьці і не вярнуцца", "Праклятай вышыні", "Знака бяды" ды іншых цудоўных аповесьцяў. Крыху падрабязьней распавядае Васіль Быкаў аб тым, як ва ўсе савецкія гады, у тым ліку і ў так званыя перабудовачныя, даводзілася прабіваць і сваё, напісанае, і тыя асобныя кінафільмы, што былі пастаўленыя па яго кнігах. Многія старонкі прысьвечаны апісаньню задушлівай атмасферы таго часу, трагічным лёсам таленавітых людзей. "Будавалі турму народаў, а казалі – камуністычнае грамадства", – вось быкаўская ацэнка зусім нядаўняга мінулага. Увесь той час у былым СССР ды і цяпер у Беларусі грамадска-дзяржаўная сістэма трымалася і трымаецца на абвастрэньні унутранай рэпрэсіўнай палітыкі кіруючай партыі ды яе карных органаў, – такі сумны вывад аўтара, пацьверджаны ў гэтай кнізе мноствам яскравых прыкладаў. Самыя пераканаўчыя з іх – сугуба асабістыя: разгромныя артыкулы пра яго творы, каменьні, што ляцелі ў вокны гарадзенскай кватэры Быкава на вуліцы Кашавога, вобыскі у адсутнасьці жыхароў, "жучкі" і бесперапынная падслухоўваньне, нарэшце, проста выклікі "на гутаркі" у органы і адкрытыя напады і біцьцё на вуліцы. Тэма пастаяннага сачэньня з боку КГБ гучыць і ў аповедзе пра некаторыя замежныя паездкі аўтара. "Рукапісы не гараць, але не гараць і даносы", – заўважае ён.

З вялікай павагай і цеплынёй успамінае Васіль Быкаў пра тых, хто быў побач і падтрымліваў яго ў цяжкія хвіліны. Гэта і яго гарадзенскія сябры пісьменьнік Аляксей Карпюк і гісторык Барыс Клейн, гэта і выдатныя дзеячы беларускай літаратуры Рыгор Барадулін, Алесь Адамовіч, Уладзімір Караткевіч, гэта і расейскі паэт Аляксандр Твардоўскі, і вядомыя крытыкі Лазар Лазараў і Ігар Дзядкоў, журналіст Мікола Матукоўскі і іншыя. Аўтар кнігі актыўна падтрымлівае думку Алеся Адамовіча аб неабходнасьці павышэньня інтэлектуальнага ўзроўню беларускай літаратуры, што асабліва важна сёньня дзеля захаваньня нацыі і яе мовы.

У сувязі з тэматыкай сваёй літаратурнай творчасьці і пастаяннай крытыкай у свой адрас Васіль Быкаў неаднаразова вяртаецца да думкі аб антынароднай сутнасьці кожнай вайны. І ня толькі таму, што падчас Другой сусьветнай загінула, напрыклад, 97% тых, хто, як і ён, нарадзіліся ў 1924-м. Быкаў спасылаецца на Хэмінгуэя, на яго рэзка адмоўныя адносіны да вайны ўвогульле. Магчыма, сёньня гэта выкліча новыя спрэчкі. Тым не меней аўтар прызнаецца, што, пішучы многія аповесьці і апавяданьні, яго перш за ўсё цікавіла адлюстраваньне подзвігу духу ў жорсткай мясарубцы вайны і ў мірны час, калі "мы жылі ў ненармальным, звыродлівым сьвеце", калі "элементарныя меркаваньні здаровага сэнсу былі адпрэчаны", калі "сэнс зрабіўся клясавым, партыйным…"

У канцы кнігі пісьменьнік разважае аб тым, чаму народу нічога не прынесла так званая перабудова, а беларусы наогул атрымалі заміж яе дубінкі, пачынаючы з сумна вядомых падзей на Дзяды ў 1988 годзе. З гэтым аналізам звязана і размова пра няўдачы нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі. Высока ацэньваючы асобу Зянона Пазьняка, кіраўніка Беларускага Народнага Фронту, ягоную апантанасьць і адданасьць ідэям нацыянальнага адраджэньня, Васіль Быкаў піша пра тактычныя памылкі Фронту, што настроіла супраць яго многіх, якія не пажадалі згадзіцца з пэўным максімалізмам лёзунгаў і патрабаваньняў. У сувязі з гэтым уяўляе вялізную актуальную цікавасьць наступны прынцыповы вывад аўтара кнігі "Доўгая дарога дадому": "Беларускі народ у сваёй масе напрыканцы XX стагодьдзя меў клопат ня так з праблемай **адраджэньня**, як з праблемай **выжываньня**. Хоць як-небудзь, хоць з бальшавіцкім рылам, але каб не перatварыцца ў мерцьвяка, што ўвогульле было рэальна. Па сутнасьці ішоў працэс паміраньня (ва ўсіх сэнсах), і важна было клапаціцца, як затрымацца на краю пагібелі, а ня дбаць пра колішнюю веліч часоў ВКЛ. Народ тое адчуваў інстынктыўна і таму на першых прэзідэнцкіх выбарах у масе сваёй не пайшоў за Пазьняком і БНФ з іх віртуальным нацыянал-дэмакратызмам…"

Рэзка адмоўна ацэньвае Васіль Быкаў цяперашні дыктатарскі рэжым на сваёй радзіме. Давялося зноў пакінуць яе, таму што сёньня там "ні сяляне ня маюць зямлі, ні пісьменьнікі ня маюць свабоды, хоць бы свабоды на родную мову". Вось так, на песімістычнай ноце заканчваў ён сваю доўгую дарогу дадому, сваю споведзь вяртаньня, хоць і прызнаўся: "мая душа прагне аптымізму".

І вось – гэта нечаканая смерць, вялізная нічым непапраўная страта для ўсёй Беларусі, для яе шматпакутнага народу. Яго імя было сымбалем нацыі, яе сумленьнем. Творы Васіля Быкава прымусілі гаварыць пра беларускую літаратуру і мастацтва ў кантэксьце сусьветнай духоўнасьці.

Цяжка пісаць пра яго сьмерць. "Мёртвым не баліць" – так называлася яго выдатнейшая кніга, якая, між іншым, на мове арыгіналу ўпершыню выйшла ў нас у Амэрыцы. Васіль Быкаў памёр. Яму, напэўна, ужо не баліць. Баліць, невыносна баліць усім нам.

Ванкарэм Нікіфаровіч (Чыкага).

Vankarem Nikiforovich
1430 Sandstone Dr., apt. 202
Wheeling, IL., 60090, USA
(847)419-1943

# "Памёр апостал нашага народу"

На 80-м годзе жыцьця ў Менску памёр найвыбітнейшы сучасны беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў. Апошнія пяць гадоў Васіль Уладзіміравіч жыў у Фінляндыі й Нямеччыне, у канцы мінулага году па запрашэньню прэзыдэнта Чэхіі Вацлава Гавела пасяліўся ў Празе. У чэскай сталіцы пісьменьніку была зроблена апэрацыя. Васіль Уладзіміравіч памёр у анкалягічнай клініцы "Бараўляны", што ля Менску.

"Памёр апостал нашага народу", - сказаў Польскаму Прэс-Агенству вядомы беларускі паэт Рыгор Барадулін. У сваю чаргу заснавальнік Беларускага Гуманітарнага Ліцэю, старшыня Рады Беларускай Інтэлегенцыі Уладзімір Колас назваў сьмерць Васіля Быкава трагедыяй цэлай Беларусі, вялізарнай стратай нацыянальнай культуры й літаратуры. "Васіль Быкаў быў гонарам, сумленьнем і натхненьнем беларускага народу,"- зазначыла, у сваю чаргу, Івонка Сурвілла - старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. У сваю чаргу лідар краіны Аляксандр Лукашэнка зазначыў: "Памёр чалавек, імя кога непасрэдна зьвязана зь імкненьнем беларускага народу да жыцьця ў свабоднай і незалежнай дзяржаве, хоць мы па іншаму разумелі сувэрэннасьць і незалежнасьць".

*******************************************



# «Буквар з карцінкамі» для дарослых беларусаў

Алена **ЛЯЎКОВІЧ** (Звязда)

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры мае адбылася прэзентацыя кнігі «Краіна Беларусь. Ілюстраваная гісторыя». У тым, што з'яўленне гэтага выдання — сапраўдная падзея ў культурным жыцці нашай краіны, ніводзін з тых, хто патрымае кнігу ў руках і пагартае, нават сумнявацца не будзе. Ён хутчэй, як нехта з калег-журналістаў у загалоўку публікацыі з той жа нагоды, уражана-радасна ўсклікне: «Маем рэч!». Но і ПРАЎДА, кнігу гэту не сорамна і іншаземцу падарыць, і што, бадай, самае галоўнае, — самому цікава і таксама не сорамна пачытаць. «Аўтары кнігі пісьменнік Уладзімір Арлоў і мастак Зміцер Герасімовіч разглядаюць беларускае мінулае як частку агульнаеўрапейскага руху цывілізацыі»,— гаворыцца ў запрашэнні на прэзентацыю. Яно так і ёсць: пагартаеш «Краіну Беларусь» — сапраўдным еўрапейцам сябе адчуеш. І гэта зусім без іроніі сказана. Бо тое, што прачытаеш і ўбачыш пра сваіх продкаў і іх справы, добрыя, а часам і не вельмі (хаця добрага ўсё ж было больш), кожнага нармальнага чалавека проста прымусіць ганарыцца тым, што ён нарадзіўся і жыве іменна на гэтай зямлі.

Падобнага выдання мы яшчэ не мелі. Былі падобныя кнігі, выдадзеныя «Беларускай Энцыклапедыяй», але энцыклапедычнае выданне — гэта ўсё ж не самае папулярнае. І што ўжо зусім дакладна — ніводная кніга не мела дагэтуль столькі прывабных яркіх ілюстрацый — а іх у «Краіне Беларусь» каля дзвюх тысяч. Прычым нідзе ў тэксце не знойдзеш тыповую спасылку: «Глядзі малюнак такі-та». Ілюстрацыі нібы існуюць асобна ад тэксту, але разам з ім ствараюць поўную карціну таго ці іншага перыяду нашай гісторыі. «Лепш больш паказаць, чым расказаць»,— гаворыць мастак Зміцер Герасімовіч. І ў тым, несумненна, мае рацыю.

Са спадаром Зміцерам наогул вельмі цікава размаўляць. Чалавек, дасведчаны ў гісторыі нашай краіны як мала хто (асабліва пасля працы над кнігай), расказвае пра гэту самую гісторыю так захоплена і эмацыянальна, нібыта для суразмоўцы і для сябе самога робіць найвялікшае адкрыццё. «Я хацеў ілюстрацыямі пераканаць людзей у тым, што гэта было. І спадзяюся, што мне гэта ўдалося. Мы стараліся рабіць кнігу без ніякіх ацэнак і высноў — толькі факты. Але і без догмаў, якія трывала прыжыліся за дзесяцігоддзі ў беларускім грамадстве. Як было, напрыклад, абмінуць крывавае стагоддзе — семнаццатае, калі бясконца вяліся войны з Расіяй? Як гэта абмінуць, калі засталіся сведчанні — хронікі, гравюры, нават фрэскі ў храмах... Але наступны раздзел «Беларусы ў Расіі» расказвае пра тое, які ўклад унеслі нашы продкі ў культуру і архітэктуру суседняй дзяржавы, калі пасля тых крывавых войнаў рознымі шляхамі трапілі на ўсход. А ў якасці ілюстрацый — выявы цэркваў, пабудаваных нашымі дойлідамі, фота кнігі, якую аддрукаваў Пётр Мсціславец. Задача была — даць пераканаўчы відэашэраг. Высновы ж чытач павінен рабіць сам...»

А высновы ўсё з тых жа ілюстрацый розныя можна зрабіць. Вось, напрыклад, падзелы Рэчы Паспалітай, далучэнне беларускіх зямель да ўсё той жа Расіі. Намаляваная тагачасным мастаком карыкатура на падзеі, якія адбываліся, ілюстрацыі да паўстання Касцюшкі... і тут жа — фота залатога ключа, які жыхары Магілёва (самі жыхары!) паслалі з паклонам Кацярыне ІІ. Што іменна ён — сумненняў няма: на верхняй частцы ключа выкаваны вензель царыцы, у той час як на ніжняй — герб горада — сімвал магдэбургскага права. Дзіўнае спалучэнне, мякка кажучы.

Зьміцер Герасімовіч прызнаецца, што работай ён задаволены. «Атрымаўся такі праект, які я бачыў у планах. Мяне ніхто не папраўляў, не карэкціраваў. Хоць мастак і пісьменнік у гэтай кнізе неадлучныя, усё рабілася самастойна. Ніхто нікому нічога не навязваў. Хацелася расказаць пра нашу гісторыю папулярна, але без ідэалагічных купюр. Мне гэта было лягчэй рабіць: хоць я і беларус, і нарадзіўся тут, і гавару па-беларуску, але атрымліваў прафесійную адукацыю на Украіне і Расіі. Атрымалася, нібы чалавек прыехаў аднекуль здалёк і знаёміцца з зусім невядомай краінай. А падобныя ўражанні нездарма лічацца самымі аб'ектыўнымі і непрадузятымі»...

Як на маю думку, дык спадар Зміцер тут трохі хітруе. На Беларусі ён ужо даўно не «чалавек здалёк»: працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм», у «Белгандальрэкламе», стварыў фірмовы стыль гатэля «Беларусь», распрацаваў у свой час дызайн часопіса «Спадчына», браў удзел у стварэнні дызайну альбома-манаграфіі «Язэп Драздовіч». За працу, якая была ім зроблена пры стварэнні «Краіны Беларусь», чалавек, далёкі ад беларускай гісторыі і культуры, проста не ўзяўся б. Бо, каб сфатаграфаваць пэўны помнік ці пэўны музейны экспанат, трэба найперш знаць аб яго існаванні. «Веды былі, — прызнаецца мастак. — Але ў працэсе працы даведаўся яшчэ шмат новага і незвычайнага. І зацікаўленыя дасведчаныя людзі вельмі дапамаглі. Асабліва ўдзячны Алесю Беламу — з яго дапамогай складаліся спісы ілюстрацый, якія трэба было зрабіць да той ці іншай тэмы. Дзякуючы яму ў кнігу трапілі рарытэтныя ілюстрацыі з Германіі і Польшчы. Скульптар Міхась Інькоў прапанаваў для фота пластылінавы варыянт ужо існуючай скульптуры Кірылы Тураўскага — ён лепш глядзіцца на кніжных старонках. Полацкія навукоўцы знайшлі нядаўна выяву царквы Спаса ХІІ стагоддзя на старажытнай фрэсцы, расказалі, прапанавалі сфатаграфаваць. І цяпер у кнізе не толькі фота царквы, якая яна сёння, але і тая старажытная выява, якая яшчэ раз сведчыць пра пражытыя храмам стагоддзі... Вельмі плённа папрацаваў з музеямі, з Нацыянальнай бібліятэкай, супрацоўнікі якіх з ахвотай і зацікаўленасцю ішлі насустрач... Хацелася, каб большасць ілюстрацый была зроблена з арыгіналаў. Напрыклад, каб зрабіць арыгінальны слайд з крыжа Ефрасінні Полацкай, патрэбна было благаславенне мітрапаліта Філарэта. І Яго Высокапраасвяшчэнства даў такі дазвол»...

Даведаўся мастак падчас працы над кнігай і пра іншае — балючае, непрыемнае. «Я не ўпэўнены, што выбраў у якасці ілюстрацый самае каштоўнае і лепшае. У запасніках нашых музеяў і архіваў ляжыць яшчэ мноства, магчыма, бясцэнных экспанатаў. Яны неразабраныя, неапісаныя — а значыць, недаступныя ні для грамадскасці, ні для фатографа. Чаму? Таму што няма людзей імі займацца. Музейная і архіўная справа — работа зусім непрыбытковая»...

Але гэта — не галоўныя цяжкасці, з якімі нашаму герою давялося сутыкнуцца пры пошуку ілюстрацый. Вялізная колькасць нашых помнікаў асела ў музеях суседніх краін — Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны. У Беларусі, напрыклад, няма арыгіналаў залатых грошай, якія доўгі час хадзілі па тэрыторыі краіны. Няма ніводнай арыгінальнай Скарынаўскай кнігі — амаль усе з тых, што захаваліся, — у Маскве. Мала арыгінальных партрэтаў, гравюр, карт. Каб жа нешта сфатаграфаваць за мяжой — патрэбны вялікія сродкі (да прыкладу: права зрабіць адзін слайд у Траццякоўскай галерэі каштуе 200 долараў).

Тым не менш, матэрыялаў у мастака набралася шмат — у пяць разоў больш, чым змешчана ў кнізе. Спадар Герасімовіч лічыць, што з іх можна было б яшчэ зрабіць асобныя выданні: пра беларускія грошы, зброю, ювелірныя вырабы... Магчыма, калі-небудзь і гэтыя планы рэалізуюцца.

Сярод такой процьмы цікавай фактуры, з якой давялося працаваць, несумненна, нешта стала сапраўдным адкрыццём для самога аўтара. «Мяне найбольш уразіла адно фота канца XIX стагоддзя, якое захоўваецца ў музеі гісторыі і культуры, — прызнаўся мастак. — Гандолы на Прыпяці. Сапраўдныя венецыянскія гандолы. Найлепшы паказчык таго, што Беларусь — не толькі лапці, калтуны і саламяныя стрэхі... Яшчэ вялікае ўражанне пакінула паўстанне 1863 года. Гэта было не радавое паўстанне — гэта была сапраўдная вызваленчая вайна. Столькі матэрыялаў захавалася, якія пра тое сведчаць. Для войскаў Каліноўскага былі распрацаваныя нават спецыяльныя мундзіры, не кажучы ўжо пра харугвы, улёткі... Так, гэта была вайна... Здзівіла і ўразіла культура чаканкі і абарачэння манет на нашай тэрыторыі. У XVI-XVII стагоддзях, аказваецца, у нас хадзілі розныя манеты: і талеры, і дукаты, і орты, і тынфы... Любы беларус прыходзіў у карчму і кожнай з гэтых манет мог разлічыцца па курсу польскага або літоўскага гроша (заўважу, што курс літоўскага быў вышэйшы)»...

«Краіна Беларусь» — сапраўдны буквар з карцінкамі. Для маленькіх беларусаў — несумненна, для дарослых — тым больш. Лепш аднойчы ўбачыць, чым сто разоў пачуць? Тут ёсць магчымасць не аднойчы — дзве тысячы разоў убачыць. Можа, многім з нас іменна гэтага не хапае, каб сваю гісторыю, мову, краіну, саміх сябе, нарэшце, навучыцца па-сапраўднаму любіць і паважаць?..

*******************************************************

# Незайздросны лёс БЦР

Беларуская цэнтральная рада на чале з Радаславам Астроўскім была заснаваная 21 сьнежня 1943 г. Яна стваралася са згоды немцаў як галоўная інстытуцыя беларускай адміністрацыі ў генэральным камісарыяце «Беларусь». Менавіта Рада ладзіла вясной 1944-га мабілізацыю ў Беларускую краёвую абарону. У чэрвені 1944 г. паўнамоцтвы БЦР пацьвердзіў ІІ Усебеларускі кангрэс. У 1944—45 г. БЦР дзейнічала ў Нямеччыне, спрычынілася да стварэньня беларускіх вайсковых аддзелаў, частка якіх перайшла на бок заходніх саюзьнікаў.

**У чаканьні 3-га кангрэсу**

Распушчаная Р.Астроўскім у верасьні 1945-га, БЦР была адноўленая ў 1948 г. у Заходняй Нямеччыне. Вакол яе аб'ядналіся апазыцыйна настроеныя да Рады БНР і яе палітыкі беларускія эмігранты, пераважна праваслаўнага веравызнаньня. Паводле Статуту Беларускай цэнтральнай рады, зацьверджанага 14-м Пленумам БЦР у 1954 г., Рада «заступае сабою часова найвышэйшыя дзяржаўныя воргана Беларускай Народнай Рэспублікі». Артыкул 3 Статуту сьведчыў: «Атрыманыя ад 2-га Ўсебеларускага Кангрэсу паўнамоцтвы Беларускай Цэнтральнай Рады трываюць да часу скліканьня 3-га Ўсебеларускага Кангрэсу. 3-ці Ўсебеларускі Кангрэс Беларуская Цэнтральная Рада абавязаная склікаць неадкладна пасьля вызваленьня Беларусі» (Бюлетэнь 14-га Пленуму Беларускай Цэнтральнай Рады. Нью-Ёрк, 1959, с.25).

**Прэзыдэнты**

Прэзыдэнтаў БЦР было тры: Радаслаў Астроўскі (1887—1976), Нікандар Мядзейка (1914—1987) ды Міхась Зуй (1912—1995). Усе яны захоўвалі прэзыдэнцкія паўнамоцтвы да сваёй сьмерці. Астроўскі запомніўся заклікам да беларускіх эмігрантаў ісьці ў шэрагі амэрыканскага войска, каб ваяваць з камуністамі ў Карэі. Мядзейка падвышаў сябрам і прыхільнікам БЦР вайсковыя рангі (зьявіліся новыя «генэралы» і «палкоўнікі»). Гэтым жа займаўся ў канцы 40-х — пачатку 50-х і старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык, але рангі атрымлівалі пераважна ўдзельнікі антыса-вецкай барацьбы.

З асобай Зуя зьвязаная кароткая актывізацыя дзейнасьці Рады ў канцы 1980-х. Ягоныя віншавальныя лісты з нагоды нацыянальных сьвятаў у пачатку 90-х друкаваліся ў незалежным друку ў Беларусі (напрыклад, у «Навінах БНФ»). Рада БНР тады не была такая актыўная, як цяпер, але мела свой друкаваны орган — газэту «Беларус», якая распаўсюджвалася і на Бацькаўшчыне. Зрэшты, канкурэнтная барацьба паміж імі ўжо адыходзіла ў нябыт.

**Тэстамэнт**

24 красавіка 1995 г. у Аўстраліі, у Сыднэі, памёр апошні прэзыдэнт БЦР Міхась Зуй. Ён пасьпеў скласьці дакумэнт, якім у выпадку ягонай сьмерці паўнамоцтвы прэзыдэнта перадаваліся кіраўніку выканаўчага органу БЦР Віталю Цярпіцкаму. З далёкай Аўстраліі мы атрымалі ксэракопію гэтага дакумэнту:

«Упаўнаважаньне.

У сувязі з маім цяжкім станам здароўя і па прапанове сяброў Беларускай Цэнтральнай Рады, у выпадку маёй сьмерці, усе па[ў]намоцтвы і абавязкі Прэзыдэнта БЦР узложаныя на мяне 19-м Пленумам БЦР даручаю да выканання Старшыні ВВБЦР сп.Віталю Цярпіцкаму да 20-га Пленуму БЦР альбо перадачы іх 3-му Усе-беларускаму Кангрэсу ў Вольнай і Незалежна[й] Беларусі.

Жыве Беларусь!!!

Міхась Зуй

Прэзыд[э]нт».

На дакумэнце няма даты, але почырк ідэнтычны почырку М.Зуя. Ягонае аўтарства гэтага дакумэнту пацьвярджаецца сп.Паўлам Гузом-Дуброўскім, які, на просьбу Зуя, зрабіў машынапісную копію «Ўпаў-наважаньня» і адаслаў для выкарыстаньня прэзыдэнту БЦР.

**«Гультайства» ці палітычнае рашэньне?**

Усе намаганьні даведацца ад сп.Цярпіцкага пра лёс Беларускай цэнтральнай рады ні да чога не прывялі. Адзін з прыхільнікаў БЦР пісаў нам у ліпені 2001-га: «Вы слушна гаворыце аб гультайству Цярпіцкага, але нічога ня зробім, бо калісьці сьв. памяці Астроўскі сказаў (цытую): «Чаму заўсёгды мне падсоўваеце да працы толькі фігурантаў, зь імі працаваць нельга!». Калі сп.М.Зуй адышоў, то Цярпіцкі ў бездну кануў і нават не сазволіў напісаць [пра яго] пару слоў».

Такім чынам, ад 1995 г. абавязкі прэзыдэнта БЦР фармальна выконвае сп.Віталь Цярпіцкі з ЗША, які ніякай дзейнасьці не праводзіць і, праўдападобна, да лёсу БЦР ставіцца абыякава. Паводле іншай вэрсіі, ён вырашыў ціха пахаваць адзін з беларускіх «эміграцыйных урадаў». «Маладых сілаў» у Раду ня ўводзілі, таму рана ці позна яна мусіла зьнікнуць. А пэрспэктыва перадачы паўнамоцтваў БЦР ураду незалежнай Беларусі выглядала цьмянай. Дый не было гарантыі, што паўнамоцтвы гэтыя будуць прынятыя…

Такі невясёлы фінал напаткаў адзін з палітычных цэнтраў беларускай эміграцыі, заснаваны яшчэ ў часы другой сусьветнай вайны. Супрацьстаяньне паміж прыхільнікамі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і Беларускай цэнтральнай рады працягвалася некалькі дзесяцігодзьдзяў, аж пакуль не адышлі старэйшыя пакаленьні беларускіх дзеячоў. Рада БНР, амаладзіўшы свой склад, працягвае існаваць і сёньня, мае свайго раднага ў Беларусі. Пра БЦР ужо даўно нічога не чуваць, як і пра драбнейшыя палітычныя групы (Беларуская народная грамада, Беларускі вызвольны рух), якія зьніклі са сьмерцю сваіх лідэраў і большасьці сяброў.

**Сяргей Ёрш** /Наша Ніва/

### Збіраецца ў Чэхію

**ВІЛЕЙКА.** Пераможцам рэспубліканскага літаратурна-мастацкага конкурсу, аб'яўленага Міжнародным грамадскім аб'яднаннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", стаў юны мастак гімназіі Яўген Мельнікаў. Сямікласніка ўзнагародзілі пуцёўкай ў Чэхію, дзе ён прабудзе два тыдні.

# Жыцьцё і сьмерць Рамана Скірмунта

**(паводле вусных успамінаў жыхароў Піншчыны)**

7 траўня спаўнілася 135 гадоў з дня нараджэння вядомага палітычнага дзеяча першай паловы мінулага стагоддзя Рамана Скірмунта. Ён быў унікальнай асобай нашай беларускай гісторыі. У 1906 г. быў абраны дэпутатам I Дзяржаўнай думы Расійскай імперыі ад Мінскай губ. Праз тры гады перамог на выбарах у Дзяржаўную раду. У 1917-1918 г. актыўна працаваў у беларускім нацыянальным руху. Менавіта Р.Скірмунт узначаліў беларускую дэлегацыю, якая ўвесну 1917 г. вяла перамовы з Часовым урадам Расійскай Рэспублікі пра аўтаномію Беларусі. У траўні 1918 г. ён стаў на чале ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі і змагаўся за незалежнасць першай беларускай дзяржавы ў XX ст. У 1930 г. увайшоў у Сенат II-ой Рэчы Паспалітай, спадзяючыся змяніць тую ганебную палітыку асіміляцыі, якую праводзілі польскія ўлады ў адносінах да беларускага насельніцтва. У кастрычніку 1939 г. Р.Скірмунт быў забіты недалёка ад вёскі Парэчча Пінскага павету.

Гэты артыкул заснаваны на ўспамінах жыхароў Піншчыны, якія захавалі памяць пра чалавека, які мог быць першым прэзідэнтам незалежнай Беларусі.

Ягонае жыццё ў міжваенны час прыцягвала да сябе вялікую ўвагу мясцовых сялянаў, а трагічная смерць у кастрычніку 1939 г. стала падзеяй, якая моцна ўразіла практычна ўсіх. Многія і сёння без хвалявання не могуць распавядаць пра ягонае забойства.

**Добры пан**

Амаль усе суразмоўцы згадвалі Рамана Скірмунта вельмі добра. Распавядалі, што «пан» сам шмат фізічна працаваў. Сяляне бачылі, як уладальнік маёнтка пілаваў крывыя дрэвы, абразаў або абрубаў сухія галіны дрэваў у лесе і ў парку: «Памешчык кожны дзень на работу выязджаў. У яго быў тапорык, пілачка была. Ён працаваў, не то што якія...» (Х.Лукашык, 1922 г. нар.).

Парк з'яўляўся прадметам асаблівай увагі Рамана Аляксандравіча, які сам заснаваў яго яшчэ на пачатку XX ст. Гэта быў парк у англійскім стылі, які не меў дакладна пазначаных межаў і стаўся неад'емнай часткай навакольнага ландшафту. Яго перасякалі каналы з перакінутымі праз іх і выгнутымі ў дугу масцікамі. Тут былі пасаджаныя дубы, трохі ясеней, клёнаў і вязаў, раслі шматлікія экзатычныя віды, як, напрыклад, цюліпанавае дрэва.

Адначасна парк быў месцам добрага заробку для парэчан. Працавалі пераважна па ўпарадкаванню (чысцілі сцяжынкі, рублі сухастой ды інш.). Зараблялі 1 злоты ў дзень (Павел Рак, 1917 г.н.).

Паводле аповядаў, да сялян Раман Аляксандравіч ставіўся вельмі добра. Павел Рак: «Скірмунт заўсёды дапамагаў людзям». Рыгор Цудзіла: «Харошы быў чалавек. Я яго цалую ў руку, а ён мяне – у галаву». Мікалай Куцко: «Скірмунт быў добры чалавек. Ён пахаваў у сваім маёнтку пляменніка Генрыка. Той быў самагубцам з-за дзяўчыны, а маладаўскі Генрык Скірмунт прыдуркаваты – не дазволіў хаваць у Моладаве». Людзі згадвалі, што часта вітаўся першым, аказваў дапамогу асабліва для будаўніцтва, дазваляў касіць траву («даваў сенакос»), рабіў падарункі на святы, «пагэтаму людзям вельмі падабалася ў яго працаваць, і яны ніколі ад яго не ўходзілі» (Марыя Нікалайчык, 1920 г.нар.).

«Трапіць да пана Скірмунта было проста, – распавядаў Рыгор Цярэшка (1932 г.н.). – Пастукаемся і зойдзем. Не тое, што зараз. Не дабрацца да якога прэдседацеля. А тады: «Паночку, так і так, дзело ёсць». І ён дапамагаў. Ён в последнее время ці што чуствоваў, але хацеў раздаці мужыкам зямлю. Аказваецца, не дала яму гэта зрабіць новая ўлада». Версію пра зямлю падцвердзіла Анастасія Вакульчык, якая між іншым распавяла, што напрыканцы 30-х г. Раман Скірмунт пачаў надзяляць сялян зямлёй. Часта гэта рабілася, як вясельны падарунак «маладым».

**Гаварыў па-беларуску**

Старэйшае пакаленне парэчан перакананае, што Р.Скірмунт збіраўся ўсю сваю зямлю аддаць сялянам, і за гэта яго моцна не любілі ў Варшаве. Павел Клімовіч: «У Варшаве яго хацелі забіць, бо раздаваў зямлю сялянам». Яўгенія Цудзіла заявіла, што Скірмунта ў Сенаце хацелі скінуць з балкона за тое, што збіраўся раздаць зямлю сялянам. Дарэчы, пра сенатарства Р.Скірмунта ведалі ўсе. Хведар Хвісюк: «Ён быў сенатар, але не за грошы, а проста так, бо разумны».

Усе суразмоўцы адзначалі, што Раман Скірмунт размаўляў з сялянамі па-беларуску: «Па-нашаму» (Вольга Чугай, 1910 г.нар.); «Па-простаму»; (А.Вакульчык); «Гаварыў па-простаму более-менее, трошкі па-польску, як пан» (Р.Цярэшка); «Па-мужыцку» (М.Куцко).

Людзі распавядалі, што Р.Скірмунт рэгулярна хадзіў да касцёлу. Быў праціўнікам перамены веравызнання. У прысутнасці Паўла Клімовіча асудзіў пераход з праваслаўя ў каталіцызм, заявіўшы: «Якім нарадзіўся, такім і памірай». Павел Рак згадаў, як Скірмунт абазваў «дураком» рабочага, які перайшоў у каталіцызм.

**Пра асабістае жыццё**

Адной з найбольш цікавых знаходак былі звесткі пра асабістае жыццё Р.Скірмунта. Як вядома, ён не ажаніўся і не меў дзяцей ад шлюбу. Але каханне, безумоўна, было ў ягоным жыцці. Размовы з жыхарамі Парэчча дазваляюць казаць, што на працягу доўгага часу значнае месца ў жыцці вядомага палітыка і грамадскага дзеяча займала Кацярына Цярэшка (Цярэшчанка?): «Баба красівая была. Самы гады такі пад яго... То засакрэчана любоў» (Марыя Кучыньская, 1919 г. нар.). Муж Кацярыны памёр у 1915 г.

У 20-я г. удава ўжо пастаянна жыла ў маёнтку. Людзі распавядалі пра чатырох сыноў Кацярыны – Аляксандра (Олеся), Рамана, Уладыслава і Пятра (Петруся). У вёсцы казалі, што гэта сыны Рамана Скірмунта. Мікалай Куцко (1911 г. нар.) на пытанне, чаму ён так лічыць, адказаў проста: «Падобныя, як партрэты».

Лёс сыноў Кацярыны Цярэшкі склаўся па-рознаму. Олесь памёр яшчэ ў 30-я г. Раман быў арыштаваны НКВД у 1939 г. і загінуў у Сібіры. Яго нібыта перавозілі ў баржы на Сахалін, ды і затапілі тую баржу разам з людзьмі (Рыгор Цярэшка). Петрусь у час вайны служыў у паліцыі. Адступіў разам з немцамі. Потым у Польшчы быў арыштаваны і вывезены ў Сібір. Магчыма, застаўся жыць у Расеі.(?)

Мы здолелі натрапіць на след пэўнага «легендарнага эпосу», звязанага з асобай уладальніка Парэцкага маёнтку. Людзі распавядалі, што Р.Скірмунт мог спыніць пажар: «У Чамярыне гарэла хата. Ён пажар абег, і ўсё... Пажар далей не пойдзе. Ахвяраў няма. А што ён знаў, я не знаю» (Х.Лукашык); «Калі адбываўся пажар, то Скірмунт сам выязджаў туды. Заўсёды абыходзіў пажарышча, і агонь далей не ішоў.

**Не абаронены абаронца**

Апошнюю паслугу жыхарам Парэчча Р.Скірмунт аказаў у верасні 1939 г., калі ўжо ішла вайна. Людзі распавядалі, што група парэчскіх мужыкоў, калі ўбачыла здаля браніраваны цягнік з салдатамі, пайшла іх сустракаць з чырвоным сцягам. Але аказалася, што гэта быў польскі атрад, які распачаў стральбу па «ветлівых» гаспадарах. Мужыкі разбегліся. Некалькі чалавек было паранена. Расправы з вёскай не дапусціў Раман Скірмунт, які пераканаў камандзіра атрада, што парэчскія мужыкі такога зрабіць не маглі: «Не трогайце паріччан!» (М.Кучыньска); «Кажа: Гэта мае людзі. Оні гэтаго не рабілі» (А.Вакульчык).

Праз некалькі дзён прыйшла Савецкая ўлада. Раман Скірмунт разам з мужам сястры Алены Баляславам Скірмунтам быў арыштаваны. Дапамогі ад людзей ён не дачакаўся. На пытанне, чаму ж Раман Скірмунт не з'ехаў, Марыя Кучыньская адказала: «Быў пэўны на свой народ, бо він яго не обіжаў. Ён мог уцячы, але думаў, што прыйдуць Саветы і разбяруцца». Яна ж распавяла, як паводзіў сябе Раман Аляксандравіч пасля арышту: «Ён хацеў так: Я ведаю, што ўжо не памешчык, такі ж рабочы, як і ўсе. Я буду рабіці, але трэба, каб прыйшло начальства... Ну, ідзіце, забірайце ўсё маё багацце. Но работайце. А я пасматру, як вы будзеце рабіць. Маладнякі шчэ ж вы, ніц не знаеце». Спадзяванне Рамана Скірмунта на з'яўленне высокага начальства, ягоныя надзеі на размову з гэтым начальствам пацвярдзілі і іншыя суразмоўцы. Але гэтага спаткання не адбылося. «Начальства» (камісары Холадаў, Кавалёў і Маскалёў) сапраўды з'явіліся, але сустракацца з Р.Скірмунтам і не збіраліся. Падобна на тое, што менавіта яны (часцей суразмоўцы згадвалі Холадава) і загадалі забіць уладальніка маёнтка (Хведар Хвісюк, 1920 г.нар., А.Вакульчык).

**І нашто забілі пана**

Забойству папярэднічаў агульны сход. Пра яго распавёў М.Куцко: «У 39 г. Саветы сабралі суд: Што будзем рабіць са Скірмунтам? Некаторыя вяскоўцы казалі, няхай ён ідзе да сваіх лакеяў на калонію і няхай яны яго кормяць. Другія казалі, што трэба выдзяліць яму пакой у палацы. Няхай там і жыве. Ніхто не хацеў забіваць. Тады выступіў камісар Холадаў:

– Вы не знаете, что такое помещик, а мы знаем. Он и конюхом работать может, но возьмёт хлев закроет, падпалит, телёнка на плечи, бежит и кричит «Спасайте!». По-моему, таким, как Скирмунт, не должно быть места на земле».

Сярод парэчан знайшліся людзі, якія выканалі злачынны загад. Суразмоўцы асуджалі іх: «А між людзьмі ўсякі ёсць. Е падхалімы такі» (Р.Цярэшка)»; «Людзі, што забілі Скірмунта, былі гулякамі, любілі выпіць, пагуляць» (Х.Хвісюк) . Калі Рамана і Баляслава Скірмунтаў вялі на смерць, нехта з парэчан паспрабаваў заступіцца: «Што вы робіце? Куды вы яго вядзеце?» І пачуў у адказ: «Маўчы, бо і табе гэта будзе шчэ!» (А.Вакульчык). Марыя Нікалайчык згадала, што калі Р.Скірмунта вялі забіваць, то мясцовыя жыхары плакалі, а «пан» казаў: «Я з вамі развітваюся назаўсёды. Спадзяюся, што нікому не зрабіў кепскага». У адказ на пытанне, чаму ж вы не абаранілі чалавека, людзі разводзілі рукамі і адказвалі прыблізна так: «А як жа абароніш? Нічога не зробіш!» (М.Кучыньская).

Кажуць, што перад смерцю Раману Скірмунту загадалі адвярнуцца ад забойцаў. Ён адмовіўся: «Я ад людзей адварочвацца не буду». І, быццам бы, дадаў: «Я б вам не саветаваў гэта рабіць, бо вы маладыя. Я ўжо аджыў свае гады». У аднаго з забойцаў (Ткачук) нават ружжо з рук выпала (А.Вакульчык). Але камісарскі загад быў выкананы. Адным з выканаўцаў быў Лукашык (прозвішча «Салавей»). Пасля забойства ён зняў з рукі Р.Скірмунта залаты гадзіннік і доўга насіў яго.

І толькі пасля смерці Р.Скірмунта людзі адчулі страту: «І нашто забілі пана? Нашто? Ён бы прэдседацелем быў бы ў нас. Ён быў звязаны з Масквой, з усімі. Прыйдзеш да яго, няма ў цябе чаго, што папросіш – дасць. Ён не адказваў. Жэнішся – і поля троху ўрэжа» (М.Кучыньская). Паводле Р.Цудзілы, людзі плакалі, калі даведаліся пра забойства.

Пазней, ужо ў часы нямецкай акупацыі прах Рамана і Баляслава Скірмунтаў быў перазахаваны. З месца забойства (г.зв. «Коранеўскі лес») целы забітых перавезлі ў парэчскі парк, дзе і пахавалі: «Было ўрачыстае пахаванне, але людзі баяліся выходзіць з дому. Глядзелі праз акенца. Ужо потым усе хадзілі да магілы» (М.Кучыньская).

**Подых з усходу**

У 1939 г. распачаліся таксама рабункі скірмунтаўскіх маёнткаў. У Моладаве, апроч палацу, разрабавалі родавыя могілкі. Н.Шаталава згадала, што гэта рабілі не мясцовыя жыхары, а зняволеныя, якіх прывезлі з усходу Беларусі дзеля будаўніцтва ваеннага аэрадрома. Па яе словах, менавіта яны разбівалі помнікі, раскопвалі магілы, шукаючы «скарбы». Пасля вайны гэтую справу працягваў дырэктар мясцовай школы: «А пасля наш дырэктар. Ён некі тожэ быў прыдурак. Разам з вучнямі выкапалі маладую жанчыну ды каля касцёла паставілі. Ды я нават хадзіла, сварылася... То яе назад потым паклалі» (Н.Шаталава).

Пасля рабунку ў Моладаўскім палацы зрабілі калгасную сядзібу, а ў касцёле – краму. Канчаткова і Моладаўскі і Парэчскі палацы былі зруйнаваныя падчас ваенных дзеянняў савецка-германскай вайны. Прычым, у 1943 г. партызаны ў Парэччы забілі апошнюю ўладальніцу маёнтку – сястру Рамана Алену Скірмунт.

**Сумнае ўражанне**

Напачатку 90-х г. магілы Рамана, Баляслава і Алены Скірмунтаў былі адноўлены. Галоўным ініцыятарам быў пінскі журналіст Вячаслаў Ільянкоў. Падчас першай экспедыцыі пад кіраўніцтвам прафесара Анатоля Федарука (Мінск) мы паспрабавалі ўласнымі сіламі аднавіць зруйнаваныя родавыя могілкі Скірмунтаў у Моладаве. Праца была даволі цяжкая. Цікавасць да нашых намаганняў праявілі пераважна мясцовыя бабулькі. Прыходзілі, сядалі, глядзелі, як мы працуем, і цяжка ўздыхалі.

Дотык да гэтых трагічных старонак нашай гісторыі пакінуў сумнае ўражанне. Між волі думалася пра тое, што сваімі ўласнымі рукамі беларусы вынішчалі будучыню сваёй зямлі. Забіты Раман Скірмунт мог бы стаць першым прэзідэнтам Беларусі. Упэўнены, што за яго дзеянні нам бы ніколі не было сорамна. Марыя Кучыньская на пытанне, ці мог бы Раман Скірмунт быць прэзідэнтам, упэўнена адказала: «Мог бы. Вопытны дзядзька быў...»

Алесь Смалянчук /Б. І./



# Роздум

**Радзім ГАРЭЦКІ**, экс-прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"

...З намі засталася толькі выява ахоўніцы зямлі беларускай -- Еўфрасінні Полацкай

10 год таму, 8--10 ліпеня 1993 года, у Мінску ў Вялікім тэатры оперы і балета адбыўся Першы з'езд беларусаў свету, які наладзіла ЗБС "Бацькаўшчына" разам з урадавымі структурамі Беларусі. Са створанага мастаком Э.Агуновічам сімвала з'езда з гонарам глядзела Еўфрасіння Полацкая на сваіх нашчадкаў, якія ўпершыню сабраліся на з'езд і ажыццявілі заклік Янкі Купалы: "На Вялікі Сход. Па Бацькаўшчыну!".

З замежжа тады прыехалі сотні суайчыннікаў. Многія з іх, асабліва з далёкага замежжа, трапілі на Бацькаўшчыну пасля некалькіх дзесяткаў гадоў і са слязамі на вачах углядаліся ў родныя мясціны, якія ў сэрцы трымалі з дзяцінства і снілі ў светлых снах успамінаў. Некаторыя падалі на калені і цалавалі родную зямлю. Былі і такія, што баяліся за сябе і з недаверам азіраліся вакол. Але ўжо аб'яўленая незалежнай краіна з адкрытым сэрцам спаткала суайчыннікаў...

Упершыню сабраліся разам прадстаўнікі беларусаў усяго свету, каб асэнсаваць сябе ў кантэксце сваёй прысутнасці ў свеце, кансалідаваць нацыю, абмеркаваць шляхі да сапраўднай незалежнасці, дзяржаўнага будаўніцтва і нацыянальнага адраджэння Беларусі. Тады мы з надзеяй глядзелі ў будучыню і нам здавалася, што гэты з'езд -- толькі пачатак магутнага працэсу новага адраджэння.

Але ў хуткім часе мы ўпэўніліся, што гэта быў яго апагей, бо ў далейшым такога маштабу сустрэчы і такога адзінства волі і мэтаў нацыі стварыць не ўдалося, аб чым сведчаць Другі і Трэці з'езды беларусаў свету.

Як сёння, бачу: у тэатры лунаюць прыгожыя старадаўнія бел-чырвона-белыя сцягі, толькі наперад кліча непераможны вершнік "Пагоні". Гэтыя святыя дзяржаўныя сімвалы былі прыняты парламентам незалежнай Беларусі, прычым у залу парламента сцяг урачыста ўнеслі знакамітыя дэпутаты. А ўжо праз чатыры гады Іван Ціцянкоў, першы кіраўнік Упраўлення справамі А.Лукашэнкі, ірваў на кавалкі такі сцяг, бо дзяржаўныя сімвалы былі заменены на падобныя да былых савецкіх, а за тыя, папярэднія, стала магчымым атрымаць вялікі штраф ці нават трапіць у турму.

І ўсё ж памяць вяртае мяне ў той гістарычны дзень. Прагучаў недзяржаўны, але сапраўды нацыянальны гімн "Пагоня", які выканаў Дзяржаўны народны хор пад кіраўніцтвам Міхася Дрынеўскага. Зараз у краіне ўстаюць пад музыку афіцыйнага гімна БССР.

Памятаю: з'езд адкрыў Васіль Быкаў -- першы прэзідэнт ЗБС "Бацькаўшчына". Адзначыўшы цяжкі лёс беларускага народа, ён папярэдзіў: "Нават тыя малыя рэшткі дэмакратыі і свабоды, якія вялізнымі высілкамі дэмакратычных сілаў, і найперш іх авангарду -- Беларускага Народнага Фронту -- адваяваны ў камуны, рызыкуюць быць адабранымі назад. [...] Толькі аб'яднанне, салідарнасць ... вызначаць нацыянальна-дэмакратычнае адраджэнне нашай мілай Айчыны, Маці-Беларусі". Не думаў тады Васіль Уладзіміравіч, выдатнейшы пісьменнік і грамадскі дзеяч, што хутка ён вымушаны будзе пакінуць Беларусь і жыць і працаваць за межамі Радзімы…

Некаторыя вядомыя палітычныя дзеячы наогул некуды зніклі ў невядомасць…

Не, ніколі не забуду той Першы з'езд беларусаў свету. Вялікі тэатр поўніўся роднай беларускай мовай, якая тады была адзінай дзяржаўнай і асабліва шырока пачала распаўсюджвацца пасля прыняцця "Закона аб мовах". Замежныя беларусы дадалі колькасць беларускамоўных грамадзян, і таму нават на вуліцах Мінска можна было адчуць прыгажосць роднай мовы. Кіраўнік дзяржавы С.Шушкевіч і многія члены ўрада і парламента (нам.старшыні Савета міністраў М.Дзямчук, міністры П.Краўчанка, А.Бутэвіч, Я.Вайтовіч, В.Гайсёнак, нам.міністра У.Гілеп, І.Карэнда і інш.) выступалі па-беларуску. Пасля сумна вядомага рэферэндуму і прыняцця "дзвюхмоўя" роднае слова зусім знікла з афіцыйнага ўжытку -- пачуць яе ад кіраўніка дзяржавы ці прадстаўніка ўлад успрымаецца як нейкае рэдкае цуда. Шкада, але ўсюды карыстаюцца ёй усё менш і менш.

На пачатку 90-х гадоў пашыраліся дэмакратычныя і беларускамоўныя СМІ, навучальныя ўстановы. Па тэлебачанні і радыё можна было ўбачыць і пачуць прадстаўнікоў розных думак -- і ўладных, і апазіцыйных -- іх спрэчкі паміж сабой. Адкрыўся і выдатны Гуманітарны ліцэй імя Я.Коласа пад кіраўніцтвам У.Коласа. Цяпер ён пад пагрозай знішчэння. Беларускамоўныя садкі, можна сказаць, зніклі зусім, школы можна пералічыць па пальцах, а ВНУ так і не паспелі стаць беларускамоўнымі. Закрываюцца многія газеты, здымаюцца непажаданыя рэдактары часопісаў і газет і змяняюцца на больш паслухмяных шляхам аб'яднання ў "холдынг", атрымання вялікіх штрафаў, а то і зняволення; бібліятэкам забаронена выпісваць недзяржаўныя газеты і г.д.

У хуткім часе пасля з'езда была прынята Канстытуцыя краіны, на якой клятву прыняў і першы прэзідэнт і лічыў, што яна дае яму "царскія паўнамоцтвы", але з часам выгукнула яго незадаволенасць, таму ён яе падправіў, а цяпер свае ўказы і дэкрэты паставіў вышэй, чым многія яе артыкулы. Тады пашыралася выбарнасць кіруючых асоб у розных сферах жыцця -- урадавых структур, дырэктароў, але яе змянілі сістэмай "вертыкалі". Гэты працэс закрануў нават навучальныя і навуковыя ўстановы. Напрыклад, у Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі пры выбарах прэзідэнта і бюро прэзідыума мы па старой савецкай звычцы прыйшлі ўзгадніць кандыдатуры да тагачасных кіраўнікоў дзяржавы С.Шушкевіча і В.Кебіча, дык яны адказалі: "Выбірайце каго хочаце, гэта Ваша справа". У выніку кіраўніцтва Акадэміі навук тады першы і, на жаль, пакуль што і апошні раз было выбрана па-сапраўднаму дэмакратычным шляхам. Зараз указам А.Лукашэнкі ўсе галоўныя кіруючыя пасады не выбіраюцца, а прызначаюцца, што пярэчыць шматгадовай традыцыі ўсіх акадэмій, статуту НАНБ і прынятаму раней закону. На жаль, паслухмянасць членаў Акадэміі пад ціскам пачуцця страху і халуйства прывяла да ўключэння гэтага ўказа ў новы статут НАН Беларусі пры адкрытым (а не тайным) амаль аднадушным галасаванні.

На пачатку 90-х гадоў грамадскасць Беларусі з надзеяй і аптымізмам глядзела на будучыню краіны, якая адрывалася ад таталітарызму і паступова крочыла ў цывілізаваны мір, абмяркоўваючы магчымасці палітычнай і эканамічнай незалежнасці (свая фінансавая сістэма і грошы; Чарнаморска-Балтыйскі калектар, каб мець некалькі крыніц паступлення паліва; вольны шматпалярны рынак і інвестыцыі; перабудова сельскай гаспадаркі і г.д.). Здавалася, што Беларусь цвёрда стала на гэты шлях і ў хуткім часе стане па-сапраўднаму краінай еўрапейскага ўзроўню, апраўдае сваё геаграфічнае палажэнне ў цэнтры Еўропы, тым больш што не прыхільна пачалі прымаць у свеце, асабліва калі ўбачылі яе мірныя намеры (дзяржава адмовілася ад ядзернай зброі), імкненне да росквіту і сяброўства. Але кіраўніцтва краіны ўмудрылася амаль з усімі дзяржавамі пасварыцца, апрача толькі дзяржаў з таталітарнымі рэжымамі. Поўная прывязка эканомікі да Расіі, палітыка аб'яднання ў адзіную дзяржаву Расіі і Беларусі (па-сапраўднаму мала выгодная для абедзвюх краін), шчырыя прызнанні А.Лукашэнкі ў тым, што ён прыхільнік парадку тыпу мінулага германскага і што "краіну сваю за цывілізаваным мірам не павядзе", прывяло да магчымасці згубы яе суверэнітэту і яшчэ больш знізіла аўтарытэт Беларусі ў свеце і паставіла ў ізаляцыйны тупіковы стан.

А.Лукашэнка і паслухмянае яму кіраўніцтва краіны ўпарта рухаюць Беларусь у савецкае мінулае: прасавецкія сцяг, герб і гімн; аднаўленне піянерыі і камсамолу; пасады, падобныя да былых палітрукоўскіх; стварэнне ідэалогіі (пакуль нікому не вядома якой, але блізкай да бальшавіцкай), забарона крытыкаваць былых савецкіх "вождей", у тым ліку Леніна і Сталіна (нягледзячы на знішчэнне па іх загадах мільёнаў невінаватых людзей); выкарыстанне слова "прэзідэнт" у адным выпадку -- у адносінах да сябе ("генеральны сакратар" таксама быў толькі адзін у СССР), хаця "прэзідэнт" і "старшыня" -- гэта амаль сінонімы і г.д.

Трэба помніць, што ў гісторыі рух назад звычайна не бывае перспектыўным, і таму гэта з'ява будзе часовая. Першы з'езд беларусаў свету паказаў, што беларусы могуць аб'яднацца для пабудовы новай незалежнай дэмакратычнай і багатай краіны, але азначаныя падзеі і з'явы пакуль не даюць магчымасці здзейсніць гэтую галоўную нацыянальную ідэю адраджэння. На жаль, мы сталі на мяжы страты сваёй незалежнасці, і з намі засталася толькі выява ахоўніцы зямлі беларускай -- Еўфрасінні Полацкай, якая з вялікім сумам і крапелькамі слёз на вачах углядаецца ўсё яшчэ з надзеяй, але ўжо значна слабейшай, у свой запалоханы, збяднелы, занадта талерантны народ...

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Няшчырасьць

**За апошнія дваццаць гадоў колькасьць сьведамых беларусаў павялічылася ў сотні разоў. Ужо даўно ня скажаш, што ведаеш усіх прысутных на Купальлі або прэзэнтацыі кнігі сябра. Аднак ад усяго гэтага ня стала большае пэўнасьці ў тым, што нацыя ёсьць, што яна «адрасла» пасьля ўсіх масавых «высечак» ХХ ст. Чаму так адбываецца? І што магло б даць тую пэўнасьць? І што, урэшце, было б галоўным паказьнікам таго, што нацыя ёсьць?**

У нас быў досвед ці ня ўсіх формаў ды мэтадаў адраджэньня. Пераглядаючы вынікі, я бачу, што адзін прынцып пакуль што так і не прыжыўся. Гэта беларуская мова дома. Ня ў краме, не на вуліцы і не на сцэне — Бог зь імі, гэтага мы ўжо навучыліся. Дома. З жонкаю, з мужам, зь дзецьмі. Там, дзе правілы усталёўвае не палітычны рэжым, а ты сам.

Пачынаю згадваць сваіх калегаў, вядомых у Беларусі беларусаў, і аказваецца, што ці ня большасьць зь іх, якія ўсё жыцьцё публічна супрацьстаяць русіфікацыі, дома і зь дзецьмі гавораць па-расейску. Не кранаю старых — мы ня ведаем іхных страхаў, думаю пра сваё пакаленьне. Адкуль жа возьмецца нацыя?

Беларуская нацыя возьмецца зь беларускамоўнага дому.

Згадайце досьвед балтыйскіх краінаў пад саветамі. У іхным вонкавым жыцьці нічога магло й не нагадваць, што яны літоўцы ці латышы. Але дома, зь дзецьмі гаварылі па-свойму. Сукупнасьць гэтых дамоў і была нацыяй, ім самім давала адчуваньне нацыі. На вуліцы ці ў кавярні гавары як хочаш — гэта для чужога вока важна. А вось у беларускім доме па-беларуску — гэта толькі для сябе, для нас. Інакш мы адзін аднога руйнуем горш, чым любая русіфікацыя.

Згадайце, як зьдзівіла многіх у апошнім перапісе, што гэтак шмат беларусаў гавораць дома па-беларуску. Людзі інтуітыўна адчуваюць, што калі дома не па-свойму — якія ж яны беларусы?

Некалі Барыс Сачанка казаў, што ня так важна, у якую школу пойдуць ягоныя дзеці — беларускую ці расейскую, — як тое, на якой мове яны будуць размаўляць дома. Школу, як і ўсе нацыянальныя грамадзкія інстытуцыі, можна зачыніць. І калі яна — апошняе, на чым трымалася нацыя, дык ня будзе і нацыі. Дому не закрыеш. Прынамсі, давялося б фізычна зьнішчыць ягоных насельнікаў.

Не магу сказаць, што маё пакаленьне ўвасобіла ў жыцьцё ідэю беларускага дому. Не ўзмацнілася адчуваньне таго, што мы нацыя. Іншы раз заўважаю, што лягчэй беларускі дом ствараецца ў асяродку людзей, якія маюць негуманітарныя прафэсіі, у людзей непублічных. У іх няма падставаў адчуць няшчырасьць.

Застаецца надзея на пакаленьне сёньняшніх маладзёнаў. Яны мысьляць больш прагматычна і больш прагматычна будуюць свой побыт. Застаецца надзея таксама на пакаленьне нашых дзяцей, якім належыць паўтарыць наш ня вельмі ўдалы досьвед зь лепшым вынікам.

**Сяргей Дубавец** (Н. Н.)

**************************************************

# Дзе навучаць дзіця па-беларуску?

У нашай краіне склаліся такія абставіны, што беларуская мова з кожным годам выцясняецца са школы. Дзеці беларусаў па сутнасці пастаўлены чыноўнікамі ад адукацыі ў такія ўмовы, што не маюць магчымасці атрымліваць адукацыю на сваёй роднай мове пасля сумнавядомага рэферэндуму аб увядзенні другой дзяржаўнай мовы — рускай.

Руская мова выцясніла беларускую мову з усіх сфераў ужывання. Яе вы не пачуеце на ўроках геаграфіі, біялогіі, гісторыі, фізікі і іншых прадметаў.

Уся дакументацыя ў школах горада вядзецца на рускай мове. А згодна з апошнім перапісам, у нашай краіне беларускую мову назвалі роднай 86% насельніцтва. Адсюль лагічна было б і будаваць сістэму адукацыі, зыходзячы з вынікаў перапісу. На жаль, гэтага не адбываецца.

Наадварот, інтэнсіўна праганяецца родная мова з Беларусі. Парушаецца канстытуцыйная права нашых грамадзян атрымліваць адукацыю на роднай мове. Назавіце такую краіну ў Еўропе, дзе яшчэ абарыгены не навучаюцца ў школах на сваёй роднай мове?

Толькі ў нас, у Беларусі, адбываецца такая моўная дыскрымінацыя мясцовага насельніцтва.

Я, жыхар Слоніма, Ліцьвін Уладзімір звярнуўся ў Слонімскі райвыканкам з просьбай указаць школу, дзе дзіця зможа навучацца на роднай мове.

Вось, які атрымаў адказ:

"Упраўленне адукацыі Слонімскага райвыканкама паведамляе, што да 01.06.2003г. у агульнаадукацыйных школах горада ідзе камплектаванне падрыхтоўчых класаў, у рамках якога праводзіцца анкетаванне бацькоў з мэтай вылучэння адукацыйнага маршруту кожнаму дзіцяці, у тым ліку і для вызначэння асноўнай мовы навучання (рускай ці беларускай).

Упраўленне адукацыі будзе гатова даць адказ у чэрвені месяцы бягучага года, калі паступіць і прааналізуецца інфармацыя па гарадскіх школах аб колькасці дзяцей, бацькі якіх вызначылі для свайго дзіцяці асноўнай мовай навучання беларускую.

Начальнік упраўлення Г.І. Шмялёва".

З адказу чыноўнікаў бачна, што яны яшчэ будуць вывучаць гэтае пытанне, замест таго, каб перавесці ў горадзе не менш за шэсць школ на беларускую мову адукацыі. Гэта было б справядліва і па логіцы жыцця, і па асноўнаму закону — Канстытуцыі.

Колькі ж трэба чакаць гэтага?

Мы, беларусы, не павінны мірыцца з доляй, якую нам адводзяць прышлыя людзі і свае манкурты..

*****************************************

IN MEMORIAM

## Памяці Янкі Жамойціна

Дарог у жыцці Янкі Жамойціна было надзвычай многа. У міжваенны перыяд вандраваў ён у Варшаву, каб там вучыцца ў праваслаўнай мітрапольнай семінарыі і адначасова ў польскай гімназіі. У 1939-1941 гадах вучыўся ён у савецкай дзесяцігодцы ў Лідзе. Падчас нямецкай акупацыі кіраўніцтвам Беларускай незалежніцкай партыі быў накіраваны на працу ў Саюз беларускай моладзі дзеля пашырэння ідэі незалежнасці сярод маладога пакалення. Знаходзячыся ў пасляваеннай Польшчы быў ён у 1949 годзе арыштаваны савецкімі органамі Міністэрства дзяржаўнай бяспекі, вывезены ў Мінск і там засуджаны на 25 гадоў зняволення. З Валадарскай мінскай турмы перасыльнымі этапамі ў Петрапаўлаўску і Акмолінску быў перавезены ў гулаг Спаск, што на ўскраіне Караганды.

Пасля Хрушчоўскай адлігі на працягу 1956 года ў лагер прыехала камісія Вярхоўнага Савета СССР для перагляду спраў зняволеных зэкаў. Адносна Янкі Жамойціна камісія прыняла рашэнне „освободить со снятием судимости и поражения прав". Пасля сямігадовага зняволення і розных перыпетый 1 студзеня 1957 года Янка Жамойцін пераехаў у Варшаву, дзе жыла яго сястра Людміла. У яе застаў свайго сына Леслава і даведаўся, што жонка Янкі загінула ў дарожнай катастрофе. Неўзабаве Янка ажаніўся з надзвычай сімпатычнай Галінай, якая памагла яму выхаваць сына Леслава. Янка закончыў Варшаўскі універсітэт і атрымаў дыплом магістра адміністрацыі.

Паводле слоў жонкі Галіны, Янка Жамойцін зусім не ашчаджаўся ў жыцці. Пасля пераходу на пенсію ён астаўся працаваць у скураным кааператыве „Corium" на паўстаўкі. Шмат працаваў на сваёй дачы пад Варшавай. Быў членам Літаб'яднання „Белавежа" і БГКТ. Многа гадоў выконваў абавязкі старасты ў царкве на Волі. І пісаў, безупынна пісаў...

Напісаў ён біяграфічную аповесць „З перажытага", апублікаваную Праграмнай радай тыднёвіка „Ніва" ў кніжцы „Лёс аднаго пакалення" (Беласток 1996). Скарочаная версія аповесці з'явілася ў кніжцы „Беларускія пісьменнікі Польшчы" (Мінск 2000). Апублікаваў ён таксама шмат літаратурна-крытычных прац, прысвечаных дасягненням „Белавежы". У „Беларускім календары на 2002 год" апублікаваў абшырнае эсэ „Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа» — учора і сёння". У апошні час Янка Жамойцін шмат працаваў над гісторыяй Саюза беларускай моладзі падчас нямецкай акупацыі і, на жаль, не паспеў яе дакончыць.

Нягледзячы на стан здароўя — у мінулым годзе меў складаны пералом нагі і даўжэйшы час ляжаў у шпіталі — адважыўся на сваёй машыне паехаць з жонкаю на каталіцкія Велікодныя святы да сына Леслава, які мае пансіянат у Быстшыцы-Татшанскай (400 км ад Варшавы). Там Янка захварэў грыпам. Вярнуўшыся ў Варшаву пасля аднадзённага адпачынку адправіўся на сваёй машыне з братавай унучкай і яе аднагадовым дзіцём у Ліду да сястры і брата на праваслаўны Вялікдзень. Стоячы ў чарзе на польска-беларускай мяжы 25 красавіка схапіў раптам Янку шырокі інфаркт і ўміраючага не ўдалося ўжо рэанімаваць.

Раніцай 29 красавіка, трэцяга дня праваслаўнага Вялікадня, адбылося пахаванне нябожчыка. Паніхіду ў царкве на варшаўскай Волі служыла восем святароў і двух дыяканаў. Развітацца з памерлым прыйшло многа людзей. Над магілай на мясцовых праваслаўных могілках з прачулымі прамовамі выступілі настаяцель царквы св. Іаана Лесвічніка на Волі а. Анатоль Шыдлоўскі і старшыня Рамесніцкай палаты, якой падлягаў кааператыў, у якім працаваў Янка Жамойцін. Намагільная пліта шчыльна пакрылася вянкамі і букетамі кветак, прынесенымі роднымі, сябрамі і добрымі знаёмымі нябожчыка.

Няхай Табе, Дарагі Янка, выгнанніку са сваёй Айчыны, гасцінная польская зямелька будзе пухам! Няхай Цябе, шматпакутнага, Усявышні Бог мае ў сваёй апецы! *Віктар ШВЕД* «НІВА»

IN MEMORIAM

## Сьв. Памяці

# Міхась КУХАРЧЫК

1922 — 2003

Адыйшоў у вечнасьць 20-га красавіка 2003 г. у Торонто, Канада.

Нябожчык Міхась нарадзіўся на Беларусі, дзе і атрымаў сваю падставовую адукацыю.

Пасьля вайны сям'я Кухарчыкаў эміґравала ў Канаду. Тут Міхась уключыўся ў беларускую грамадзкую і рэлігійную дзейнасьць. Быў заснавальнікам Сьв. Еўфрасіньні Беларускае Праваслаўнае царквы, у якой стала займаў галоўныя адміністрацыйныя пасады.

Міхась Кухарчык пакінуў у смутку жонку Аляксандру і сыноў Янку і Волтэра з унукамі. Пахаваны ў Таронто, Канада.

**Вечная яму памяць!**

# Візітная картка Беларусі

Сяргей **КУРКАЧ**

Нацыянальны атлас ва ўсіх цывілізаваных краінах свету з'яўляецца абавязковым атрыбутам дзяржаўнасці нароўні з гербам, сцягам і гімнам. Па сутнасці, нацыянальны атлас — гэта комплексны навуковадаведачны картаграфічны твор, у якім адлюстроўваецца ўсё жыццё дзяржавы, ад ландшафтаў прыроды і да культуры і навукі, эканомікі і нават надвор'я таго кавалачка зямлі на планеце, які мае назву Радзіма.

Як паведаміў начальнік аддзела картаграфіі Камітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі пры Сауміне краіны Мірон ПАШКЕВІЧ, ідэя стварэння нацыянальнага атласа з'явілася ў картографаў адразу пасля ўзнікнення незалежнай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь.

Распрацоўка праекта нацыянальнага атласа дзяржавы была пачата творчым калектывам навукоўцаў БДУ і картографаў Мінархітэктуры яшчэ ў 1994 годзе. І толькі праз два гады канцэпцыя нацыянальнага атласа была афіцыйна зацверджана. У канцэпцыі было вызначана 19 раздзелаў атласа, яго сціслы змест, распрацаваны макет. Потым па кожнаму раздзелу ствараўся высокакваліфікаваны аўтарскі калектыў. У стварэнні творчых калектываў прымалі ўдзел усе навукова-даследчыя інстытуты краіны. Больш чым 460 навуковых супрацоўнікаў 60 інстытутаў дзяржавы нястомна працавалі над складаннем картаграфічнай і тэкставай інфармацыі нацыянальнага атласа. У кожны раздзел яго ўклалі свае веды і нават сэрцы прафесары, дактары навук і кіраўнікі інстытутаў па ўсіх галінах эканомікі і навукі нашай краіны. Але грандыёзнае нацыянальнае выданне патрабавала вялікіх грошай. Канчаткова вырашыў фінансавае пытанне праекта толькі адпаведны ўказ прэзідэнта краіны аб стварэнні нацыянальнага атласа Беларусі, які быў падпісаны ў маі 1999 года.

Менавіта тады Камітэтам па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі пры Сауміне краіны было створана новае прадпрыемства «Белкартаграфія», з якім потым і супрацоўнічалі навукоўцы. Толькі за год навуковай элітай краіны быў напрацаваны ўвесь аўтарскі арыгінал атласа.

Тады падрыхтоўку выдавецкіх арыгіналаў, выкарыстоўваючы аўтарскія матэрыялы, пачалі спецыялісты-картографы. Гэту працу па камп'ютарнай тэхналогіі супрацоўнікі «Белкартаграфіі» выканалі ўжо праз паўтара года. Увесь гэты час над стварэннем нацыянальнага атласа працавала 80 высакакласных спецыялістаў. І толькі потым на працягу паўгода на Мінскай фабрыцы каляровага друку друкаваўся і пераплятаўся гэты дзяржаўны фаліянт.

Агульны тыраж нацыянальнага атласа вагой каля 5 кілаграмаў, аб'ёмам 292 старонкі, дзе размешчаны 593 карты, складае толькі 2 тысячы экзэмпляраў.

— Тыраж невялікі, — лічыць Мірон Пашкевіч, — але распрацоўшчыкі выпускалі яго такім аб'ёмам, улічваючы яго ранг прадстаўнічага класа. Галоўным чынам тыраж нацыянальнага атласа прызначаны для вышэйшых дзяржорганаў, пасольстваў за межамі краіны, іншых дзяржаўных устаноў, навукова-даследчых інстытутаў і універсітэтаў. Таму падчас стварэння атласа такога кшталту была набыта вельмі дарагая і якасная папера ў Францыі. Гэта спецыяльная папера для шматколернага прагону з абодвух бакоў ліста. Якасць паперы захоўваецца на высокім узроўні нават праз 20—30 гадоў актыўнага карыстання атласам.

— Чуў, што некалькі экзэмпляраў гэтага рарытэта трапіць у свабодны продаж. Па якой цане яго магчыма набыць?

— Візітная картка Беларусі мае маленькі тыраж і дарагія фарбы і паперу. Таму сабекошт гэтага атласа атрымаўся вельмі вялікі. Адзін экзэмпляр нацыянальнага атласа, па ацэнках спецыялістаў, каштуе для распрацоўшчыкаў недзе 320—330 долараў. Некалькі атласаў будуць прададзены па кошту 350 долараў, каб такім чынам кампенсаваць свае расходы на бясплатную рассылку атласаў дзяржустановам. Такі кропкавы гандаль будзе ажыццяўляцца па папярэдніх заяўках буйных прадпрыемстваў і камерцыйных структур.

— Ці плануецца зрабіць падобны нацыянальны атлас для насельніцтва?

— Усе былыя напрацоўкі па атласу захаваліся і зараз прадпрыемства «Белкартаграфія» працуе над стварэннем крыху меншага па фармату атласа. Там будуць карты меншага маштабу і папера не такой добрай якасці. Але галоўнае, што гэты атлас стане даступным для звычайнага спажыўца. Тыраж такога атласа будзе не менш як 50 тысяч экзэмпляраў. Атласы такога кшталту будуць накіроўвацца ў школы, тэхнікумы і іншыя навучальныя ўстановы. Мы разлічваем, што ў свабодным гандлі для насельніцтва нацыянальны атлас такога фармату будзе каштаваць не больш як 40 тысяч рублёў.

Нацыянальны атлас Беларусі выкананы з каментарыямі і іншай інфармацыяй на матчынай мове. Зараз вядзецца работа па перакладу яго на рускую мову, і ёсць меркаванне зрабіць наш атлас таксама на англійскай мове. Англамоўныя атласы будуць накіроўвацца замежным дыпламатычным структурам, якія размешчаны на тэрыторыі нашай дзяржавы.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Васіль Быкаў пахаваны 25 чэрвеня ў Менску

Жалобная цырымонія адбылася а 10.00 па мясцовым часе, а грамадзянская паніхіда --апоўдні. Была сфармаваная камісія па арганізацыі пахаваньня на чале зь міністрам культуры Беларусі Леанідам Гуляка.

.Васіль Быкаў пахаваны на Усходніх могілках у Менску. Пісьменьнік памёр на 80-ым годзе жыцьця пасьля цяглай хваробы 22 чэрвеня ў Беларускім навукова-дасьледчыцкім інстытуце анкалёгіі й мэдычнай радыялёгіі імя Аляксандрава.

# Чакаецца нашэсце беларусаў у Польшчу

18 і 19 ліпеня Польшчу чакае вялікае нашэсце беларусаў. А прычанай гэтаму з'яўляецца рок-фестываль "Басовішча-2003"

Сёлетні фэст -- чатырнаццаты па ліку. Арганізаваны ён быў з мэтай раскруткі беларускага року яшчэ ў 90-м годзе Беларускай асацыяцыя студэнтаў у Польшчы.

Адбываецца ўсё так. На Беларусі ладзяцца адборачныя туры сярод рок-гуртоў, з іх адбіраюцца тыя, хто паедзе ў Польшчу. Сам фэст доўжыцца дзве ночы. У першую высвятляецца пераможца з ліку польскіх і беларускіх выканаўцаў, а ў другую -- выступаюць госці фестывалю. У гэтым годзе ў Польшчу паедуць такія гурты, як "IQ48", "Тэзаўрус" і іншыя. Усіх прэтэндэнтаў на паездку было каля 40, з іх журы выбрала восем пераможцаў.

Суддзямі на адборачных канцэртах былі: музыкальны крытык Вітаўт Мартыненка, кіраўнік гурта "ULIS" Вячаслаў Корань і прадстаўнікі БАСа. Дарэчы, Мартыненка і Корань судзяць адборачныя канцэрты ўжо не першы год.

Рок-фестываль "Басовішча-2003" пройдзе ў Гарадку пад Беластокам.

************************************************************